# 5

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

**У НУМАРЫ: Я. Васілевіч.** КП(б)Б у барацьбе за бальшавіцкую лінію. **А. Сянькевіч.** Барацьба з ухіламі ў нацыянальным пытаньні і нацрабоце. **С. Будзінскі.** Тры проблемы. **А. Курцік.** За бальшавіцкую якасьць нашага друку. **Р. Каршакевіч.** Вынікі калгаснага будаўніцтва. **Л. Якаўлеў.** Апартуністыя ў барацьбе супроць партыі. **Ц. Пракопчык.** Аб тэмпах калгаснага будаўніцтва на Беларусі ў сувязі са скажэньнямі партыйнай лініі. **Матар'ялы і дакуманты.**

МЕНСК
1930

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 5
МАЙ




МЕНСК — 1930

Я. Васілевіч

# КП(б)Б у барацьбе за бальшавіцкую лінію

## (Ад XII да XIII зьезду КП(б)Б)

Становішча БССР, як форпосту Савецкага Саюзу, які знаходзіцца на граніцы з капіталістычным Захадам, крайняя адсталасьць гаспадаркі, што засталася ў спадчыне ад царызму, амаль поўная адсутнасьць прамысловасьці, а адсюль і слабы колькасны пралетарыят, складаны нацыянальны пераплёт,—усё гэта значна ўскладняе задачы партыі ў абсягу кіраўніцтва соцыялістычным будаўніцтвам нашай рэспублікі.

Няма патрэбы гаварыць аб тых вялізарных дасягненьнях, якія мае Савецкая Беларусь за ўсе апошнія гады ў абсягу аднаўленьня зруйнаванае гаспадаркі і яе соцыялістычнай рэконструкцыі. За пэрыод ад XII зьезду КП(б)Б, БССР, пад кіраўніцтвам нашай партыі, зрабіла вялізарны крок наперад у справе індустрыялізацыі і соцыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі. *Пры дапамозе ўсяго Савецкага Саюзу мы маем вялізарныя дасягненьні ва ўсіх галінах гаспадарчага жыцьця краіны.* Даволі прывесьці толькі некаторыя лічбы, каб бачыць, які вялізарны скачок зроблены Савецкай Беларусьсю за першыя паўтара гады пяцігодкі. Калі 1928-29 г. даў рост агуловай продукцыі прамысловасьці БССР на 45,7 проц., то 1929-30 г. павінен даць рост на 77,5 проц. Сума ўкладаньняў у капітальнае будаўніцтва ў 1928-29 г. раўнялася 25,8 млн. руб., у 1929-30 г. яна выяўляецца ўжо ў суме каля 50 млн. руб. На будучы год урад БССР намячае ўкладаньне ў прамысловасьць у суме, якая больш чым у два разы перавышае ўкладаньні 1929-30 г. Да канца бягучага году ў БССР будзе пушчана першая раённая Асінаўская электрастанцыя імя т. Сталіна.

На аснове росту прамысловасьці ў БССР адбываецца рост колькасьці пролетарыяту.

Падрыхтаваная ўсім папярэднім пэрыодам разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсім Саюзе, БССР з гэты пэрыод усутыч падышла да практычнага вырашэньня задачы соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Перамагаючы хутарскую сыстэму, якая значны час падтрымлівалася праваопортуністычнай політыкай беларускага Наркамзему, ламаючы шалёнае супраціўленьне беларускага кулацтва, якое знаходзіла часта простае непасрэднае падтрыманьне замежнага капіталу,—наша партыя, здолела мобілізаваць шырокі рух асноўных сялянскіх мас беларускай вёскі за колектывізацыю. Гаворачы словамі т. Сталіна, мы маем і ў нас у БССР, *бясспрэчны паварот вёскі ў бок соцыялізму.*

Выводзячы БССР на шырокую галоўную дарогу індустрыяльна-саўгасна-колгаснага будаўніцтва, партыя, дзякуючы правільнаму вырашэньню нацыянальнага пытаньня дабілася нясумненна буйных дасягненьняў у абсягу будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры, у абсягу савецкага нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Ва ўмовах БССР, дзе мы маем значную праслойку дробнай буржуазіі, дзе яшчэ моцныя і жывучыя традыцыі нацыяналізмаў усіх колераў у асяродзьдзі некаторых пластоў працоўных, дзе націск клясавага ворага на асобныя зьвяны партыі і рабочае клясы асабліва моцны ў выніку адноснай слабасьці пролетарыяту,—тут мы маем нясумненна асабліва спрыяючую глебу для правых настрояў, для правай небясьпекі.

На якіх вучастках перш за ўсё мы мелі ў нас, у БССР, скрыўленьні лініі партыі і як ішла наша барацьба з гэтымі скрыўленьнямі?

Партыя правяла рашучую барацьбу з праваопортуністычнай лініяй Наркамзему БССР, што выяўлялася ў практыцы насаджэньня кулацкіх хутароў, якая спрыяла росту і ўзмацненьню кулацкіх элемэнтаў беларускай вёскі і тармазіла рост і разьвіцьцё колектывізацыі сельскай гаспадаркі. Мы можам адзначыць, што парторганізацыя, хаця і з некаторым спазьненьнем, здолела ўвогуле ліквідаваць „прышчэпаўшчыну“, якая была клясычным выяўленьнем на практыцы праваопортуністычных тэорый аб пастаянных уступках капіталістычным элемэнтам вёскі, аб „мірным урастаньні кулака ў соцыялізм“ і на справе вяла да капіталістычнай рэстаўрацыі.

Партыі прышлося правесьці сур'ёзьнейшую барацьбу па ліквідацыі буйнага прарыву на культурным фронце, які выяўляўся ў тым, што Наркамасьветы і яго органы не забясьпечвалі цьвёрдай клясавай лініі ў абсягу культурнага будаўніцтва, не давалі рашучага адпору варожым нам ідэолёгіям, тармазілі справу выхаваньня і падрыхтоўкі новых пролетарскіх кадраў. Партыя правяла асабліва сур'ёзны бой супроць беларускага нацыянал-дэмократызму, які ў свой час значна ўмацаваўся на гэтых позыцыях.

Наша організацыя рэзка ўдарыла па праваопортуністычнай практыцы кіраўніцтва саматужна-прамысловай коопэрацыі, якое праводзіла праваўхілісцкую лінію і прывяло да засьмечаньня коопэрацыі кулацкімі і нэпманскімі элемэнтамі.

Трэба адкрыта прызнаць, што парторганізацыя і яе кіраўніцтва ў радзе выпадкаў *несваячасова* выкрывалі праваопортуністычную практыку і не даволі хутка *пераключаліся* на барацьбу з ёю.

У 1929 г. ЦК КП(б)Б пры падтрыманьні ўсёй організацыі, на аснове бальшавіцкай самакрытыкі пры значна павышанай політычнай актыўнасьці партыйнай масы і пролетарыяту, нанёс сур'ёзны ўдар па правым опортунізьме і ліквідаваў рад нясумненна сур'ёзных прарываў.

Калі мы возьмем увесь пэрыод ад XII зьезду КП(б)Б, пэрыод рашучай барацьбы на два фронты—супроць „левых“ памылак і правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі, то мы ўбачым, што своеасаблівай характарнай рысай для Беларусі зьяўлялася і зьяўляецца цеснае спляценьне паміж опортунізмам у агульных пытаньнях партыйнай політыкі і нацыянал-опортунізмам. Нацыянал-опортуністыя, якія выступалі супроць нацыянальнай політыкі партыі, няўхільна скочваліся і скочваюцца на праваопортуністычныя позыцыі і ва ўсіх іншых пытаньнях партыйнай політыкі. Нацыянал-опортунізм зьяўляўся і зьяўляецца адным з праяўленьняў правага ўхілу ў БССР. І наадварот, праваўхілісцкія элемэнты на справе змыкаліся ў барацьбе супроць партыі політычна і фракцыйна з нацыянал-опортуністымі.

Гэта характарная рыса выступала і ў той час, калі партыя змагалася з „прышчэпаўшчынай“, калі праваўхілісцкая практыка хутароў, практыка ўступак кулацтву зьлівалася з нацыянал-дэмократычнымі тэорыямі „аб самабытнасьці“ беларускай вёскі, аб тым, што сталыпінская хутаршчына зьяўляецца адзінамагчымым шляхам разьвіцьця сельскае гаспадаркі ва ўмовах Беларусі (кісьлякоўшчына). Гэта характэрная рыса выступала і выступае з усёй сілай і ў тэй барацьбе, якую вяла і вядзе партыя з нацыянал-опортуністычным ухілам унутры сваіх радоў, і перш за ўсё, з беларускім нацыянал-опортунізмам.

Наша організацыя за гэты пэрыод часу правяла сур‘ёзную ідэолёгічную барацьбу з цэлай сыстэмай нацыянал-опортуністычных поглядаў т. Жылуновіча, які ў найбольш выразнай і закончанай форме адлюстроўваў націск беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, ідэолёгіі беларускай буржуазіі, беларускага кулацтва, на пэўныя пласты нашай партыі. Погляды Жылуновіча скочваліся да простай політычнай пераклічкі з нацыянал-фашыцкімі ідэолёгамі па той бок граніцы.

Партыі прышлося правесьці сур‘ёзную барацьбу з нацыянал-опортуністычнымі поглядамі т. Чарвякова, якія цесна зьвязаны з правaопортуністычнымі ўстаноўкамі яго ў агульных пытаньнях партыйнай політыкі. На гэтых памылках у клясычнай форме выступіла спляценьне праваопортуністычных і нацыянал-опортуністычных поглядаў і ўстановак. Яны (памылкі) выяўляліся ў радзе выступленьняў, у якіх ідэалізаваліся буржуазна-нацыяналісцкія дарэволюцыйныя партыі Беларусі, скажалася гісторыя разьвіцьця КП(б)Б, пролетарскі характар Кастрычніцкай рэволюцыі на Беларусі падмяняўся дробна-буржуазным. Адначасова з гэтым т. Чарвякоў, сьледам за т. Бухарыным, яшчэ ў 1925 г. высунуў лёзунг „абагачайцеся“, а ў 1928 г. солідарызаваўся з бухарынскімі „Записками Экономиста“ і раіў на аснове гэтых „Записок“—шукаць спосабы для тлумачэньня ўсіх зьявішч нашага цяперашняга гаспадарчага становішча. Тут трэба адзначыць, што т. Чарвякоў, пад узьдзействам Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б і дзякуючы непрымірымай крытыцы ўсёй партыйнай організацыі, вымушан быў стаць на шлях самакрытыкі і прызнаньня памылковасьці сваіх поглядаў.

Зусім відавочна, што толькі дзякуючы сваячасовай мобілізацыі шырокіх мас рабочае клясы, і сваіх уласных радоў на барацьбу з усімі праяўленьнямі нацыяналізму, з нацыяналістычнымі тэндэнцыямі і ўхіламі ўнутры сваіх організацый, партыя здолела дабіцца тых сур‘ёзных посьпехаў, якія мы маем у абсягу зьнішчэньня нацыянальнай розьніцы, нацыянальных антагонізмаў, у абсягу ўмацаваньня позыцый пролетарыяту і партыі на нацыянальна-культурным фронце.

Але адначасова зусім відавочна, што тыя посьпехі, якія мы маем у абсягу барацьбы з нацыянал-дэмократызмам, зусім ня зьнімаюць проблемы далейшай узмоцненай барацьбы супроць шовінізму ўсіх колераў і адценьняў, супроць іх адлюстраваньня ў радох нашай партыі. Мы бачым, як агульнае абвастрэньне клясавай барацьбы і значнае ўзмацненьне супраціўленьня беларускага кулацтва, выкліканага політыкай яго ліквідацыі як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі, знаходзяць сваё няўхільнае адлюстраваньне ў актывізацыі шовінізму, перш за ўсё беларускага. Кулацтва ў беларускай вёсцы аказвае жорсткае супраціўленьне нашай політыцы. Па той бок граніцы, у Заходняй Беларусі, у выніку ўсёй політыкі польскага фашызму мы назіраем актывізацыю і консолідацыю сіл беларускай буржуазіі і беларускага кулацтва. Ваенныя, імпэрыялістычныя пляны Пілсудзкага

цесна зьвязаны з яго нацыянальнай політыкай, разьлічанай на тое, каб пры самай жорсткай барацьбе з нацыянальна-вызваленчым рэволюцыйным рухам адначасова знайсьці сабе соцыяльную апору ня толькі ў асобе беларускіх буржуазна-капіталістычных элемэнтаў Заходняй Беларусі, але і сярод кулацка-нэпманскіх элемэнтаў тут, у нас, у БССР. Мы бачым, як польскі фашызм, скарыстоўваючы заходня-беларускі нацыянал-фашызм, імкнецца аказаць простае падтрыманьне кулацкім элемэнтам нашай краіны. Беларускія нацыянал-фашыстыя, на чале з групай Луцкевіча, зьяўляюцца простымі ідэолёгамі беларускага нацыянал-дэмократызму і беларускай контрэволюцыі тут, у БССР. Мы маем адзіны політычны фронт паміж беларускім нацыянал-дэмократызмам у БССР і беларускім нацыянал-фашызмам у Заходняй Беларусі, адзіныя політычныя лёзунгі, адзіныя тэорыі, адзіную орыентацыю—орыентацыю на польскі імпэрыялізм. Правадыры і ідэолёгі нацыянал-дэмократызму ў БССР (Лёсік і інш.) падхапляюць політычныя лёзунгі Луцкевіча: Луцкевіч бярэ пад сваю „абарону“ беларускага кулака і беларускага нацыянал-дэмократа з БССР. І нацыянал-дэмократызм БССР, і заходня-беларускі нацыянал-фашызм зьяўляюцца саюзьнікамі польскага фашызму ў яго антысавецкіх плянах, у яго імкненьні падняволіць Савецкую Беларусь і абярнуць яе, накшталт Заходняй Беларусі, у калёнію польскага капіталу.

Барацьба з беларускім нацыянал-дэмократызмам, пры адначасовай узмоцненай і бязьлітаснай барацьбе з усімі іншымі нацыяналізмамі і асабліва вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам, і на далей застаецца важнейшай задачай нашай партыі.

З посьпехам праводзячы вялізарную працу па соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі, ажыцьцяўляючы задачы ліквідацыі кулака як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, мы выбіваем гэтым самым з-пад ног нацыянал-дэмократызму і беларускага нацыянал-фашызму іх асноўную соцыяльную апору і наносім гэтым самым удары і па ўсіх нацыяналісцкіх тэорыях, па самым нацыянал-дэмократызьме.

Перагіны і скажэньні партыйнай лініі, якія меліся ў справе колектывізацыі, нацыянал-дэмократы і іх падгалоскі ўнутры нашай організацыі, спрабуюць ужо скарыстаць для компромэтацыі самой ідэі колектывізацыі, для „доваду“ праваты сваіх контррэволюцыйных поглядаў аб „самабытнай“ сіле беларускага мужыка, які, моў, ня пойдзе ні на якія „комуністычныя экспэрымэнты“. Нацыянал-дэмократы, зьяўляючыся ідэолёгамі кулацтва, спрабуюць афарбаваць супраціўленьне кулацтва нашай політыцы ў нацыянальны колер; імкнуцца асобныя буйныя нашы памылкі скарыстаць для таго, каб ажывіць сваё нацыяналісцкія, контррэволюцыйныя ідэі.

Атрымаўшы рашучы адпор і разьбітыя ў адкрытай вылазцы супроць партыйнай політыкі, нацыянал-дэмократы спрабуюць зараз „тихой сапой“, вакольнымі „лазейкамі“ весьці барацьбу супроць нашай нацыянальнай політыкі, ставіць палкі ў калёсы соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя спробы выяўляюцца ў тым, што нацыянал-дэмократы выбіраюць для сваіх атак на нашу політыку „нявінныя формы“ ў выглядзе абароны нацыяналісцкіх поглядаў у абсягу мовазнаўства, на асобных вучастках акадэмічнай працы. і г. д. і г. д.

Як мы ўжо адзначалі вышэй, мы маем у нас узмацненьне ня толькі беларускага нацыянал-дэмократызму, але і ажыўленьне яўрэйскага, польскага шовінізму, антысэмітызму і, перш за ўсё, вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму. Партыя вядзе разгорнутую барацьбу з усімі гэтымі шовінізмамі і іх уплывам на некаторыя зьвяны

нашай партыі, не аслабляючы барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызмам, мы ўзмацняем барацьбу з расійскім шовінізмам, які аказвае супраціўленьне беларусізацыі, імкнецца фактычна зрываць і затрымліваць справу шпаркіх тэмпаў гаспадарчага разьвіцьця будаўніцтва БССР. Карэньні вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму знаходзяць сваё асяродзьдзе, якое жывіць іх, у рэштках чыноўніцтва, дробна-буржуазных элемэнтаў БССР і расійскім кулацтве і нэпманах.

Партыя нясумненна дабілася рэальных посьпехаў у беларусізацыі і карэнізацыі савецка-партыйнага апарату.

Аднак у гэтым абсягу мы маем яшчэ даволі сур'ёзныя супраціўленьні з боку расійскіх, яўрэйскіх і польскіх шовіністычных элемэнтаў. Гэтыя элемэнты спрабуюць, аб'яднацца з беларускімі нацыянал-дэмократамі супроць нацыянальнай політыкі, якая праводзіцца партыяй. Партыя бязьлітасна б'е па ўсіх тых, хто супраціўляецца беларусізацыі, тым самым наносячы руйнуючыя ўдары і па беларускім шовінізьме, які імкнецца баларусізацыю паставіць на рэйкі буржуазна-нацыяналісцкага парадку.

Як капітуляцыя бухарынскай групы на лістападаўскам пленуме ЦК Усе КП(б)Б ня зьняла з парадку дня барацьбы з праваопортуністычнай небясьпекай, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, так і прызнаньне сваіх памылак і капітуляцыя асобных правадыроў нацыянал-опортуністычнага ўхілу ў КП(б)Б ня зьнімае з парадку дня барацьбы з нацыянал-опортунізмам. Нацыянал-опортуністычныя концэпцыі (якія ідуць па лініі замазваньня кіруючай ролі пролетарыяту, пераацэнкі ролі інтэлігенцыі, адмаўленьня клясавага распластаваньня ў беларускай вёсцы і г. д.) неперавожаны яшчэ да канца і ўзмацняюцца якраз зараз у пэрыод абвастрэньня клясавай барацьбы, узмацненьня супраціўленьня кулацкіх элемэнтаў. Прыкладна-ж такія тэндэнцыі мы маем і ў яўрэйскіх і польскіх нацыяналістычных элемэнтаў у КП(б)Б (бундыцкія настроі, польскі нацыянал-опортунізм і г. д.). Калі нацыянал-опортуністычныя элемэнты ўнутры партыі не адважваюцца выступаць адкрыта па актуальных проблемах політыкі партыі ў выніку рашучага адпору, данага партыяй, то яны спрабуюць працягваць свае погляды пад маскай экскурсій у гістарычнае мінулае, г. зн. там, дзе не заўсёды, з прычыны слабасьці нашых кадраў, ім даецца своечасовы і рашучы адпор. Уся практыка барацьбы па „гістарычных“ пытаньнях—ідэалізацыя дробна-буржуазных нацыянал-соцыялістычных організацыі (беларуская соцыялістычная грамада 1905 г., імкненьне правесьці рэзкую мяжу паміж гэтымі організацыямі і організацыямі буржуазна-нацыяналісцкімі, імкненьне замазваць тое нацыяналістычнае, што было ў гэтых дробна-буржуазных організацыях)—паказвала і паказвае, што яна няўхільна перарастала і перарастае ў прынцыповыя разгалосьсі па ўсіх пытаньнях партынай лініі.

XIII зьезд КП(б)Б пры вырашэньні актуальнейшых проблем і пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва павінен аддаць неабходную ўвагу важнейшым у нашых умовах пытаньням нацыянальнай політыкі і барацьбы з нацыяналізмам і нацыяналісцкімі ўхіламі ўсіх колераў і адценьняў у радох партыі.

Як мы адзначалі ўжо вышэй, гаспадарчае будаўніцтва, перш за ўсё індустрыялізацыя, стаяла і стаіць перад партыяй, як цэнтральная і важнейшая проблема. Абярненьне БССР з краіны гаспадарча адсталай, з краіны „балот і лясоў“ у краіну колгасна-саўгасна-індустрыяльную зьяўляецца тэй асноўнай генэральнай лініяй, па якой ідзе і павінны ісьці праца нашай організацыі і мобілізацыя вакол яе шырокіх працоўных мас.

У абсягу разьвіцьця індустрыялізацыі, партыі прыходзілася і прыходзіцца змагацца з тэндэнцыямі адкрытага праваўхілісцкага тыпу, якія часта ў гэтай справе проста злучаюцца з вялікадзяржаўнымі настроямі расійскага шовінізму, якія (тэндэнцыі) выяўляюцца ў імкненьні згортваньня тэмпаў прамысловага разьвіцьця БССР, раўнаньні на „вузкія месцы“ і г. д. Гэтыя тэндэнцыі і настроі фактычна вядуць да супраціўленьня справе прамысловага разьвіцьця раней адсталых у гаспадарчых адносінах нацыянальных раёнаў атрымлівалі і атрымліваюць у нашай організацыі рашучы адпор. Але адначасова з гэтым, асабліва ў апошні час, нам прыходзіцца сустракацца з „левымі загінамі“ якія выяўляюцца ў патрабаваньнях нерэальных „звышіндустрыялісцкіх“ тэмпаў і вядуць няўхільна да рэвізіі асноўных кірункаў і асноўнай лініі УсеКП(б) у разьвіцьці індустрыялізацыі ва ўсім Саюзе.

У барацьбе з гэтымі тэндэнцыямі і адхіленьнямі ад лініі партыі наша організацыя будзе з посьпехам вырашаць задачы па прамысловым разьвіцьці нашай рэспублікі і выкананьні, у абстаноўцы вялікага творчага ўздыму пролетарск(х мас, пяцігадовага пляну за чатыры гады. XIII зьезд нашай партыі павінен прайсьці пад знакам выкананьня гэтай асноўнай задачы.

У цэнтры ўвагі нашай партыі, у цэнтры ўвагі раённых і акруговых партыйных конфэрэнцый, якія пачаліся зараз перад зьездам, стаяць пытаньні колектывізацыі і выпраўленьні памылак і грубых скрыўленьняў партыйнай лініі, якія мелі месца ў нас, у БССР.

Мы мелі ў нас, у БССР шырокую і магутную хвалю бядняцка-серадняцкіх мас у колгасы. Таксама як і ў цэлым радзе іншых організацый УсеКП(б), у нашай беларускай організацыі гэтыя хуткія і лёгкія посьпехі парадзілі галавакружэньне, буйнейшыя перагібы і скажэньні лініі партыі. Бюро ЦК у сваёй рэзолюцыі ад 17 красавіка адзначала, што і ў КП(б)Б правільная політычная лінія ЦК УсеКП(б) у пытаньнях колгаснага будаўніцтва і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі, была скажана радам партыйных організацый. Гэтыя перагібы і скажэньні лініі партыі выявіліся ў нас, у КП(б)Б, у небальшавіцкім падыходзе да серадняка, у антысерадняцкіх перагібах. Цэлы рад мясцовых організацый зьмянілі шырокую масавую працу па мобілізацыі беднаты і сераднякоў, працу па самастойнай організацыі беднаты—прымусам і адміністраваньнем. У радзе месц быў парушан ленінскі прынцып добраахвотнасьці ў колгасным руху. Наперакор паказаньням лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б), пастановам ЦК УсеКП(б) аб тэмпах колектывізацыі і студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б, асобныя організацыі заняліся недапушчальнай гульнёй у нерэальныя тэмпы колектывізацыі, зусім ня ўлічваючы асаблівасьцяй БССР як нязбожжавага раёну. Галавацяпскае спаборніцтва, імкненьне „дагнаць і выперадзіць“ буйназбожжавыя вобласьці Савецкага Саюзу нясумненна налажылі свой адбітак на практыку колгаснага будаўніцтва ў БССР.

У радзе месц пры ажыцьцяўленьні лёзунгу нашай партыі аб ліквідацыі кулацтва як клясы, організацыі не мобілізавалі у дастатковай меры вакол гэтага лёзунгу шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас, а ў практычным правядзеньні раскулачваньня, якое ў радзе выпадкаў праводзілася не на аснове суцэльнай колектывізацыі, закранАлі і серадняка. Бюро Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б зусім ясна заявіла, што ўсе гэтыя памылкі і скажэньні знаходзяцца ў рэзкай супярэчнасьці з правільнай політычнай лініяй і правільнымі дырэктывамі ЦК УсеКП(б).

Асобныя акругі БССР ( Мазыр, Віцебск, Магілеў), ня гледзячы на тое, што студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б зазначыў, як орыентыровачную лічбу колектывізацыі 35 проц. яравога кліну да вясны бягучага году, паставіў сваёй задачай колектывізаваць цалкам усе бядняцка-серадняцкія сялянскія гаспадаркі ўжо да вясны гэтага году. Авантурніцкія тэмпы ў радзе месц ня толькі не атрымалі належнага адпору ў асобных зьвянох партыйнага кіраўніцтва, але захапілі гэтыя зьвяны, якія паддаліся моцнаму „галавакружэньню ад посьпехаў“ і ня здолелі сваячасова і хутка стаць на чале выпраўленьня памылак.

Якая была лінія Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б у пытаньнях кіраўніцтва колгасным рухам і ці была яна правільнай лініяй? Цэнтральны Камітэт КП(б)Б, кіруючыся дырэктывамі ЦК УсеКП(б), ажыцьцяўляў правільную палітычную лінію. Яшчэ на студзенскім пленуме наш ЦК, кіруючыся дырэктывамі ЦК УсеКП(б), перасьцерагаў „усе партыйныя організацыі супроць якога-б там ні было „дэкрэтаваньня“ зьверху колгаснага руху „супроць гульні ў колектывізацыю“. ЦК КП(б)Б ня раз у сваіх выступленьнях папярэджваў небясьпеку антысерадняцкіх перагібаў і скажэньняў партыйнай лініі. Але пры гэтай правільнай палітычнай лініі ЦК дапусьціў рад асобных памылак, якія ім прызнаны цалкам і поўнасьцю ў сваёй пастанове ад 17 красавіка. Гэтыя памылкі заключаліся ў тым, што ЦК ня даў сваячасова „даволі рашучага адпору няправільным тэндэнцыям з боку некаторых мясцовых парторганізацый закончыць суцэльную колектывізацыю бягучай вясной, у тым, што студзенскі пленум ЦК КП(б)Б, даючы дырэктыву аб аграмаджаньні жывёлы, не падкрэсьліў, „што гутарка ідзе аб аграмаджаньні рабочай і таварна-продукцыйнай часткі рагатай жывёлы“; у тым, што студзеньскі пленум, кажучы аб неабходнасьці пры распрацоўцы статуту сельскагаспадарчай арцелі „максымальна забясьпечыць пераход ад сельскагаспадарчай арцелі да комуны“, даваў такім чынам несваячасовае паказаньне, якое магло спрыяць узмацненьню існуючых на мясцох тэндэнцый да заўчаснага пераходу ад арцелі да комуны. Цэнтральны Камітэт прызнаў, што пастанова студзеньскага пленуму аб колектывізацыі ў тэй частцы, у якой „яна ўстанаўляе тэрмін поўнай колектывізацыі ў БССР да канца 1931 году“, не адпавядае пастановам ЦК УсеКП(б).

Пасьля сваячасовых дырэктыў ЦК УсеКП(б) і артыкулаў т. Сталіна наша організацыя, пад кіраўніцтвам свайго Цэнтральнага Камітэту, стала на шлях рашучага выпраўленьня меўшых месца памылак і перагінаў. Цэнтральны Камітэт заклікаў партыйныя організацыі да хутчэйшага выпраўленьня перагінаў на аснове рашучай крытыкі і самакрытыкі, да замацаваньня дасягненьняў, да організацыйна-практычнай працы ў колгасах і да разгортваньня бальшавіцкай сяўбы. Парторганізацыя і ЦК з усёй рашучасьцю ўдарылі па тых элемэнтах, якія ўпарта не жадалі прызнаваць сваіх памылак, настойваючы на правільнасьці сваіх галавацяпскіх, авантурніцкіх установак (Шклоў, Рагачэў і г. д.). Мы можам зараз сьмела заявіць, што дзякуючы правільнаму кіраўніцтву ЦК УсеКП(б), наша організацыя ў асноўным перамагла труднасьць хуткай перабудовы сваіх радоў і здолела ў агульным стаць на правільныя рэйкі бальшавіцкай самакрытыкі і сьмелага выпраўленьня дапушчаных скрыўленьняў партыйнай лініі.

Адлівы, якія меліся з колгасаў ў выніку перагінаў, скажэньняў партыйнай лініі, зараз у асноўным прыпыніліся. Там дзе організацыя замест опортуністычнай балбатні аб „адступленьні“, замест супрацьўленьня хуткаму выпраўленьню памылак, безагаворачна праводзіць

дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, мы маем факты новага прыліву ў колгасы, іх пашырэньне.

Па якой-жа лініі ідуць вылазкі опортуністычных элемэнтаў у сувязі з тымі памылкамі, якія былі дапушчаны радам мясцовых організацый у практыцы колгаснага будаўніцтва?

Мы маем у організацыі спробы адкрытых выступленьняў з намерам пад выглядам „крытыкі" ўзваліць усю адказнасьць за меўшыя месца памылкі і перагіны на політычную лінію ЦК КП(б)Б. У гэтых спробах мы бачым бясспрэчнае імкненьне да рэвізіі генэральнай лініі партыі па колектывізацыі, мы маем тэндэнцыю да таго, каб кідаць камянчыкі праваопортуністычнай крытыкі на лінію ўсёй УсеКП(б) і яе Цэнтральнаму Камітэту.

Маюцца праваўхілісцкія тэндэнцыі пад выглядам выпраўленьня „левых" перагінаў зьняць лёзунг ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, як генэральны лёзунг нашай партыі, і падвергнуць фактычнай рэвізіі нашыя ўстаноўкі на далейшае пасьпяховае разьвіцьцё колектывізацыі—справы соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. Сярод асобных элемэнтаў ёсьць спробы вытлумачыць адлівы ў асноўным не перагінамі, не галавацяпствам, а ці тэорыямі аб няўхільнасьці хістаньняў серадняцтва, ці тым, што організацыя „не вяла выстарчальнай практычнай працы". Ёсьць спробы вытлумачыць грубыя скрыўленьні партыйнай лініі пры правядзеньні колектывізацыі „няўхільнасьці памылак". Адразу-ж пасьля зьяўленьня артыкулу т. Сталіна „Галавакружэньне ад посьпехаў" у асобных раённых організацыях былі факты адкрытых выступленьняў супроць гэтага артыкулу і дырэктыў ЦК УсеКП(б) і спробы вытлумачыць іх, як „адступленьне", як „удар" па колгасным руху.

Такім чынам, мы бачым, што адбываецца нясумненнае ажыўленьне права-і „лева"-опортуністычных элемэнтаў, што барацьба на два фронты супроць „левага" авантурызму, супроць рэцыдыву трацкісцкіх настрояў і правага опортунізму, як галоўнай небясьпекі, і на далей застаецца генэральнай задачай нашай партыі ў барацьбе за бальшавіцкую лінію.

Увесь пройдзены пэрыод і асабліва тыя памылкі, якія былі дапушчаны мясцовымі організацыямі ў абсягу колектывізацыі, яшчэ і яшчэ раз ставяць з усёй вострасьцю пытаньне аб кадрах. У свой час верасьнёўскі пленум ЦК КП(б)Б у 1929 г., а пасьля студзеньскі пленум 1930 г. з усёй сілай паставілі перад КП(б)Б гэту проблему. Меўшыя месца прарывы паказалі, што частка кадраў, у тым ліку і частка кіруючых кадраў, зьявіліся няздольнымі выконваць складаныя задачы рэконструкцыйнага пэрыоду і праводзіць, ва ўмовах нацыянальнага пераплёту на Беларусі, выразную ленінскую політыку ў нацыянальным пытаньні, генэральную лінію партыі. Партыя ў значнай ступені ачысьцілася ад кадраў, якія раскладаліся і зрасьліся з варожымі нам элемэнтамі. Партыя мобілізавала ўвагу сваіх організацый вакол вылучэньня новых сьвежых пролетарскіх бальшавіцкіх кадраў. Але трэба прызнаць, што гэта проблема *далёка яшчэ ня вырашана*, што ў нашых умовах яна для нашай партыі ўсё яшчэ стаіць з усёй сваёй *вострасьцю*. Барацьба за вылучэньне пролетарскіх кадраў, за каранізацыю кадраў стаіць, як адна з важнейшых задач усёй організацыі зьверху данізу. Тут трэба з усёй сілай ударыць па імкненьнях затрымаць вылучэньне новых і сьвежых рабочых кадраў.

У цеснай сувязі з задачамі, якія стаяць перад нашай організацыяй у абсягу соцыялістычнага будаўніцтва, стаіць задача далейшага сьмелага разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі. На пэўных вучастках

нашай працы, у пэўных зьвянох нашай арганізацыі мы мелі заціск самакрытыкі, спробы падмяніць самакрытку і сьмелыя выяўленьні ўсіх памылак і недахопаў сямейнасьцю, бюрократызмам, падхалімствам, на грунце чаго выраслі пышныя кветкі скрыўленьняў клясавай лініі, практыка правага ўхілу і г. д.

Разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі нясумненна будзе дапамагаць як вырашэньню задач мобілізацыі шырокіх пролетарскіх мас вакол пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва, так і пасьпяховаму вырашэньню проблемы кадраў.

Перамагаючы труднасьці будаўніцтва, даючы рашучы адпор усім вылазкам супроць партыйнай лініі, вядучы рашучую барацьбу на два фронты і перш за ўсё супроць правай небясьпекі, як галоўнай, вядучы барацьбу супроць усякага прымірэнцтва да ўхілаў, КП(б)Б няўхільна праводзіла і будзе праводзіць ленінскую політыку УсеКП(б) і яе ленінскага ЦК.

---

А. Сянькевіч

# Барацьба з ухіламі ў нацыянальным пытаньні і нацрабоце

Бурнае социялістычнае будаўніцтва ў БССР, як і ва ўсім Саюзе, праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Побач з контр-рэволюцыйнай актыўнасьцю кулацкіх і нэпманскіх элемэнтаў на экономічным фронце мае месца актывізацыя варожых нам сіл на фронце ідэолёгічным, на фронце нацыянальна-культурным. На працягу 1929 г. па ўсёй Беларусі меў месца шэраг антысэміцкіх выступленьняў (справа Баршай і інш.). За гэты-ж пэрыод значна ўзмацнілася актыўнасьць шовіністычных элемэнтаў. Мы мелі цэлы шэраг вылазак вялікадзяржаўнага шовінізму, шовінізму яўрэйскага і асабліва беларускага нацыянал-дэмократызму.

Беларускі нацыянал-дэмократызм, праводзячы сваю контр-рэволюцыйную работу ціхай сапай у аднаўленчы пэрыод, паколькі ён жыў тады надзеямі на перараджэньне савецкае ўлады, пачаў актыўна супраціўляцца ўсім мерапрыемствам па социялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі, па выкарчоўваньні капіталістычных элемэнтаў на даным этапе нашага будаўніцтва.

Політыка былога Наркамзему БССР Прышчэпава, з яго стаўкай на кулака, на хутарскую гаспадарку, цалкам адпавядала чаканьням і надзеям нацыянал-дэмократаў на капіталістычнае перараджэньне БССР. Гэтая політыка знайшла сваё тэорэтычнае абгрунтаваньне ў працах вучоных нацыянал-дэмократаў, як, напрыклад, проф. Кісьлякова, які даводзіў гаспадарчую мэтазгоднасьць для Беларусі дробнага пасёлка, па сутнасьці хутара. Гэтая кулацкая політыка Наркамзему знайшла сваё мастацкае адлюстраваньне і ў беларускай літаратуры. Пісьменьнік М. Зарэцкі ў нарысе „Падарожжа на новую зямлю“ марыць аб пабудове на мэліораваных беларускіх балотах такіх сялянскіх гаспадарак, якія-б былі падобны да гаспадаркі нямецкага фэрмера.

Маючы сваіх агентаў у галіне гаспадарчага будаўніцтва, асабліва па лініі сельскае гаспадаркі, беларускія нацыянал-дэмократы імкнуліся заўладаць позыцыямі і на нацыянал-культурным фронце. Асаблівую ўвагу социял-дэмократы зьвярталі на заваёву кадраў маладых культурных работнікаў, галоўным чынам літаратурнага маладняка.

Гэта не перашкаджала нацыянал-дэмократам скарыстоўваць і галіну чыстае навукі, як лінгвістыка, географія і навукі грамадзкія. Аўтар географіі Беларусі ўключыў у тэрыторыю Беларусі большую частку сучаснай Заходняй вобласьці, даючы празрыстыя намёкі на тое, што пад чужым уладаньнем знаходзіцца ня толькі Заходняя Беларусь, але і частка Беларусі ўсходняй.

Проф. Доўнар-Запольскі ў гісторыка-экономічнай працы (не опублікаванай) імкнуўся даць тэорэтычнае абгрунтаваньне беларускаму нацыянал-дэмократызму, даводзячы, што на тэрыторыі Беларусі ў Кастрычніку мела месца толькі аграрная рэволюцыя, і што Беларусь, як краіна пераважна сялянская, павінна мець дыктатуру сялян і рабочых.

У галіне мастацкай літаратуры за апошнія 2 гады зьявілася шэраг твораў яўна з нацыянал-дэмократычнымі тэндэнцыямі, як „Вецер з Усходу“ Т. Глыбоцкага, „Здарэньне з камісарамі“ Ц. Гартнага, „Лісты да сабакі“ і інш. поэмы Я. Пушчы. Некаторыя творы Ул. Дубоўкі, „Падарожжа на новую зямлю“ і роман „Крывічы“ Зарэцкага. Мы апушчаем шэраг іншых больш дробных пісьменьнікаў.

Найбольш яскрава беларускі нацыянал-дэмократызм выявіўся ў тэатральнай дыскусіі мінулага году і ў ня гэтак даўно меўшай месца ў БАН дыскусіі аб шляхох беларускае літаратурнае мовы. У апошняй дыскусіі мела месца і праяўленьне вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму. Доцэнт БДУ—Воўк-Левановіч спрабаваў зьвесьці беларускую мову да простай гаворкі, якая зьяўляецца адным з разгаліненьняў расійскае мовы. Маскіруючы сваю вялікадзяржаўную сутнасьць заявамі аб тым, што ён ні за расійскія, польскія і іншыя словы ў беларускай мове, а за чыстую нібыта беларускую мову, Воўк-Левановіч спрабуе замяніць цэлы шэраг беларускіх слоў расійскімі, прапануе выкінуць з беларускае мовы словы, якія сустракаюцца ў іншых мовах. Гэта рабілася з той мэтай, каб давесьці, што беларускае мовы наогул ня існуе, ёсьць толькі жаргон з розных моў, „гаворка“, „нарэчые“.

З боку беларускіх нацыянал-дэмократаў у дыскусіі аб мове яшчэ больш яскрава, чым у тэатральнай дыскусіі, выявіліся тэорыі „самабытнасьці“ беларускае культуры і мовы. Беларускі нацыянал-дэмократызм, падобна украінскаму, праводзіў лінію на „чыстату мовы“ (пурызм). У аснову мовы прапануецца браць мову найбольш адсталае часткі беларускага сялянства. На справе гэтае пурыстычная лінія зводзілася да барацьбы з советызмамі, да барацьбы з інтэрнацыяналізмамі ў галіне мовы. Складальнікі беларускай тэрмінолёгіі, напрыклад, замест інтэрнацыянальнага слова „эксплёатацыя“ ўжывалі за лепшае польскае слова „вызыск“. Адначасова ўсяляк пазьбягаецца запазычаньне слоў з расійскага ліксікону. „Тэорыя самабытнасьці“ і орыентацыя на „культурны“ захад, у даным выпадку на фашыстаўскую пакуль што Варшаву, замест чырвонай Масквы, зьяўляюцца найбольш характэрнымі рысамі беларускага нацыянал-дэмократызму.

Характэрнай рысай беларускага нацыянал-дэмократызму зьяўляецца ўстаноўка аб бясклясавасьці беларускае нацыі. На Беларусі, моў, ня было ні паноў, ні буржуазіі, было толькі прыгнечанае беднае сялянства. Тут хаваецца крыніца ідэалізацыі народніцкіх партый, як Беларуская Соцыялістычная Грамада і інш.

У шэрагах КП(б)Б сярод найменш устойлівых членаў партыі нац.-дэмократы знайшлі свой рупар, знайшлі носьбітаў ідэй нацыянал-дэмократызму. КП(б)Б нанесла рашаючы ўдар нацыянал-дэмократам і нацыянал-опортуністым.

Паралельна з актывізацыяй беларускіх нацыянал-дэмократаў ішла і актывізацыя яўрэйскіх шовіністых. Даволі распаўсюджанымі зьявішчамі сярод некаторай часткі яўрэйскіх і польскіх працоўных зьяўляюцца нацыянальная абмежаванасьць.

У галіне гаспадарчага будаўніцтва яўрэйскія нацыяналістыя і нацыянал-опортуністыя праводзілі работу пад лёзунгам „уцягнуць усіх яўрэяў у соцыялізм“. Адгэтуль скажэньні клясавай лініі ў рабоце саматужна-прамысловай коопэрацыі БССР. Яўбюро ЦК КП(б)Б і былыя

працаўнікі саматужна-прамысловай коопэрацыі далі ўстаноўку на ўцягненьне ў саматужна-прамысловую коопэрацыю былых гандляроў „у мэтах скарыстаньня іх ініцыятывы і сродкаў“.

Сваю работу яўрэйскія нацыяналістыя праводзяць у цэсным саюзе з яўрэйскімі клерыкаламі. Сынагога стала цэнтрам шовіністычнае дзейнасьці сярод яўрэйскіх працоўных.

Аднэй з форм праяўленьня вялікадзяржаўнага шовінізму зьяўляецца высоўваньне пераважнае ролі расійскае культуры, зьніжэньне альбо нават адмаўленьне беларускае культуры.

Гэтым вялікарасійскі шовіністы імкнецца скрыта альбо адкрыта ўхіліцца ад выкананьня дырэктывы партыі па ажыцьцяўленьні на справе беларусізацыі.

Ня гледзячы на тое, што ў беларусізацыі мы маем у БССР вялізарныя посьпехі на асобных вучастках, у асобных апаратах савецкіх профэсыянальных, коопэрацыйных і гаспадарчых устаноў ёсьць прарывы ў адносінах беларусізацыі, як вынік неразуменьня палітычнага значэньня беларусізацыі. Наглядаецца шэраг выпадкаў фармальных адносін да беларусізацыі, пасыўнае супраціўленьне і нават паасобныя выпадкі адкрытых выступленьняў супроць беларусізацыі (праф. БДУ Шчапоцьцеў, праф. Афанасьеў і інш., выступленьні некаторых комуністых у Бабруйску).

Пасыўнае і актыўнае супраціўленьне беларусізацыі нельга кваліфікаваць іначай як праяву вялікадзяржаўнага шовінізму.

За невыкананьне дырэктывы партыі і ўраду па беларусізацыі ўвосені 1929 г. зьняты з работы шэраг кіруючых працаўнікоў савецкага, гаспадарчага і профсаюзнага апаратаў. На шэраг работнікаў, членаў партыі, накладзены партыйныя спагнаньні.

Інтэрнацыялізацыя прадпрыемстваў і ўстаноў зьяўляюцца адным з сродкаў у гэтай барацьбе. На жаль, ня ўсюды дырэктыва партыі аб інтэрнацыялізацыі прадпрыемстваў праводзіцца ў жыцьцё. Слаба пасоўваецца інтэрнацыялізацыя швэйнай, скураной і паліграфічнай прамысловасьці, дзе ў пераважанай масе былі заняты яўрэйскія рабочыя. Злачынна слаба праводзіцца інтэрнацыялізацыя транспарту і сувязі.

Арабочаньне савецкага, гаспадарчага, профэсыянальнага і іншых апаратаў зьяўляецца таксама адным з важнейшых спосабаў барацьбы з нацыяналізмам і шовінізмам. Трэба сказаць, што арабочаньне апарату праводзіцца даволі слаба, асабліва за лік кадраў беларускіх рабочых. Калі ў савецкіх, профэсыянальных і партыйных апаратах беларусы наогул і беларусы-рабочыя складаюць значны процант, дык гэтага нельга сказаць аб гаспадарчых органах, як ВСНГ і коопэрацыя.

Інтэрнацыянальнае выхаваньне пролетарыяту зьяўляецца адным з асноўных сродкаў у барацьбе з шовінізмам, у барацьбе з антысэмітызмам. Патрэбна прызнаць, што гэтая работа не пастаўлена на належную вышыню, што яна вядзецца не сыстэматычна, ня глыбока. У сувязі з гэтым асаблівае значэньне набывае работа сярод нацменшасьцяй на іх роднай мове, якая, да рэчы, вядзецца вельмі дрэнна. Перад усёй КП(б)Б стаіць задача ўзмацніць работу па інтэрнацыянальнаму выхаваньню пролетарскіх мас, паставіць на належную вышыню абслугоўваньне і палітыка-асьветную работу сярод нацыянальных меншасьцяй на іх роднай мове.

Вялізарнейшае значэньне ў барацьбе з нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам набывае пытаньне пролетарскіх кадраў на фронце культурнага будаўніцтва. Бюро ЦК КП(б)Б зьняло былое кіраўніцтва Наркамасьветы за яго права-опортуністычную палітыку, за яго прымірэн-

чыя адносіны да вылазак нацыянал-дэмакратаў. Ня гледзячы на шэраг дырэктыў, студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б павінен быў канстатаваць, „што яшчэ да сучаснага моманту няма пераламу ў адносінах узмацненьня работы па падрыхтоўцы кадраў, а з боку раду важнейшых арганізацый наглядаецца яшчэ некаторая недаацэнка палітычнага значэньня проблемы кадраў“. Уся ўвага парторганізацыі павінна быць завострана на выкананьні гэтай важнейшай дырэктывы партыі.

У галіне літаратуры, тэатру, мастацтва асаблівае значэньне набывае ўзмацненьне пролетарскага асяродку ў літаратурных організацыях. Барацьба за гегемонію пролетарскай літаратуры—ёсьць частка барацьбы за культуру, нацыянальную па форме, пролетарскую па зьместу. Вырашчываньне пролетарскіх пісьменьнікаў, узмацненьне і ўсямернае садзейнічаньне БелАПП'у, пры адначасовым падтрыманьні і прыцягненьні найбольш блізкіх нам пісьменьнікаў з іншых літаратурных організацый, складае адну з асноўных задач на даным этапе.

У выніку рашучае барацьбы з нац.-дэмократызмам і нац.-опортунізмам мы мелі паласу прызнаньняў як таварышамі, якія рабілі нацыянал-опортуністычныя памылкі (Чарвякоў, Жылуновіч, Бейлін і інш.), так і нацыянал-дэмократамі і вялікадзяржаўнымі шовіністымі (акадэмікі Лёсік, Некрашэвіч, доц. В.-Лsavановіч і інш.). Літаратурная організацыя „Узвышша“ прызнала наяўнасьць нацыянал-дэмократычных тэндэнцый у творчасьці як цэлага раду пісьменьнікаў гэтага літаратурнага аб'яднаньня, так і організацыі ў цэлым. Сёньня мы ўжо ня маем адкрытых выступленьняў нацыянал-дэмократаў. Але гэта не азначае, што вораг разьбіты.

Вораг прытаіўся.

Партыя і рабочая кляса павінны захаваць належную пільнасьць.

---

С. Будзінскі

# Тры проблемы[1])

Беларуская Савецкая Социялістычная Рэспубліка—дзіця Кастрычнікавае рэволюцыі выйшла з-пад уціску царскае, кайзэраўскае і белапольскай окупацыі беднай і разбуранай да тла. Абшарніцкая эксплёатацыя, разгул і прыгнечаньне царскага бюрократычнага апарату затармазілі гаспадарчае, палітычнае і нацыянальнае разьвіцьцё краіны. Нават у параўнаньні з некаторымі іншымі вобласьцямі былое царскае імпэрыі Беларусь была краінай экономічна неразьвітай і адсталай. Перамагаючая галіна народнае гаспадаркі—сельская гаспадарка, стаяла на вельмі нізкім узроўні і па лініі абшарніцкае гаспадаркі была ў значнай меры заснована на перажытках фэодальных форм эксплёатацыі. Нязначная, не адыгрываючая сур'ёзнай ролі ў экономіцы Беларусі, прамысловасьць насіла пераважна саматужны характар. Таму ў даваенны час, Беларусь была вялікім рэзэрвуарам таннай рабочай сілы і крыніцаю магутнай эміграцыйнай хвалі, якая запаўняла рынкі працы Ленінграду, Масквы, Донбасу і якая даходзіла да фабрык і руднікоў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў.

У самой Беларусі пролетарская праслойка была вельмі малая. Пры чым па сваёй структуры рабочая кляса Беларусі складалася з рамесьніцкага пролетарыяту, у першую чаргу местачковага, гарадзкога і яўрэйскага. Нацыянальная структура пролетарыяту на Беларусі вызначалася ў значнай ступені палітыкай „чарты аседласьці“, якая дапасоўвалася ў адносінах яўрэйскіх пролетарскіх і дробна-буржуазных працоўных мас царскім урадам.

Савецкая ўлада, заваёваная паўстаўшымі беларускімі працоўнымі масамі, у цесным саюзе і пад кіраўніцтвам пролетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу і яго Ленінскай Комуністычнай партыі (бальшавікоў), у цяжкай барацьбе з кайзэраўскімі і белапольскімі окупантамі, а таксама і са сваёю ўласнай буржуазіяй і абшарнікамі,—мела з першых дзён труднейшыя задачы для вырашэньня. Трэба было аднавіць народную гаспадарку, якая ў Беларусі, што была непасрэдна тэатрам імпэрыялістычнай вайны, белапольскага нападу на Савецкія Рэспублікі ў 1918—20 г. г. і грамадзянскай вайны, узьнятай ўласнымі абшарнікамі і буржуазіяй на чале з Булак-Булаховічам і іншымі агэнтамі сусьветнага капіталізму—была разбурана больш глыбока, чым у іншых Савецкіх Рэспубліках. Задача, вядома, заключалася ня толькі ў тым, каб аднаўляць народную гаспадарку, але і ў тым, каб на хаду яе перарабляць, каб выраўняць гаспадрчы ўзровень БССР да узроўню перадавых вобласьцяй Савецкага Саюзу, каб БССР з краіны аграрнай ператварыць у краіну аграрна-індустрыяльную і ў далейшым ў індустрыяльна-аграрную.

[1]) У аснову гэтага артыкулу ўзяты артыкулы, зьмешчаныя ў „Правде“.

Задача аднаўленьня і рэконструкцыі народнае гаспадаркі БССР цясьнейшым чынам была зьвязана з задачай узмацненьня і пашырэньня базы пролетарскай дыктатуры ў Беларусі. Гэтая задача выконваецца ў БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б у цесным супрацоўніцтве і пры дапамозе ўсяго Савецкага Саюзу. Выкананьне гэтай задачы зьяўляецца, бязумоўна, вынікам ленінскай нацыянальнай політыкі Ўсесаюзнай Комуністычнай Партыі (бальшавікоў), бо „краеугольным камнем“, які стымулюе экономічны і політычны рост адсталых Рэспублік і вобласьцяй, затрыманых у сваім разьвіцьці колёніяльнай політыкай расійскага царызму, ёсьць утварэньне мясцовых кадраў пролетарыяту, як рухаючай сілы пролетарскай рэволюцыі і як сілы цэмантуючай адзінства Савецкага Саюзу.

Аб тэмпах, характары і напрамку народнага гаспадарчага разьвіцьця БССР лепш усяго сьведчыць рост прамысловасьці БССР, якая, выканаўшы першы год пяцігодкі са значным перавышэньнем супроць пляну, за першыя пяць месяцаў другога году пяцігодкі дала далейшае павялічэньне продукцыі амаль на 72% (агульна-саюзныя паказальнікі даюць рост на 35%). Вядома, гэты нябачны тэмп разьвіцьця зьяўляецца вынікам падняцьця вытворчасьці працы і хуткіх і вялікіх капітальных укладаньняў, якія маюць сваёй крыніцай народную гаспадарку ня толькі Савецкай Беларусі, *але і ўсяго Савецкага Саюзу.*

Хуткі тэмп разьвіцьця прамысловасьці, рост колгаснага руху, вялікія дасягненьні ў справе індустрыялізацыі народнае гаспадаркі ў БССР, высоўваць на першае месца пытаньне аб кадрах. Гэтае пытаньне аб пролетарскіх кадрах, аб кадрах кіраўнікоў у галіне народнае гаспадаркі і ў галіне культурнага будаўніцтва, якое ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі, якая раней пакутвала ад нацыянальнага прыгнечаньня, мае першараднае значэньне, становіцца пытаньнем усіх пытаньняў. Іншымі словамі, далейшы рост БССР і па лініі экономікі, і па лініі культурнага будаўніцтва ўпіраецца ў проблему кадраў, асабліва інжынэрна-тэхнічных. Патрэбнасьць у адных толькі спэцыялістых з вышэйшай асьветай па пяцігадоваму пляну вызначаецца ў 12,5 тыс. чал.

ЦК КП(б)Б усьлед і пад кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) паставіў пытаньне аб кадрах у цэнтры ўвагі партыйных і савецкіх організацый у БССР і ўдзяляе гэтай проблеме многа ўвагі і сіл. Утвораны ўсялякія курсы, організуюцца тэхнікумы, разгортваюцца ВНУ і ВТНУ, з невялікага бюджэту выкройваюцца сумы, патрэбныя на падрыхтоўку кадраў. Але *становішча ў галіне барацьбы за кадры на сёнешні дзень нельга ні ў якім выпадку лічыць хаця-б у малейшай ступені здавальняючым.*

Важнасьць барацьбы за кадры недастаткова пранікла глыбока ў сьвядомасьць кіраўнікоў партыйных, савецкіх, профэсіянальных і гаспадарчых органаў. Бываюць выпадкі, калі дырэктары прадпрыемства, таго ці іншага таварыша, які апраўдаў сябе на рабоце і які пасланы як тысячнік на вучобу, праз кароткі час здымаюць з вучобы. Повад да зьняцьця, вядома, вельмі „рэзонны“ — часьцей усяго такі:—прадпрыемства разваљваецца, прамфінплян сарваны, шуканьні адпаведнага кандыдату не далі ніякіх вынікаў“. Але ні акругкомам, які зьняў, ні унівэрсытэтам, які абмежаваўся протэстамі, але нарэшце згадзіўся на зьняцьце, ніякіх захадаў ня прымаецца, каб гэтае зьняцьце з вучобы якім-небудзь чынам компэнсаваць. Ніякай гнуткасьці манэўраздольнасьці гэтыя організацыі ня выяўляюць у пытаньні барацьбы за кадры. А ўсё-ж можна было-б палегчыць таварышу работу командыраваньнем яму ў дапамогу або вылучэньнем са складу рабочых дзельных дапаможнікаў, якія спрыялі-б разгрузцы гэтага таварыша для вучобы. Уні-

вэрсытэцкія організацыі таксама маглі-б у парадку грамадзкай нагрузкі прымацаваць студэнтаў і выкладчыкаў па стрыжнявых дысцыплінах (матэматыка) і такім чынам дапамагчы гэтаму тысячніку не адставаць ад тых шчасьліўчыкаў, якія засталіся вучыцца. У гэтым факце (а факты падобныя мы-б маглі памножыць да бясконца) находзіць свой адбітак у казённых паказных адносінах шэрагу асоб і некаторых організацый да пытаньня барацьбы за новыя пролетарскія кадры.

Пролетарская праслойка вышэйшых навучальных установў у Беларусі вельмі малая і яе далейшы рост ідзе зусім недастатковым тэмпам. Гэта тлумачыцца адноснай слабасьцю пролетарыяту наогул і буйна-прамысловага ў першую чаргу. Рост пролетарыяту ў БССР, які ідзе гіганцкімі крокамі наперад, на сёнешні яшчэ дзень далёка ня можа забясьпечыць патрэбнай насычанасьці ВНУ і ВТНУ пролетарскімі кадрамі і пытаньне аб соцыяльным складзе ўсіх, што вучацца ў вышэйшых навучальных установах, заўсёды зьяўляецца для нас хворым пытаньнем. Пролетарыят БССР мае права чакаць ад сваіх братоў з больш прамысловых вобласьцяй Савецкага Саюзу дапамогі у гэтай справе. На вялікі жаль гэтага няма. Маскоўскі Плеханаўскі Інстытут народнае гаспадаркі адчыняе ў Гомелі — цэнтры цяжкай індустрыі БССР—курсы для падрыхтоўкі студэнтаў для Плеханаўскага Інстытуту. Гэтым маскоўскія таварышы звужаюць і так скудную крыніцу папаўненьня ВТНУ і ВНУ Беларусі пролетарскім студэнцтвам. А многія-ж з таварышоў, якія едуць вучыцца за межы нашай рэспублікі, застаюцца ў цэнтры і гэтым паслабляюць кіруючыя пролетарскія кадры ў нашай рэспубліцы, якая стаіць на мяжы ашчэранага гарматамі супроць Савецкага Саюзу буржуазнага сусьвету.

Яшчэ горш абстаіць справа з пэдагогічнымі кадрамі, як з кадрамі для прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Да будучага школьнага году пасьля ўсіх паскораных выпускаў, ня гледзячы на тое, што з старых настаўніцкіх кадраў мы пакідаем на рабоце ўсіх, нават тых, хто недастаткова падрыхтаваны для свае работы, нястача выкладчыкаў для школ першай ступені—будзе складаць 800 чалавек. Разам з гэтым назіраецца літаральна ўцяканьне з пэдагогічных тэхнікумаў, пры чым рабочую моладзь вельмі цяжка завербаваць у пэдагогічныя тэхнікумы. Прычына ўцяканьня пролетарскай моладзі з пэдагогічных тэхнікумаў, бязумоўна, мае карэньні ў вельмі нездавальняючым матэрыяльным становішчы студэнтаў гэтых школ. У той час, як стыпэндыя ў тэхнічна-індустрыяльных навучальных установах, у якія ідзе стыхійны наплыў моладзі, раўняецца 37 р., у пэдагогічныя ВНУ гэтую стыпэндыю Дзяржплян БССР хоча вызначыць на будучы год толькі 27 руб. Кожны студэнт, тэхнічна-індустрыяльных ВНУ, можа разьлічваць на контрактацыю. Студэнты пэдагогічных тэхнікумаў і ВНУ за рэдкімі выключэньнямі, нават і думаць ня могуць аб контрактацыі. Тут патрэбны зрух рашучы і зьмяненьне ўстановак у нашых пляніруючых органаў у тым напрамку, каб стымуляваць рост пэдагогічных кадраў, без якіх утварэньне кадраў для прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, утварэньне высока-кваліфікаваных рабочых тэхнікаў і інжынэраў зьяўляецца немагчымым.

Ня менш дрэнна абстаіць пытаньне з утварэньнем навуковых кадраў. Падрыхтоўка асьпірантаў раскідана ў чатырох установах. Ня гледзячы на затрату солідных матэрыяльных сродкаў, вынікі атрымліваюцца вельмі мізэрныя і тут заўсёды мы маем паралелізм у рабоце. У гэтай галіне неабходным зьяўляецца аб'яднаньне навуковых кадраў у адным цэнтры. Найбольш падыходзячай для гэтай мэты была-б Беларуская Акадэмія Навук. У адносінах да навуковых кадраў БССР да

гэтата часу не карыстаецца дастатковай дапамогай з боку Усесаюзных установ. БССР ідзе на вялікія ахвяры і з сваіх скудных кадраў выдзяляе таленавітыя адзінкі для вучобы ў РАНІОН, у Інстытут Чырвонай Профэсуры і іншыя, але назад мы нікога не атрымліваем. Патрэба Савецкай Беларусі ў навуковых марксыцкіх кадрах вялікая, але з за кожнага таварыша, які канчае вучобу ў цэнтральных саюзных навуковых установах, трэба весьці самую жорсткую барацьбу. А БССР мае права разьлічваць ня толькі на зварот тых, каго яна командыруе вучыцца, але і на дапамогу братэрскіх рэспублік, больш моцных у галіне навуковых марксыцкіх кадраў, чым у БССР. Нам здаецца зусім патрэбным, каб ва ўсіх саюзных інстытутах, што рыхтуюць марксыцкія навуковыя кадры, апрача таварышоў, якія командыраваны з БССР, рыхтаваліся для БССР таварышы з іншых, больш багатых навуковымі марксыцкімі кадрамі рэспублік, для чаго сярод абавязковых прадметаў, якія вывучаюць гэтыя таварышы, павінна быць і беларуская мова.

Вядома, урадавыя савецкія, коопэрацыйныя і грамадзкія організацыі БССР павінны праявіць у гэтай галіне ініцыятыву, вылучыўшы пэўныя сумы на контрактацыю студэнтаў у ВНУ, ВТНУ і навуковыя інстытуты агульнасаюзнага значэньня.

* * *

Задачы, якія стаяць перад КП(б)Б у галіне ўтварэньня пролетарскіх кадраў, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, могуць і будуць вырашаны. Бо крыніца гэтых кадраў, рабочая кляса, расьце вельмі хутка— у першую чаргу за лік каранного насельніцтва БССР, беларусаў, а таксама за лік яўрэйскіх працоўных мас, якія складаюць у гарадох і мястэчках Беларусі вельмі сур'ёзную праслойку працоўных. Гэты рост рабочае клясы БССР, а таксама рост яго палітычнай актыўнасьці знаходзіць свой адбітак у росьце комуністычнай партыі наогул, у росьце яе рабочай праслойкі і зьмены яе структуры па нацыянальным складу. Рост партыі можна прасачыць па наступных дадзеных: калі колькасьць членаў партыі на 1-е студзеня 1929 г. прыняць за 100 (33.381), дык на 1-е студзеня 1930 г. будзем мець 109%, а на 1-е красавіка 1930 г. ужо 118%. Вялікае паскарэньне тэмпу росту партыі за 4 месяцы 1930 г. зьяўляецца лепшай ілюстрацыяй росту актыўнасьці рабочае клясы, а таксама росту давер'я яго да палітыкі, якая праводзіцца пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Рабочая праслойка за той-жа пэрыяд часу павялічылася з 59,5% да 64,6%, каб на 1-е красавіка 1930 г. скласьці 66,9%. Яшчэ хутчэй нарастала колькасьць рабочых ад варштату. У 1928 г. рабочыя ад варштату складалі 37,0, на 1-е студзеня 1929 г.—39,4%, на 1-е студзеня 1930 г.—44,8% і на 1-е красавіка 1930 г.—46,1%. Пры чым гэтае павялічэньне колькасьці рабочых ад варштату зьяўляецца вынікам энтузіязму шырокіх рабочых мас,—энтузіязму, які выліваецца ў масавыя заявы, старых вытворчых рабочых, у масавыя заявы ня рэдка цэлых цэхаў, аб уступленьні ў партыю.

Па нацыянальных адзнаках мы маем за ўзяты намі адрэзак часу наступныя зьмены: колькасьць беларусаў павялічылася з 54,8% да 55,5%, каб на 1-е красавіка 1930 г. скласьці 55,8%. Гэты тэмп росту нашай партыі за лік каранного пролетарыяту нашай рэспублікі мы ня можам прызнаць здавальняючым, таксама, як і ня можам прызнаць здавальняючым становішча з ростам нашай партыі за лік рабочых-

палякаў. Хаця палякі ў нашай рэспубліцы складаюць ня больш паўтара процанты насельніцтва, але сярод рабочае клясы іх удзельная вага павышаецца да 3,5% і з іх профсаюзамі ахоплена звыш 3%. У партыі-ж мы мелі на 1-е студзеня 1929 г.—3%, на 1-е студзеня 1930 г.—2,1% і на 1-е красавіка 1930 г. толькі 2,5%, пры чым на 1-е студзеня 1930 г. паменшылася колькасьць членаў партыі палякаў ня толькі ў процантных адносінах, але і ў абсолютных лічбах. Толькі ў красавіку колькасьць комуністых - палякаў у абсолютных лічбах дасягнула ўзроўню 1929 г. Гэтыя лічбы гавораць аб зусім недастатковай рабоце нашых організацый па лініі нацменшасьцяй і ў даным выпадку сярод польскага пролетарыяту. Такое-ж становішча, як з комуністымі - палякамі мы маем і па лініі іншых нацыянальных меншасьцяй: латышоў, літоўцаў і г. д. Толькі колькасьць яўрэйскіх пролетарыяў мае тэндэнцыю да далейшага абсолютнага і адноснага росту, які некалькі адстае ад тэмпу росту нашай організацыі за лік беларускага пролетарыяту, але агульна можа быць прызнаны здавальняючым.

XII зьезд КП(б)Б завастрыў увагу ўсяе парторганізацыі на неабходнасьці асабліва рашучага павялічэньня пролетарскай праслойкі ў вёсцы за лік больш энэргічнай вярбоўкі ў партыю сельска - гаспадарчых рабочых і батракоў. Ёсьць рашэньне аб тым, каб пры прыёме ў вясковых парторганізацыях, ня менш 50% агульнай колькасьці прымаемых, былі-б сельска-гаспадарчыя рабочыя і батракі. Гэта рашэньне ня выканана. Процант сельска-гаспадарчых рабочых і батракоў у вясковым прыёме дасягае толькі 37. Удзельная вага сельска-гаспадарчых рабочых і батракоў за апошнія 15 месяцаў узьнялася з 2,6% на 1-е студзеня 1929 г. да 3,9% на 1-е красавіка 1930 г. У колькасных адносінах мы маем такі малюнак: на 1-е студзеня 1929 г. у КП(б)Б было ўсяго 830 сел.-гас. рабочых і батракоў, а на 1-е красавіка 1930 г. мы маем 1530. Такім чынам, мы маем некаторае павялічэньне і ўзмацненьне пролетарскага ядра вясковых організацый. Аднак, усё - ж гэта далёка не дастаткова.

Дабіцца ва што-б та ня стала ўзмацненьня вярбоўкі ў партыю, павялічэньня агульнага тэмпу росту КП(б)Б, пры абавязковым выкананьні заданьня аб тым, каб да канца 1930 г. ня менш 50% комуністых былі рабочыя ад варштату—вось асноўныя задачы КП(б)Б. Асабліва рэзка трэба падкрэсьліць неабходнасьць значнага павялічэньня тэмпу вярбоўкі рабочых саўгасаў, батракоў, беднякоў, колгасьнікаў і рабочых беларусаў у вогуле.

* * *

*Рэорганізацыя партыйнага апарату была мерай неабходнай на сёньняшні дзень і ўжо сябе ў значнай ступені апраўдала.* На вялікі жаль, нам ня ўдалося да сягоньнешняга дню рэорганізацыю партыйнага апарату закончыць патрэбным чынам, пакуль мы маем справу з чыста формальнай рэорганізацыяй. Ліквідаваны жанаддзелы, нацбюро, інакш разьмяркованы функцыі паміж аддзеламі цэнтральнага, акруговага і мясцовых партыйных апаратаў. Тое, што было генэральнай ідэяй рэорганізацыі ў галіне жаночай і нацменаўскай работы, нам далёка ня ўдалося давесьці да зразуменьня ўсяе партыйнай масы. Консэрватыўныя, няўважлівыя адносіны да пытаньня жаночай працы і да пытаньня нацработы засталіся яшчэ існуючымі ў нашых партыйных організацыях. Да гэтага часу яшчэ пры няўдачы па лініі работы з жанчынамі партыйныя організацыі звальваюць адказнасьць на жанорганізатараў.

Прывядзем найбольш характэрны факт. У Шклоўскім раёне Магілеўскае акругі, які набыў сумную вядомасьць ва ўсім саюзе перагібамі ў справе колектывізацыі і ў замоўчваньні артыкулу т. Сталіна. „О головокружении от успехоў“ сялянкі асабліва востра супраціўляліся колектывізацыі. Сакратар Райкому з гэтай прычыны выклікаў жанорганізатаршу, работніцу вылучэнку з фабрыкі „Спартак“, якая прапрацавала ледзь 3 месяцы на гэтай рабоце і заявіў: „твае бабы супроць колектывізацыі“. Гэта няправільная ўстаноўка сакратара райкому не нашла адпору з боку кіраўнікоў акружкому. Яны таксама стаялі на пункце погляду „твае бабы“ і замест таго, каб лічыць нездавальняючай работу райкому і ўсяе раённай партыйнай організацыі сярод жанчын, рашылі біць па стрэлачніку і зьняць з работы работніцу вылучэнку жанорганізатара.

Гэта не адзін выпадак. На фабрыцы „Беразіна», у сувязі з рэорганізацыяй партапарату зьнялі платную адзінку - жанорганізатара, а аб рабоце сярод жанчын забылі. 8 сакавіка работніцы фабрыкі сабраліся на ўрачысты сход, прысьвечаны 8 сакавіка і чакалі некалькі гадзін кіраўнікоў партыйнай ячэйкі, дакладчыкаў, концэрту і г. д. Так і не дачакаліся. Ячэйка па інэрцыі лічыла, што гэта справа „тваіх баб“, а жанорганізатара ўжо ня было і былая жанорганізатарша лічыла, што гэта справа ўсяе ячэйкі і ўсяго бюро ячэйкі.

Такім-жа консэрватызмам хворы і наш партыйна-савецкі друк. Калі ў Ц. О. партыі быў накіраваны артыкул аб падрыхтоўцы ясельнай сеткі ў колгасах, дык гэты артыкул таварышы з „Зьвязды“, ня доўга думаючы, накіравалі па ведамсьцьвеннай лініі ў „Работніцу і сялянку“.

Усе гэтыя факты паказваюць аб тым, што рэорганізацыя партапарату формальна закончана, а па сутнасьці мы да яе і не прыступілі. Неабходна дабіцца ў гэтай галіне хутка пералому.

Вядома, што калі пытаньне аб рабоце сярод жанчын наогул абстаіць на сёньня вельмі дрэнна, дык яшчэ горш справа абстаіць з работай сярод жанчын нацменаў, бо нацменработа, у сувязі з рэорганізацыяй партапарату, знаходзіцца яшчэ ў большым загоне, чым работа сярод жанчын, тут няўважлівасьць і консэрватызм праявіўся ў асабліва яскравых і нецярпялівых формах.

Дырэктывы ЦК УсеКП(б) даўно ўжо гаварылі аб тым, што за партыйную работу па лініі нацыянальных меншасьцяй адказвае ўся партыйная організацыя і што нацменработнікі зьяўляюцца толькі дапаможнымі органамі партыйнага апарату. Гэтыя паказаньні даваліся партыяй увесь час і асабліва рэзка былі выпуклены ў рэзолюцыі XII зьезду нашай партыі. На вялікі жаль, гэтыя дырэктывы не вайшлі ў кроў і „плоць“ нашай работы. Таму рэорганізацыя партыйнага апарату, якая заключае ў сябе ліквідацыю нацменбюро і нацменработнікаў пры фабкомах, фактычна вылілася ў поўную ліквідацыю нацменработы. Партыйныя організацыі выкарысталі ліквідацыю нацбюро і нацработнікаў, каб узмацніць свае кадры па лініі агульнай работы. Дырэктывы аб неабходнасьці ўзмацніць нацработу па лініі савецкай за рэдкімі выпадкамі ня выконваюцца.

У БССР у Віцебску, у Воршы, Магілеве па лініі савецкага апарату, або нацкамісіі, якія існавалі да рэорганізацыі партапарату і мелі па аднаму працаўніку, часта тэхнічнаму, так і засталіся.

Да гэтага часу толькі Гомель узяўся як належыць да рэорганізацыі нацкамісій, у сувязі з рэорганізацыяй партапарату. Там організавана нацкамісія, маюцца, апрача адказнага сакратара, яўрэйскі і польскі інструктары, а таксама ўпоўнаважаныя па рабоце сярод латыскіх і літоўскіх працоўных, якія аслабанены ад усякіх іншых нагрузак.

Гомельская нацкамісія правяла аб'езды на месцы, а таксама шэраг практычных мерапрыемстваў па абслугоўваньню працоўных мас нацменшасьцяй. У Полацку выдзелены два таварышы для работы ў нацкамісіі, на вялікі жаль, яны да апошняга часу былі заняты на іншай рабоце і апрача пратаколу аб першым іх пасяджэньні ніякіх больш конкрэтных вынікаў работы па лініі нацменшасьцяй у Полацкай акрузе няма. Такое-ж становішча і ў Мазыры, дзе існуе адказны сакратар нацкамісіі яўінспэктар.

У польскіх, латыскіх, літоўскіх, яўрэйскіх колгасах, якія расьлі і растуць вельмі інтэнсыўна, працуе ў сучасный момант вялікая маса пролетараў-нацыяналаў Ленінграду, Масквы, Харкаву і інш. пролетарскіх цэнтраў, але і аб іх нацкамісіі нічога ня ведаюць, а мясцовыя партыйныя організацыі ніякай работы з імі не вядуць, не разумеючы, што гэты вучастак колгаснага будаўніцтва патрабуе асаблівай уважлівасьці, настойлівасьці і за выключэньнем Гомеля і Менску, адкуль нацкамісіі выяжджалі з аб'ездамі на месцы і зрабілі (асабліва гэта датычыць цэнтральнай нацкамісіі) вялікую практычную работу, у іншых мясцох, па нашых вестках, ніякай работы не вядуць.

Словам, становішча ў галіне нацработы трэба прызнаць пагражаючым. Няма новых форм работы; парторганізацыі не адчуваюць свае адказнасьці на гэтым вучастку работы. Адным з тэрміновых пытаньняў трэба прызнаць скліканьне спэцыяльнае нарады па пытаньню аб новых формах работы сярод нацменшасьцяй пры ЦК КП(б)Б, а нарэшце, пасьля праверкі вопыту на мясцох, і пры ЦК УсеКП(б).

---

**А. Курціκ**

# За бальшавіцкую якасьць нашага друку [1])

## III. У барацьбе за колектывізацыю

Пераважная частка газэт Беларусі абслугоўвае вёску.

Сэктар Друку Культпропу ЦК КП(б)Б у выбарачным парадку правёў грунтоўны агляд—абсьледваньне аднэй з акруговых сялянскіх газэт—газэты „Камунар Магілеўшчыны“.

Мы зараз на гэтай газэце больш падрабязна застановімся з тым, каб на яе прыкладзе паказаць тыя асаблівыя, найбольш характэрныя недахопы, якія ў тэй ці іншай „дозе“ уласьцівы асобным нашым акруговым газэтам.

### „Трэба імкнуцца да колектывізацыі“

Комплекты газэты „Камунар Магілеўшчыны“ за другую палову 1928 г. (называлася тады „Магілеўскі Селянін“) гаворыць аб палітычнай блізарукасьці *тагочаснага* кіраўніцтва рэдакцыяй. У паасобных артыкулах дапушчаецца палітычна нявыразныя, а часам памылковыя формуліроўкі.

Аб гэтым гаворыць наяўнасьць у шэрагу прагледжаных нумароў „беспартыйнага“, без усялякага палітычнага хрыбта, аддзелу „Будзь культурным гаспадаром“, друкаваньне сэрыі такіх сама палітычна бясхрыбетных артыкулаў, абагульваючы вопыт Тураўскай сельска-гаспадарчай дасьледчай станцыі, артыкулаў, якія бяруць выразную ўстаноўку на індывідуальную сельскую гаспадарку.

Фактычна больш-менш выразная палітычная ўстаноўка газэты на шырокую, энэргічную і настойлівую популярызацыю колгаснага руху, як „руху мільёнаў“, пачынаецца толькі ў канцы жніўня 1929 г.

У № 94 газэты ад 14 жніўня замест перадавога артыкулу зьмешчана пастанова ЦК КП(б)Б аб правядзеньні дню колектывізацыі, але ўва ўсім нумары па гэтаму пытаньню няма ніводнага радка, таксама як нічога няма аб колгасным руху і ў наступным нумары 95, у № 96— адзін перадавы артыкул, № 97 — акрамя адозвы ЦК, таксама „вежа маўчанкі“ ў пытаньнях колектывізацыі.

Гэтыя нумары газэты (№ № 94, 95, 96 і 97) зьяўляюцца тыповым прыкладам *разрыву паміж важнейшымі палітычнымі дакумэнтамі партыі*—з аднаго боку і з другога боку — няўменьня рэдакцыі хутка і гнутка адгукнуцца, адразу прасякнуць усю газэту і бліжэйшыя яе чарговыя нумары гэтай першачарговай баявой задачай, высунутай партыяй. Але замест патрэбнай палітычнай чуласьці — прыклад абломаўшчыны.

[1]) Канец. Пачатак артыкулу ў папярэднім нумары.

Нявыразнасьць у пастаноўцы пытаньня колгаснага руху, яго недаацэнка і *новым складам рэдакцыі* (у першыя 1—2 месяцы) падцьверджаюцца тым, што ў № 37 газэты (за ліпень) пад загалоўкам „Праз соцыялістычнае спаборніцтва—да ўздыму нашае гаспадаркі—за правядзеньне аграмінімуму, за лепшую падрыхтоўку да асеньняга севу“—зьмяшчаецца 7 допісаў, з іх—ніводнага пра колгасы.

Альбо ў № 85 газэты (ад 17 ліпеня), у якім наогул амаль нічога ня сказана аб колектывізацыі, *зьмяшчаецца на апошняй старонцы ў хронiцы* надзвычайна важнае паведамленьне *аб уступленьні цэлае вёскі Маркоўкі з 44-х гаспадарак у колгас „Чырвоная Горка“ (аб аб'яднаньні двох дробных колгасаў).*

Недаацэнка колгаснага руху ў гэтым факце асабліва выразна падкрэсьліваецца, бо трэба ўспамянуць, што для ліпеня 1929 году такія здарэньні, як уступленьне цэлае вёскі ў колгас, былі ня менш важнымі, чым цяпер паведамленьне аб колектывізацыі акругі.

Недастаткова і няпоўна, у выглядзе надзвычайна беднае хронікі у газэце адбіваецца тая дапамога і кіраўніцтва, якое праводзіць пролетарыят гораду колгасным рухам. Усяго ў прагледжаных нумарох зьмешчана на гэтую тэму ня больш 20—25 допісаў. У № 147, у хроніцы, зьмяшчаецца допіс у 11 радкоў аб пасылцы Акрпрафсаветам 34 рабочых у колгасы. Спэцыяльных падборак сэрыі артыкулаў па гэтаму пытаньню няма.

Калі за апошнія месяцы адчуваецца значная колькасная насычанасьць газэты „Камунар Магілеўшчыны“ матар'яламі колгаснага руху, дык пакуль што *якасныя паказчыкі апрацоўкі і прыпаднясеньня такіх матар'ялаў значна* астаюцца ад колькасных паказчыкаў.

### Газэта ў ролі фотографа

Большасьць аддзелаў газэты „Камунар Магілеўшчыны“ па пытаньнях колгаснага руху пабудавана не па прынцыпу падборкі, не па прынцыпу групаваньня і адпаведнага абагуленьня матар'ялаў па пэўнаму, зьвеньнявому, найбольш важнаму пытаньню, а пабудавана па прынцыпу „вермішэлі“, „з бору ды сасонкі“, калі з аддзелу часам выбіваецца яго політычная мэтаімкнённасьць, калі аддзелы ператвараюцца ў *пералічэньне, фотографаваньне* дасягненьняў і сыстэматычнае *канстатаваньне.*

Пры такім прыпаднясеньні матар'ялаў з аддзелаў выпадае іх організуючая, концэнтруючая ўвагу на пэўных пытаньнях, роля.

У прагледжаных комплектах газэта пераважную ўвагу аддае асьвятленьню *рэгістрацыі самога факту* стварэньня новых колгасаў, *асьвятленьню фактаў* праяў клясавае барацьбы навакол колгасаў, але, у значнай меры, адсутнічае ініцыятыўная *пастаноўка*, высоўваньне, абгаварэньне газэтай шэрагу надзенных, „сьвежых“ для колгасаў пытаньняў, як пытаньні падрыхтоўкі кадраў, унутранага распарадку, консультацыі па асобных вострых пытаньнях, пытаньні гэткай важнейшай і адказьнейшай галіны работы, як работы груп беднаты, адсутнічае ініцыятыва рэдакцыі ў правядзеньні шэрагу нарад колгасьнікаў па асобных пытаньнях работы і жыцьця колгасаў, з тым, каб на гэтых нарадах лепей намацваць пульс жыцьця, каб лепей навучыцца своечасова і правільна высоўваць і даваць адказы на найбольш вострыя, на найбольш надзенныя пытаньні колгаснага руху.

Газэта першая высунула пытаньне аб зборы сродкаў на пабудову трактарнай колёны: у некалькіх нумарох друкаваліся на гэтую тэму

матар'ялы, выклікі і г. д., але ўтрымаць тэмп на старонках самой газэты ў гэтым пытаньні рэдакцыя не змагла і пасьля аднаго-двух удала зробленых аддзелаў — газэта перайшла на зьмяшчэньне толькі асобных разрозьненых допісаў.

Як прыклад *адставаньня* газэты ў асобных пытаньнях ад тэмпу і размаху нашае работы і нашых дасягненьняў можа служыць факт, калі ў № 133 газэты ад 13-XI *на апошняй старонцы* зьмешчана пэтытам, пад казённым загалоўкам абавязковая пастанова № 10 гістарычная пастанова Акрвыканкома—„Аб увядзеньні ў акрузе ўсеагульнага абавязковага навучаньня“ і ў той-жа час ні *ў гэтым нумары, ні ў наступных нумарох газэты няма ні перадавога артыкулу па гэтаму пытаньню, няма ніводнага аддзелу аб тым, як практычна мяркуецца забясьпечыць рэалізацыю гэтай важнейшай пастановы і як яна будзе ажыцьцяўляцца ў колгасах.*

Гэтая важная політычна-практычная пастанова была кепска даведзена да шырокіх мас працоўных, была фактычна газэтай *змазана.*

Фактам адсутнічаньня ў газэце ўменьня ў асобных выпадках уздымаць той ці іншы характэрны *прыватны* выпадак, прыватнае пытаньне на адпаведную *прынцыповую* вышыню, мобілізаваць вакол гэтага пытаньня грамадзкую думку — зьяўляецца *казённае прыпаднясеньне* (у нумары 105) пастановы прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б па справе аб організацыі і рэгістрацыі колгасу „Гігант“.

Гэтая пастанова Прэзыдыуму ЦКК, вынесеная па асобнаму выпадку, зьяўляецца важным і пераканаўчым дакумантам таго, як жорстка і бязьлітасна „ня гледзячы на асобы“, партыя карае тых, хто затрымлівае рост і афармленьне колгаснага руху.

Гэты конкрэтны факт, карыстаючыся пастановаю ЦКК, як падставаю, газэта павінна была ўзьняць на адпаведную прынцыповую вышыню, павінна была даць па гэтаму пытаньню перадавы артыкул, адвесьці, быць можа, цэлую старонку. Замест гэтага атрымаўся інформацыйны допіс, атрымалася *бяззубае* прыпаднясеньне важнейшага матар'ялу.

Гэтыя два прыклады, у сьвятле шэрагу іншых прыкладаў, даюць падставу зрабіць вывад аб тым, што побач з зьмяшчэньнем матар'ялаў, якія мобілізоўвалі ўвагу організацыі па пытаньнях клясавай барацьбы, газэтаю „Камунар Магілеўшчыны“ дапушчаны факты аб'ектыўнага прыніжэньня *політычнага значэньня, політычнага прытупленьня шэрагу асобных допісаў, у прыватнасьці допісаў аб клясавай барацьбе.*

За ўвесь 1929 г. на старонках газэты, якая выходзіць тры разы на тыдзень, зьмешчана 66 адзінак газэтнага матар'ялу, якія, у асноўным, спэцыяльна прысьвечаны барацьбе з правай небясьпекай. З гэтае колькасьці—каля 12 артыкулаў, 5 рэзолюцый, 1 прывітаньне і рэшта допісаў—аб конкрэтных праявах правага ўхілу на практыцы.

За выключэньнем двух артыкулаў, якія перадрукаваны з цэнтральных газэт і ня ўлічваючы ўспамінаньня пра „левыя“ загібы ў рэзолюцыях партыйнай організацыі,—у газэце „Камунар Магілеўшчыны“ ня было аддзелаў і артыкулаў прысьвечаных пытаньням барацьбы з „левымі“ загібамі і паказ іх соцыяльных карэньняў.

*Газэта „Камунар Магілеўшчыны“ дапусьціла вялізарнейшую памылку, зусім не мобілізаваўшы партыйнай організацыі на барацьбу з нацыянал-опортунізмам і нацыянал-дэмократызмам.*

Па гэтаму пытаньню за ўвесь год зьмешчана адна рэзолюцыя Магілеўскага Гаркому КП(б)Б.

Гэтыя лічбы на фоне ня зусім, часам, здавальняючай якасьці зьмешчаных матар'ялаў рубам ставяць пытаньне *аб недастатковай*

*мобілізацыі партыйнай організацыі на барацьбу з правай небясьпекай і прымірэнцтвам да яе, аб нездавальняючай барацьбе з „левымі" загібамі, з скажэньнямі лініі партыі ў колгасным будаўніцтве і аб буйнейшай політычнай памылцы — не орыентаваныя організацыі з нацыянал-опортунізмам і нацыянал-дэмократызмам.*

Газэта таксама, ня здолела злучыць популярызацыю пяцігодкі з барацьбою супроць правае тэорыі і практыкі, у прыватнасьці супроць прышчэпаўшчыны.

У артыкуле аб пяцігодцы, пад назвай „Мерапрыемствы па падвышэньні ўраджайнасьці" (№ 84), ёсьць такое месца: „... Калгасы будуць створаны на плошчы 193 тыс. *га* (да канца пяцігодкі), што складае 30,7 проц. усяе земляўпарадкаванае плошчы. На плошчы 405 тыс. *га будуць створаны пасёлкі, як формы, якія спрыяюць разьвіцьцю сельскае гаспадаркі,* яе пераходу на колектыўнае землякарыстаньне".

Спадзяемся, што коментарыі да гэтае вытрымкі не патрабуюцца!

Артыкулы тэорэтычнага зьместу рэдакцыяй апрацоўваюцца слаба, спатыкаецца блытаніна фармуліровак, а часам і іх політычная памылковасьць. Так, напрыклад, у артыкуле „Правы ўхіл і генэральная лінія партыі" дадзена такая формуліроўка: „... Задача разгортваньня сельскае гаспадаркі беднякоў і серадднякоў, узмацненьня таварнасьці асноўнага сялянскага масыву—ёсьць важнейшая задача".

Як асобны факт політычна-блытанага загалоўку трэба прывесьці „шапку" (загаловак аддзелу), зьмешчаную ў № 119 газэты з такім зьместам: „Ударым па антысэмітызму, опортуністычных ухілах на практыцы".

Недастаткова роля газэты ў справе ўскрыцьця конкрэтных праяў правае практыкі. Шэраг характэрных і буйных праяў правае практыкі газэта праспала. У шэрагу выпадкаў газэта пачынала „махаць кулакамі пасьля бойкі", пасьля таго, як праявы правае практыкі былі выкрыты адпаведнымі партыйнымі організацыямі.

Так, напрыклад, сакратар Акругкому КП(б)Б у дакладзе на пленуме Акругкому аб праявах правае практыкі гаварыў наступнае (цытуем па № 118 газэты ад 4 кастрычніка): „Практыка правага ўхілу маецца ня толькі ў нізавых зьвеньнях організацыі, яна маецца і ў нашых акруговых установах. Так, калі ўзяць Акрза, то з боку апошняга мелася выразная ўстаноўка Прышчэпава, устаноўка на хутарызацыю сельскае гаспадаркі... Ня лепш абстаіць справа і ў другой установе, як Акрфа".

Гэтыя вытрымкі з дакладу, якія быў надрукаваны ў газэце ад *чацьвертага кастрычніка.* І толькі праз сем дзён—*адзінаццатага кастрычніка* на першай старонцы газэты зьяўляецца артыкул „Абаронцы з Акрфа". Да гэтага часу матар'ялы як аб Акрза, гэтак і аб Акрфа ў газэце не друкаваліся.

Папярэдняга выяўленьня і паказу гэтых фэктаў правае практыкі мы ў газэце не знайшлі—газэта выйшла глухаватай на адно вуха, у частцы выяўленьня праяў правага ўхілу ў „акруговым маштабе".

Таксама з спазьненьнем газэта пачала выяўленьне фактаў правае практыкі ў асобных раёнах (Карма, Быхаў).

Матар'ялы аб скажэньнях клясавае лініі ў Кармянскім раёне прасьлізалі ў газэце і раней, але газэта гэтыя матар'ялы прыпаднасіла політычна тупа, чым змазвала іх значэньне. Так, у допісу, набраным дробным шрыфтам і маючы гэтакі бяскрыўдны, усыпляючы загаловак „Некаторыя моманты з працы Кармянскай райпарторганізацыі", выхо-

дзіць паведамляецца ня больш і ня менш, як аб: 1) зацiску парторганiзацыi з боку сакратара РК КП (б) Б, 2) грашовых злачынствах і 3) разлажэньні асобных ячэек на глебе п'янкі і сувязі з чужымі элемэнтамі. Газэта не стварыла навокал гэтых фактаў думкі пралетарскае грамадзкасьці, не зрабіла на сваіх старонках адпаведных палітычных вынікаў.

### Жывы яшчэ „стрэлачнік"!

З нумару ў нумар газэта „Камунар Магілеўшчыны" зьмяшчае значную колькасьць допісаў, якія выкрываюць недахопы, паказваюць конкрэтных носьбітаў зла, паказваюць шляхі выпраўленьня тых ці іншых недахопаў. У газэце, праўда нерэгулярна, друкуецца „Лісток РСІ". Газэта ўскрыла шэраг недахопаў ў навучальных установах, садзейнічала ўскрыцьцю гнойніка ў комунтрэсьце. У ходзе асьвятленьня чысткі савецкага апарату і партыйнай організацыі ў газэце ўзмацнілася зьмяшчэньне матар'ялаў аб недахопах і прарывах як у паасобных партыйных ячэйках, так і ў савецкіх установах.

Але ўважлівае вывучэньне камплектаў газэты паказвае, што пераважная большасьць зьмяшчаных на старонках газэты за апошнія паўгода матар'ялаў выкрывае, б'е, галоўным чынам, *стрэлачнікаў*.

Наш вынік аб тым, што газэта, галоўным чынам, б'е „стрэлачніка", што ў газэце ў недастатковай меры адчуваецца поўнакроўная, зубастая і дзейная самакрытыка, падмацоўваецца пералікам тых мішэняй, якія бяруцца пад абстрэл у зьмешчаных у газэце „Лістках РСІ": сельсаветы, лясьніцтвы, раёная пошта, профшколы...

*Справа з цкаваньнем рабкора Багайскага, справа з зацiскам самакрытыкі на фабрыцы „Спартак", скажэньне клясавае лініі ў Акрфа, Акрза, у Быхаўшчыне, Кармянскім раёне—усё гэта прайшло паўз газэту, газэта своячасова ня выкрыла гэтых буйнейшых скажэньняў самакрытыкі і пролетарскае клясавае лініі.*

А на пытаньне наогул аб тым, ці ў дастатковай ступені па Магілеўскай акрузе разгорнута пролетарская самакрытыка, гаворыць наступная вытрымка з спэцыяльнае адозвы Акругкому КП(б)Б аб самакрытыцы, зьмешчанай у № 142 газэты.

„... Але трэба констатаваць, што далёка яшчэ ня скрозь, не на кожным заводзе, ня ў кожнай партыйнай організацыі, ня ў кожнай установе самакрытыка стала мэтадам работы.

Праверка дзейнасьці, чыстка савецкага і коопэрацыйнага апарату ў нашай акрузе і чыстка партыі, якая цяпер праходзіць ускрывае ў паасобных зьвеньнях, моманты грубага скажэньня клясавай лініі ў рабоце ўстаноў і організацый, засьмечанасьць апарату чужымі людзьмі, прыклады ржаўчыны, гнілі апарату, спаўзаньне з генэральнае лініі партыі, опортуністычнае балота ў практычнай рабоце некаторых сябраў партыі, сямейственасьць у вырашэньні пытаньняў, моманты ігнараваньня самакрытыкі, зажым яе і г. д."

Характэрна на фоне гэтай адозвы падкрэсьліць, што па больш буйных праявах, як Быхаўская справа, справа з самагубствам Багайскага, аб Акрфа, Акрза і г. д.—газэта „Камунар Магілеўшчыны" не зьявілася сыгналізатарам для ўсяе партыйнае організацыі, газэта толькі добрасумленна асьвятляла гэтыя прарывы і давала палітычную ацэнку *пасьля таго,* калі прарывы былі ўскрыты кіруючымі партыйнымі органамі.

У даных конкрэтных выпадках як сама газэта, гэтак і сетка кіруемых газэтай рабселькораў не аказалася тым чулым, масавым інстру-

мантам партыі, які павінен быў сыгналізаваць пролетарскай грамадзкасьці аб прарывах, інструмантам, які-б дапамагаў комуністычнай партыі і рабочае клясе ўскрываць гэтыя прарывы.

*Патрэбна адзначыць, што ў спэцыяльнай адозьве Акругкому КП(б)Б аб самакрытыцы маецца недаацэнка ролі друку, ні слова не сказана аб задачах газэты „Камунар Магілеўшчыны“ у справе разгортваньня самакрытыкі, адсутнічае крытыка промахаў „Камунара Магілеўшчыны“ ў адносінах нядастатковага, і не заўсёды рашучага разгортваньня самакрытыкі.*

Гэты факт характэрны і тым, што аўтарам проэкту адозвы акругкому аб самакрытыцы зьяўляўся былы рэдактар газэты „Камунар Магілеўшчыны“ т. Пераход, цяпер пастановай бюро ЦК КП(б)Б зьняты з работы за нерэагаваньне на скажэньні партыйнае лініі ў Шклоўшчыне, дзе ён знаходзіўся, як прадстаўнік акругкому КП(б)Б.

У час чысткі партыйнай ячэйкі Магілеўскага ЦРК выкрылася, што ў гэтай установе маецца гнойнік, але—гэтыя факты знайшлі свой адбітак у газэце толькі, як матар'ялы, выяўленыя камісіяй па чыстцы.

Недарэчнасьцю зьяўляецца тое, што ў нумары 122 газэта паведамляе аб выніках чысткі Акрфа і чамусьці замест прозьвішча таварышоў піша гэтак: „... Камісіяй па чыстцы вынесена т. Р. суровая вымова“, „тав. А. заслужыў спагнаньне на від“.

Гэтакая недарэчная, „альфабэтная“ крытыка можа выклікаць непатрэбныя і шкодныя гутаркі аб тым, што газэта быццам не на ўсіх распаўсюджвае лёзунг крытыкаваць „ня гледзячы на асобы“, што крытыкуюць „гледзячы не на асобы, а на зады“, і г. д.

Няпрыемнае ўражаньне застаецца ад зьмешчанага ў № 86 „Ліста ў рэдакцыю“ Старшыні Акрсуду, у якім *цалкам* апраўвяргаюцца зьмешчаныя ў адным з папярэдніх нумароў матар'ялы аб скажэньні клясавае лініі ў судовых органах.

„Ліст у рэдакцыю“ зьмешчаны без усялякае заўвагі ад рэдакцыі і чытачу застаецца невядомым, у чым газэта памылілася, а ў чым не. Атрымалася становішча „унтэр-афіцэрскай удавы, якая сама сябе выхвастала“, застаецца ўражаньне, што газэта па важнаму пытаньню біла ў халастую, у той час, як на наш погляд матар'ялы газэты ў пэўнай частцы адпавядалі рэчаістасьці.

## Ня быць „пустым месцам на парожнім“

У непарушнай сувязі з промахамі газэты „Камунар Магілеўшчыны“ ў галіне разгортваньня самакрытыкі мы лічым амаль зусім нездавальняючае становішча рабселькораўскае сеткі газэты „Камунар Магілеўшчыны“ і слабую, недастатковую работу сярод рабселькораў.

Да апошніх месяцаў гэта найадказьнейшая галіна рэдакцыйнае работы была фактычна „пустым месцам на парожнім“.

У складзе рабселькораў аказаўся растратчык Юрчанка, які ў свой час сымуляваў замах на яго, а цяпер зьяўляецца верхаводам бандыцкае шайкі, у складзе селькораў быў кулак Стройна, з Чавускага раёну, якому, нават, рэдакцыя (старога складу) выпісвала за кошт газэты часопісь „Новый мир“, кулак Фурса, артыкул якога быў зьмешчаны перадавіцай у нумары, прысьвечаным 11-годзьдзю Кастрычніка (апошні выпадак таксама адносіцца да пэрыоду работы былога кіраўніцтва рэдакцыі).

Цяпер гэтыя ашуканцы выкінуты з рабселькораўскіх шэрагаў.

## IV. „Цені на сонцы“.

Друк Савецкай Беларусі, пад кіраўніцтвам цэнтральнага камітэту КП(б)Б, прарабіў і робіць, апіраючыся на сувязь з шырачэзнымі масамі працоўных, вялізарную работу па мобілізацыі працоўных мас навакол барацьбы за пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва, за няўхільнае ажыцьцяўленьне генэральнае лініі комуністычнае партыі.

Мы на вышэй-прыведзеных прыкладах бачылі, якую напружаную барацьбу вядзе партыйна-савецкі друк за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, за ажыцьцяўленьне асноўных лёзунгаў нашае партыі, за монолітнасьць ленінскіх шэрагаў.

Друк Беларусі, на чале з цэнтральным органам—газэтай „Зьвязда“, паказаў прыклады сапраўднае бальшавіцкае барацьбы за чыстату ленінскае лініі, супроць правага ўхілу, як галоўнае небясьпекі на даным этапе, супроць „левых“ загібаў, якія ўзмацняюць позыцыі правага ўхілу, супроць нацыянал-опортунізму, беларускага нацыянал-дэмократызму і шовінізму ўсіх колераў.

Наш друк, таксама, адыграў і адыгрывае вялікую ролю ў справе замацаваньня і далейшага разгортваньня колгаснага руху.

Сыстэма нашага бальшавіцкага друку ўсім нутром, карэньнямі ўрасла ў справу непасрэднага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, у справу згуртаваньня навакол комуністычнай партыі і яе генэральнае лініі шырачэзных мас працоўных.

І таму на фоне значных дасягненьняў нашага друку асобныя „недарэчнасьці мэханізму“ асабліва прыкметна выпукляюцца, асабліва настойліва і рашуча патрабуюць свайго выпраўленьня, пры ўдзеле шырачэзнае масы працоўных—рабселькораў і чытачоў газэт.

Адзначаючы дасягненьні нашага друку, асабліва падкрэсьліваючы гэтыя дасягненьні, бо яны складаюць жалезны капітал нашае партыі, мы павінны застанавіцца і на тых асобных політычных памылках, якія, пры правільнай у асноўным політычнай лініі цэнтральных газэт Беларусі, мелі месца ў асобных газэтах.

Аб наяўнасьці гэтых памылак досыць выразна гаворыцца ў пастанове бюро ЦК КП(б)Б ад 17-га красавіка 1930 г. і ў матар'ялах Менскага АК КП(б)Б да VIII акруговай партыйнай конфэрэнцыі, дзе пішацца:

— „... Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што нашым партыйна-савецкім друкам у пытаньнях колгаснага будаўніцтва былі дапушчаны асобныя памылкі, якія скажаюць лінію партыі ў пытаньнях колектывізацыі.

У прыватнасьці „Зьвязда“, як орган ЦК КП(б)Б, як вядучая газэта, пры правільнай у асноўным лініі дапусьціла асобныя няправільныя ўстаноўкі (форсіраваньне тэмпаў колектывізацыі без выстарчальнага ўліку якасьці работы, высоўваньне лёзунгу „раскулачваньне—асноўны сродак посьпеху суцэльнае колектывізацыі“ (з пастановы бюро ЦК КП(б)Б ад 17-га красавіка).

— „... Пры правільнай, у асноўным, лініі цэнтральных газэт імі былі дапушчаны памылкі, што выразіліся ў орыентацыі організацыі на пагоню за колькаснымі паказчыкамі, невыстарчальна яскравай лініі ў абагульненьні жывёлы, невыстарчальна яскравай пастаноўцы пытаньня аб органічнай сувязі ліквідацыі кулацтва, як клясы, з суцэльнай колектывізацыяй...

„... Чамусьці ня чуваць у нас аб такіх выпадках, калі кіруючыя цэнтральныя органы друку крытыкавалі-б другія цэнтральныя органы і амаль адсутнічае крытыка органаў мясцовага друку. Тым часам пры монапольным становішчы комуністычнага друку, адсутнічаньне

самакрытыкі ў гэтай галіне надзвычайна шкодна, добра было-б па гэтай лініі зрабіць шэраг крокаў ня толькі у цэнтры, але і ў вобласьцях".

(З дакладу т. В. М. Молатава на Ўсесаюзнай нарадзе рэдактароў).

„...Мы жадаем, мы патрабуем, каб патугамі лепшых элемэнтаў нашага журналісцкага асяродзьдзя былі створаны гэткія ўмовы ўзаемнага контролю друку з боку мас, пры якіх вялізарнай цяжкасьці задачы, ускладзеныя партыяй на друк, былі-б ёю з найбольшым посьпехам і гонарам выкананы".

„... Мы пагэтаму настойліва дамагаемся ад саміх працаўнікоў друку ўстанаўленьня ўнутры друку, пры дапамозе мас, рэжыму бязьлітаснае, дзелавое, бальшавіцкае самакрытыкі" (з перадовага артыкулу часопісі „Журналист").

Самакрытыка на старонках друку Беларусі памылак саміх цэнтральных газэт Беларусі, частка з якіх зьяўляецца і органамі Менскага АК КП(б)Б, пастаўлена зусім нездавальняюча.

Прыкладам ў гэтых адносінах зьяўляецца газэта „Зьвязда", якая, як асноўная партыйная газэта, павінна была падаваць усяму друку прыклад бальшавіцкае сваячасовае самакрытыкі асобных уласных памылак.

Газэта „Зьвязда", якая прарабіла вялізарную работу ў справе колгаснага будаўніцтва, падрыхтоўкі і праверкі падрыхтованасьці да вясеньняе пасеўнае кампаніі, разам з тым са значным спазьненьнем прызнала свае памылкі, ня гледзячы на тое, што аб наяўнасьці памылак у „Зьвязьдзе" казалася яшчэ ў спрэчках на Сакавіковым Пленуме ЦК КП(б)Б.

Газэта прызнала свае памылкі толькі пасьля пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 17-га сакавіка 1930 г., у якой было проста паказана аб памылках газэты „Зьвязда".

З недапушчальна значным спазьненьнем прызнала свае памылкі і газэта „Беларуская Вёска" (зьмяшчэньне асобных няправільна арыентуючых допісаў па пытаньню аб ліквідацыі кулацтва, як клясы, аб серадняцтве, пра абагуленьне ўсяе жывёлы і г. д. Вытрымкі з друкаваных матар'ялаў да справаздачы Менскага акруговага камітэту КП(б)Б).

Гэтыя факты, характэрызуючыя нежаданьне сваячасова па „бальшавіцку" прызнаць свае асобныя памылкі, пры правільнай ў асноўным політычнай лініі, характэрны ня толькі для аднэй „Зьвязды" і „Беларускай Вёскі", але для некаторых іншых газэт Беларусі. Самакрытыка ўнутры рэдакцыі газэт пастаўлена нездавальняюча. Тым часам цэнтральны орган нашае партыі газэта „Правда" ў сваіх артыкулах асабліва падкрэсьлівае, што „... правільнаму кіраўніцтву друкам да гэтага часу перашкаджае адсутнасьць самакрытыкі ў самім друку, навучыўшыся крытыкаваць другіх, нашыя газэты часам ня ўмеюць і ня хочуць крытыкаваць самі сябе, прызнаваць свае памылкі. Надзвычайна ўскладніліся задачы, паўстаючыя ў сучасны момант перад савецка-партыйным друкам. Перажываемы пэрыод „гэта новы этап у будаўніцтве социялізму. Гэта пэрыод разгорнутага социялістычнага наступленьня на самыя карэньні капіталізму. Гэта пэрыод гіганцкае рэконструкцыі социялістычнае прамысловасьці, гіганцкае социялістычнай перабудовы дробнае і драбнейшае сялянскае гаспадаркі".

Значная група рабкораў-вылучэнцаў, прышоўшы за апошнія месяцы на газэтную работу, далёка не ўва ўсіх рэдакцыях адчувае тую, неабходную ёй, дапамогу ў вучобе, без якое вылучэнцы ў газэце ня могуць расьці і мацнець, як газэтныя працаўнікі.

Да ліку адмоўных зьявішч у друку Беларусі трэба аднесьці не заўсёды таварыскія ўзаемаадносіны паміж рэдакцыямі цэнтральных газэт. Ня гэтак даўно меў месца выпадак, калі газэта „Зьвязда“ палічыла для сябе магчымым параўнаць рэдакцыю „Савецкай Беларусі“ з „дзяўчынай сумніцельных паводзін“. Рэдакцыя „Савецкай Беларусі“ ў сваю чаргу адказам, на нататку ў „Зьвязьдзе“ поўнасьцю перанесла эпітэты аб дзяўчыне і г. д. у адносінах да „Зьвязды“. Бязумоўна, ад такое формы полемікі выйграла ня справа далейшага разгортваньня самакрытыкі, а абывацель, які пахіхікаў ад усяе гэтае бульваршчыны.

Культпроп ЦК КП(б)Б і агульны сход колектыву КП(б)Б рэдакцый газэт рашуча выказаліся аб недапушчальнасьці падобнае формы полемікі.

Закрануўшы пытаньне аб „ценях на сонцы“, трэба больш-менш падрабязна застанавіцца на выніках „налёту“ на рэдакцыі цэнтральных газэт, які быў організаваны сэктарам друку Культпропу ЦК КП(б)Б, разам з ЦКК КП(б)Б і Фрунзаўскім райкомам КП(б)Б. Мэтай „налёту“ было раптоўна выявіць, як ў нашых шматлікіх рэдакцыях цэнтральных газэт скарыстоўваюцца допісы рабселькораў, якая з рабселькорамі вядзецца выхаваўчая работа.

### Аб залежах і халастых выстрэлах

Залежы допісаў маюцца ўва ўсіх рэдакцыях.

У меншай меры гэтыя залежы ў „Зьвязьдзе“, значна ў большай у „Рабочым“, „Чырвонай Зьмене“, „Савецкай Беларусі“, але праваflангowым у адносінах залежу допісаў бясспрэчна можа быць названа рэдакцыя газэты „Беларуская Вёска“.

У рэдакцыю гэтае газэты паступае ў сярэднім у дзень больш 250 допісаў.

Брыгада, якая рабіла праверку, адзначыла, што ва ўсіх сталох рэдакцыйных працаўнікоў, за выключэньнем стала рэдактара газэты (які вядзе антырэлігійны аддзел), непарадак, „содом і гомора“.

Брыгадзір, які знаёміўся з становішчам допісаў у папках юрыдычнага аддзелу газэты „Беларуская Вёска“, піша: „...Мы ў юрыдычным аддзеле знайшлі звыш 100 допісаў. Парадку—ніякага, усё раскідана, нідзе толкам нічога ня знойдзеш“.

Папкі аддзелаў падобны да Ноевага каўчэгу—усе допісы ў кучы. Амаль палова допісаў, якія прысылаюцца разам з маркамі для адказу—ляжаць у рэдакцыі бяз руху. Ёсьць допісы, прысланыя ня толькі з маркамі, але разам і з канвэртамі—адрасамі. У папках юрыдычнага аддзелу брыгадзір, на выбарку, прачытаў 7 допісаў—запытаньняў, з якіх 3 з шматлікімі колектыўнымі подпісамі і з маркамі для адказу, але... але гэтыя запытаньні так і засталіся без адказу. 50 допісаў, якія закранаюць пытаньні кулацкіх вылазак, паведамляюць аб контррэволюцыйнай агітацыі, ня толькі ня зьмешчаны, але не абагулены і нават у рэдакцыі не прачытаны.

Недарма сярод прагледжанага матар'ялу сустракаліся допісы, у якіх селькоры лічаць, што вось яны пасылаюць у газэту мабыць пяты ліст, кожны з маркамі, але, ня гледзячы на сваю настойлівасьць, не атрымліваюць ад рэдакцыі адказу.

І таму горнай і ня зусім дарэчы гіроніяй гучэлі словы прадстаўніка газэты „Беларуская Вёска“, які на нарадзе па выніках „налёту“, у адказ на вышэйпаданыя факты, паведаміў, што гэтыя факты не такія ўжо страшэнныя, што вось ёсьць выпадкі, калі „...селькор піша, што ён паслаў нам ужо 40 допісаў і мы ніводнага не зьмясьцілі. Матар'ял

селькора сапраўды каштоўны і ўсё-ж такі мы яго не скарысталі, бо ня было дзе ў газэце зьмясьціць".

І на фоне гэтых слоў якраз дарэчы заключэньне брыгады аб тым, што ў шэрагу нумароў газэты „Беларуская Вёска" маецца зусім недапушчальнае становішча, калі пераважная большасьць газэтнае плошчы аддаецца выключна пад артыкулы сталых працаўнікоў газэты, тым часам, як з атрыманых за 8 дзён (з 26 лістапада па 3 сьнежня) 1283 допісаў у газэце скарыстана усяго 42[1]). І ня дзіва, такім чынам, што селькор шле 40 допісаў і ніводзін ня друкуецца.

1283 і 42 гэтыя лічбы прымушаюць задумацца аб тэй значнай розьніцы паміж прыцёкамі караспандэнцый і іх скарыстаньнем, калі толькі за 8 дзён—970 допісаў ідуць зусім нескарыстанымі ў архіў, застаюцца халастымі стрэламі.

Неабавязкова, зразумела, каб газэта зьмяшчала на сваіх старонках увесь матар'ял, які атрымліваецца. Але абавязкова, каб газэта забясьпечвала поўнае, вычарпальнае скарыстаньне (у той ці іншай форме) струменю карэспандэнцый, каб была забясьпечана дзейнасьць допісаў—гэтай аднэй з рашаючых артэрый газэтнае крываноснае сыстэмы.

І, менавіта, у гэтым, у размычцы, у разрыве паміж напорным струменем карэспандэнцый зьнізу і іх скарыстаньнем вышэй, у рэдакцыі і праз рэдакцыю—і хаваецца адна з буйных палітычных і практычных памылак газэты „Беларуская Вёска", памылка, якая об'ектыўна спрыяе затрыманьню разьвіцьця і дзейнасьці самакрытыкі, памылка, якая штучна затрымлівае далейшы паўнакроўны рост рабселькораўскага руху.

Гэта памылка—часткова вынік няўменьня рэдакцыі правільна разьмеркаваць свае сілы, калі „на вонкавы фронт"—на масавыя выезды—кідаюцца ўсе асноўныя сілы (за апошнія паўтара месяцы было 145 дзён-выездаў, у пачатку сьнежня выехала 6 працаўнікоў, з якіх кожны прабудзе ў паездцы па 40 дзён), а ўнутраны фронт—работа над допісамі застаецца аголеным, поўбяспрытульным (у рэдакцыйным аддзеле з прычыны такое значнае колькасьці выездаў фактычна працуе 23 чалав.).

Выезды на месцы—найпатрэбная рэч, але нельга рабіць выезды ў непасільнай колькасьці, нельга ператвараць умовы работы ў рэдакцыі ў сваясаблівы „трышкін кафтан".

Мы наўмысьля так падрабязна застанавіліся на недахопах з скарыстаньнем рабселькораўскіх допісаў у газэце „Беларуская Вёска", бо гэта газэта мае найбольш разгорнутую і густую рабселькораўскую сетку ў Беларусі.

Мы лічым, што тут, на прыкладзе найбольш распаўсюджанай у Беларусі газэты, найбольш яскрава выявіўся згустак тых недахопаў, якія выявіў „налёт" на рэдакцыі газэт.

* * *

У газэце „Зьвязда", у сталох усіх аддзелаў, „налётчыкі" выкрылі ўсяго каля 179 допісаў; у газэце „Савецкая Беларусь"—каля 300 допісаў (патрэбна адзначыць, што за апошні час з 24 лістапада па 3 сьнежня, за 9 дзён, газэта зьмясьціла 131 допіс) у газэце „Рабочий"—911 допісаў (частка допісаў ляжыць бяз руху па 2 месяцы, цяпер-жа ў апошніх нумарох газэты, у сярэднім зьмяшчаецца 30—40 допісаў); у газэце „Чыр-

[1]) З гэтае колькасьці было паслана на расьсьледваньне 308 допісаў і ў паштовай скрынцы быў зьмешчаны адказ на 34 допісы.

воная Зьмена“—294 допісы, 300 вершаў, 170 розных запытаньняў (у сярэднім газэта атрымоўвае ў дзень 90—120 допісаў). Хаваньне матар'ялаў ва ўсіх сэктарох, за выключэньнем саюзнага, ня зусім добрае. У кожным нумары газэты зьмяшчаецца 17—20 рабселькораўскіх допісаў; у газэце „Акцябр“ рабселькораўскі матар'ял, за выключэньнем рабочага аддзелу, хаваецца ў „паэтычным“ непарадку: адна заява, падпісаная 200 рабочымі, ляжыць у рэдакцыі звыш году; сакрэтныя дакуманты месьяцца ў агульных папках; газэта, ня гледзячы на вялікі формат, зьмяшчае ў кожным нумары ўсяго каля 14 рабселькораўскіх допісаў.

## У чым сутнасьць пытаньня

Сутнасьць пытаньня, зразумела, у сыстэме работы, у ўменьні рацыянальна, дарэшты вычарпаць магчымасьці, якія, праўда, іншы раз у нас вельмі абмежаваныя (мала кваліфікаваных працаўнікоў, памяшканьні рэдакцый не забясьпечваюць нормальных умоў работы; „Беларуская Вёска“, напрыклад, знаходзіцца ў памяшканьні, якое больш падобна да камары для арыштаваных і г. д.).

Некаторую „скідку“ на такія ўмовы работы прыходзіцца рабіць, але разам з гэтым патрэбна з усёй настойлівасьцю і рэзкасьцю сказаць, што магчымасьці ўсё-ж такі скарыстоўваюцца няпоўнасьцю.

Нашы газэты не праявілі і не праяўляюць неабходнае напорыстасьці ў ажыцьцяўленьні спэцыяльнае пастановы прэзыдыуму ЦКК аб парадку скарыстаньня рабселькораўскіх допісаў. У значнай частцы рэдакцыі аб гэтай пастанове ЦКК, пастанове, якая побач з прынцыповым абгрунтаваньнем пытаньня вызначае шэраг дзелавых мерапрыемстваў—забылі, ня ведаюць. У часткі супрацаўнікоў нашых газэт мала праяўляецца пачуцьця адказнасьці за кожны рабселькораўскі допіс, за яго скарыстаньне. У значнай частцы рэдакцый нашых газэт амаль няма з боку кіраўнікоў сталае, штодзённае праверкі выкананьня супрацоўнікамі заданьняў у адносінах скарыстаньня рабселькораўскіх допісаў. Гімалаі залежаў допісаў у „Беларускай Вёсцы“, „Акцябры“ і ў некаторых іншых газэтах—навочны гэтаму доказ. І правільнымі зьяўляюцца мерапрыемствы газэты „Зьвязда“, якая яшчэ да нашага „налёту“ самастойна практыкавала сіламі рабкораў і масавага аддзелу „налёты“ ўнутры рэдакцыі газэты „Рабочий“, дзе ўводзіцца ў сыстэму прымацаваньне да пэўных аддзелаў рабочых брыгад, якія-б прыглядаліся і дапамагалі, разам з усім рэдакцыйным колектывам, для таго каб кожны допіс у той ці іншай меры быў скарыстаны, не застаўся без адказу.

Трэба ўмець аб'яднаць навокал рэдакцыі актыў, трэба апірацца ў практычнай рабоце на шырокую масу добрахвотнага актыву. Вядома, што па цыркуляру, гэты актыў ня створыцца, бо патрэбна штодзенная, упартая работа рэдакцый па стварэньню і выхаваньню кадраў гэтага актыву.

У нас кульгае справа з вучотам допісаў і вучотам іх скарыстаньня. Тэхніка вучоту рэзка астаецца ад тэмпу работы рабселькораў.

Трэба спадзявацца, што ўвядзеньне ў бліжэйшы час аднолькавае сыстэмы вучоту ва ўсіх рэдакцыях газэт (мерапрыемства прапрацоўваецца ў ЦКК) дапаможа організацыйна замацаваць рашучае зьнішчэньне „бяспрытульнага“ становішча рабселькораўскіх допісаў у асобных рэдакцыях і асобных аддзелах нашых газэт.

Патрэбна яшчэ больш рашуча разгарнуць з боку саміх працаўнікоў газэт жорсткую дзелавую самакрытыку недахопаў у рабоце газэты,

патрэбна рашуча асудзіць праяўленьне сваеасаблівае масабоязкасьці і глыбока памылковага ўспрыняцьця контролю і дапамогі з боку працоўных, якое мела месца ў час „налёту“, калі супрацоўнік аднэй з рэдакцый спрабаваў... схаваць у рукаў ад брыгадыра допіс, які меў 3-х месячную даўнасьць.

## Далакопы і самакрытыка

„Налёт“ з надзвычайнай выразнасьцю выявіў яшчэ адно слабае зьвяно ў сыстэме карыстаньня рэдакцыямі допісаў. Дзесяткі, сотні допісаў ня друкуюцца, а пасылаюцца ў адпаведныя ўстановы на расьсьледваньне. Але бяда ня ў тым, што допісы пасылаюцца на расьсьледваньне, а ў тым, што фактычна амаль няма кантролю над тым, як хутка і вычарпальна расьсьледваны той ці іншы допіс, наколькі рашуча ажыцьцёўлены па допісу неабходныя мерапрыемствы.

Вось факты.

На 750 запытаньняў газэта „Зьвязда“ не атрымала ніякага адказу. Па газэце „Савецкая Беларусь“ за апошнія чатыры месяцы было паслана на расьсьледваньне 1200 допісаў, а адказы атрыманы толькі на 600 допісаў.

Ёсьць значная колькасьць допісаў, у якіх стаж іх ляжаньня ў розных установах налічваецца больш як паўгодам.

Па газэце „Чырвоная Зьмена“ з 400 допісаў, пасланых за апошні год на расьсьледваньне, адказы атрыманы толькі на 23 процанты іх.

Адносна лепш у гэтых адносінах са справай у газэце „Беларуская Вёска“ (з 308 пасланых на расьсьледваньне заметак—атрымана 269 адказаў), але і тут маем шэраг фактаў, калі нават Пракуратура і РСІ затрымліваюць на 1½—2 мес. адказы па допісах, пасланых да іх на расьсьледваньне.

Красамоўны той факт, што адказ на адзін допіс „ехаў“ з ЦП профсаюзу хэмікаў да рэдакцыі газэты „Зьвязда“ ня больш і ня менш як два месяцы.

Вось сапраўды клясычная, бесьперасадачная „пляцкарта“ бюрократызму і валакіты.

Адзін з селькораў паведаміў рэдакцыю газэты „Зьвязда“ аб тым, што нядаўна, зайшоўшы ў РВК (нажаль, дакладная назва РВК не паказана), ён выкрыў у папцы справавода колекцыю допісаў, пасланых на расьсьледваньне—усяго каля 40 штук, на лёс якіх ніхто ніякае ўвагі не бярэ.

* * *

„Налёт“ быў праведзены не таму, што мы не давяраем рэдакцыям газэт, а для таго, каб у час работы рэдакцый убачыць сапраўды недахопы, якія кідаюцца ў вочы, каб дапамагчы падолець непазьбежную рутыну, якая часам за нашай перагружанасьцю мае месца ў асобных працаўнікоў.

Як у кожнай вялікай і разгорнутай справе, так і ў рабоце рэдакцый газэт у большай, альбо меншай ступені ёсьць асобныя недахопы, асобныя хібы, на якія мы сёньня зьвяртаем увагу пролетарскай грамадзкасьці.

Трэба, каб сумеснымі сіламі гэтыя недахопы зьнішчыць. Трэба яшчэ ў большай меры зрабіць наш друк моцнай зброяй комуністычнае партыі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

## Не дапушчаць спрашчэньня, нядбайнасьці, умець падымацца на прынцыповую вышыню

Няма ўменьня ў часткі газэт прасякнуць увесь зьмест газэты чарговымі баявымі задачамі партыі—барацьбою за сеў, за падрыхтоўку колгасаў і прыватнага сэктару сел.-гасп. да севу, за прамфінплян, органічна ўвязваючы гэтыя задачы з рашучаю барацьбою супроць правага ўхілу, як найбольш небясьпечнага на даным этапе, барацьбой з „левымі“ заскокамі, з неабходнасьцю разгортваньня самае шырокае масавае пролетарскае самакрытыкі, г. зн. уздымаючы пытаньні прамфінпляну, пасяўное кампаніі, барацьбы з „левымі“ заскокамі, з правай практыкай — на прынцыповую вышыню барацьбы за генэральную лінію комуністычнае партыі. Павярхоўны і нядбайны падыход да асобных пытаньняў прыводзіць да спрашчэньня, трафарэтнасьці, а ў паасобных выпадках да спашленьня і вульгарызацый буйных пытаньняў.

Напрыклад, газэта „Палеская Праўда“ об‘ектыўна патурае „очковтирательству“, ці нерэальнасьці нашых прамфінплянаў, калі ў № 31 урачыста заносіць швэйную Фабрыку „Комінтэрн“ на чырвоную дошку толькі за тое, што піджачны цэх выканаў програму на 98 проц., а белашвейны на 91,2 проц.

Зразумела, што такая „чырвоная“ дошка, складзеная вокам дылетанта-рэпорцёра, а ня вокам ударніка, зьяўляецца сапраўды мядзьвежай паслугай.

У № 47 „Палеская Праўда“ выявіла „трохкутнік“ заводу „Пролетары“, які ілжывымі спасылкамі на „вузкія месцы“—на недахоп сыравіны, спрабаваў авансам застрахавацца сябе ад адказнасьці за прарывы ў прамфінпляне. Газэта „Палеская Праўда“ падала гэты конкрэтны факт ясна, пераканальна, але ня здолела зрабіць таго, што зрабіла пазьней газэта „Зьвязда“. Газэта „Зьвязда“ правільна і сваечасова ўзьняла гэтае пытаньне на прынцыповую вышыню, зрабіўшы ўпірышча на неабходнасьць дамагчыся иеракрыцьця розных об‘ектыўных прычын і вузкіх месц—адшуканьня ўнутраных рэзэрваў і рэсурсаў на саміх прадпрыемствах.

У № 9 газэты „Беларуская Вёска“ зьмешчаны, які няправільна орыентуе, загаловак „Ураджай залежыць ад машыны“, і які дае выхад паражэнчым настроям, быццам без машын нічога нельга зрабіць.

Газэта „Чырвоная Полаччына“ № 7, у артыкуле „Супроць кулака“, гаворачы аб суцэльнай колектывізацыі, дапушчае наступную алілюйную заяву, якая адным росчаркам пяра змазвае вастрыню клясавае барацьбы і цяжкасьці колгаснага будаўніцтва. „Кулак становіцца пабочным целам, ён цалком ізолюецца, бо ён стаў тварам да твару не з асобнымі індывідуальнымі гаспадаркамі, а з моцным колектывам“.

Побач з спрошчаным падыходам да асобных пытаньняў, якія мяжуюцца часам з аполітычнасьцю, вузкасьцю і практыцызмам, якія перарастаюць у дзяляцтва, вялікім злом для часткі нашых газэт зяўляецца неахайнасьць у апрацоўцы і падачы матар‘ялаў, а таксама ў моцы гэтых матар‘ялаў, што часамі вельмі нагадвае „блаженной памяти“ сярэднявяковы стыль В. Г. Трэцьякоўскага, калі той пісаў, да прыкладу: „... чудовище обло, стозевно, і лайя“.

Бабруйская газэта „Комуніст“ у № 123 друкуе такі загаловак: „Дзень ураджаю *заразіў* працоўнае сялянства імкненьнем да колектывізацыі“, і тут-жа пад гэтым артыкулам, у газэце друкуюцца літа-

ральна наступныя строкі: „парада вэтэрынара: заразу не дапушчаць. Пlivілася—зьнішчаць. Усякую заразу лепш папярэдзіць, чым лячыць“.

У нас ёсьць весткі, што гэтая, здавалася-б, дробязь, няўдачнае слова ў адным месцы і зьмяшчэньне „заразнага“ загалоўку ў другім суседнім месцы, аказваецца, дало повад да хіхіканьня антысавецкім элемэнтам.

Сапраўды, чытаючы гэтыя радкі з „Комуніста“, успамінаеш словы з п‘есы „Выстрел“, што „и все ведь почерк, голова не обязательна при этом“.

Газэта „Савецкая Беларусь“ лічыла для сябе магчымым выкарыстаць рэцэпт аднаго з вершаў Безыменскага, у якім ён піша: „Ты аспирином лечишь тиф, ты лечишь насморк динамитом“ і „Ничто же не сумняшеся“. У № 32 на першай старонцы зьмяшчае такі загаловак „Полацкая акруга працуе на кулака“.

Зразумела, што падобны тэкст загалоўку зьяўляецца непрадуманым і безадказным.

Альбо вось прыклады з Гомельскай практыкі.

Тав. *В. С.* у газэце „Палеская Праўда“ піша:

„Якасьць нашай газэтнай продукцыі (газэты „Палеская Праўда“—*А. К.*) досыць красамоўная. Колькі перавернутых уніз галавою радкоў, колькі фотаздымкаў, якія пазнаеш толькі па подпісах, колькі лішніх людзей? Ці зьвярнулі ўвагу на нашы „шапкі“—агульныя загалоўкі на ўсю старонку? Колькі „*шляп*“ мы даем замест „шапак“. Надумаўся-ж Іоффэ, наш адказны сакратар „*пераплавіць* абразы на трактары“, і, мабыць тыя бязбожнікі, якія ня бачылі, з чаго зроблены абраз, знайшлі, што гэта гучыць ня дрэнна“.

— „... Здарылася нават такая гісторыя. Напісаў рабкор допіс аб тым, што недзе ў Веткаўскім Саюзе Паляўнічых ёсьць контр-рэволюцыянэр. Абвінавачаньне сур‘ёзнае, матар‘ял неабходна праверыць. Допіс пасылаюць, але куды: Веткаўскаму Саюзу Паляўнічых, а адтуль праз два дні атрымоўваецца такі адказ: „Атрымліваю пакет, адчыняю... і чуць я не самлеў. Мяне абвінавачваюць у контр-рэволюцыі. Таварышы, гэта-ж усё няпраўда, гэта-ж усё паклёп“. Так адказала рэдакцыі тая асоба, аб якой допіс на расьсьледваньне нехайны працаўнік рэдакцыі паслаў „не па адрасу“.

Нядбайнасьці ў падачы матэрыялаў, якая вельмі часта об‘ектыўна перарастае ў палітычныя памылкі, нядбайнасьці ў рабоце нашых газэт павінен быць зроблены канец. Работа апаратаў рэдакцый газэт павінна быць выразнай, шпаркай і гнуткай.

Рэдакцыі толькі пры гэтай умове здолеюць сапраўды імгненна ў патрэбны момант пераключыцца на баявое мэтаімкнённае вырашэньне тых, часам, нечакана, што ўзьнікаюць, буйнейшых і адказных пытаньняў, у рабоце па вырашэньні якіх наш друк прызваны партыяй займаць найадказнае месца на рашаючых вучастках.

## V. Некалькі лічбаў

*У 1913* годзе агульны тыраж газэт, якія выдаваліся ў тагачаснай Расіі, складаў *два з паловай мільёны экзэмпляраў.*

*У 1928-ым* годзе тыраж газэт, якія выдаваліся ў Савецкім Саюзе, дасягнуў *васьмі мільёнаў 168 тысяч экзэмпляраў.*

Такім чынам, 8.168.000 — 2.500.000 = 5.668.000 экзэмпляраў—вось тая лічба, на якую мы ня толькі „дагналі“, але і „выперадзілі“ паказчыкі даваеннага ўзроўню распаўсюджваньня друку.

Ужо ў 1927 годзе Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік па колькасьці выдадзеных назваў заняў *першае* месца ў параўнаньні з друкам капіталістычных краін (у нас было выпушчана 32.600 назваў друкаваных выданьняў супроць, напрыклад, 31.100 назваў выпушчаных у Нямеччыне, альбо ў 1928 годзе ў СССР было выпушчана 36.000 назваў, а ў Нямеччыне—28.800 і г. д.).

У царскай Расіі ў *1913 годзе на 24 мовах* нацыянальных меншасьцяў выходзіла ўсяго некалькі дзесяткаў назваў, галоўным чынам, рэлігійнага зьместу.

*У 1928 годзе* ў СССР *на 57 мовах* друкавалася 208 газэт і больш за сто часопісяй. Колькасьць выдадзеных у СССР у 1927 г. кніг на нацыянальных мовах складала каля 32 мільёнаў экзэмпляраў, што ў параўнаньні з 1913 годам дае павялічэньне ў чатыры з паловай разы [1]).

Надзвычайна характэрна на гэтым фоне распаўсюджваньня друку Савецкага Саюзу паглядзець „крывую“ росту выдавецкае прадукцыі і партыйна-савецкага друку ў БССР.

У 1929-1930 годзе ў БССР выдаецца 18 газэт, з якіх агульных 5 газэт, спэцыяльных 6, масавых рабочых 1, масавых сялянскіх 6.

З гэтай колькасьці газэт—12 выдаюцца беларускай мовай, 1—расійскай мовай, 1—беларуска-расійскай, 1—польскай, 3—яўрэйскай і 1—літоўскай.

Друкаваных шматтыражак налічваецца 48, з якіх фабрычна-заводзкіх 29. Разавы тыраж усіх газэт, якія выдаюцца ў БССР, складае 550 тысяч экзэмпляраў (альбо 1/13 частку ўсяго разавага тыражу газэт, якія выдаюцца ў СССР). Гадавы тыраж газэт БССР складае 88 мільёнаў экзэмпляраў.

Часопісяй па Савецкай Беларусі выдаецца 20, з гадавым тыражом ў паўтара мільёны экзэмпляраў.

Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам з 1924 г. па 1929 год выдадзена 6 мільёнаў 285 кніг—беларускай мовай, з якіх у 1928-1929 г. выдадзена 1 мільён 761 тысяч экзэмпляраў. Акрамя таго з 1924 па 1929 год выдадзена 825 тысяч экзэмпляраў кніг—яўрэйскай, польскай, літоўскай і латыскай мовай.

Характэрны папярэднія кантрольныя лічбы, якія орыентыровачна прадугледжваюць разьвіцьцё друку ў 1931 году. Колькасьць газэт на Беларусі мяркуецца давесьці да 20 (з тым, каб стварыць дадаткова яшчэ 2 рэспубліканскіх і 2 акруговых газэты), з павялічэньнем агульнага разавага тыражу ўсіх выдаваемых газэт БССР з 550 тысяч экзэмпляраў да 995 тысяч, а гадавога тыражу з 88 мільёнаў да 130 мільёнаў экзэмпляраў.

У 1931-ым годзе праэктуецца перавесьці тры цэнтральныя газэты на бесьперапыннае выданьне, а таксама пачаць выданьнем дадаткі да чатырох цэнтральных газэт.

Такім чынам, проэктуемы на 1931-ы год па контрольных лічбах, тыраж газэт дасьць у параўнаньні з мінулым годам падвышэньне на 48,4 проц., а лістаж кніжна-часопіснае продукцыі, згодна контрольных лічбаў павінен будзе павялічыцца на 90,6 проц. у параўнаньні з тым лістажом, які быў зацьверджаны на 1929-1930 год.

[1]) Вышэйадзначаныя лічбы намі падаюцца, згодна даных, якія надрукаваны ў № 5 часопісі „Наши достижения“.

## VI. Дагнаць і выперадзіць

Спэцыялізацыя газэт, пераход на опэратыўныя мэтоды работы, дзейсная роля газэт у справе непасрэднае дапамогі ў правядзеньні сяўбы, выкананьне прамфінпляну, неабходнасьць умець кожным абзацам, кожным радком матар'ялаў змагацца за генэральную лінію партыі,—усё гэта з асаблівай сілай прымушае нашым газэтам, кожнаму работніку ў паасобку паставіць патрабаваньне дамагчыся *ленінскага* стылю ў рабоце, які, кажучы словамі І. В. Сталіна, ёсьць „... тое асобнае, своеасаблівае ў практыцы ленінізму, што стварае асобны тып ленінца-работніка... Расійскі рэволюцыйны размах, гэта тая жывіцельная сіла, якая будзіць мысьль, рушыць наперад, ломіць мінулае, дае пэрспэктыву. Без яго немагчымы ніякі рух наперад. Ён мае ўсе шанцы вырадзіцца на практыцы ў пустую „рэволюцыйную" манілаўшчыну, калі ня злучыць яго з амэрыканскай дзелавітасьцю... Амэрыканская дзелавітасьць — гэта тая „неукротимая" сіла, якая размывае сваёй дзелавітасьцю, настойлівасьцю ўсе і ўсялякія перашкоды, якая ня можа не давесьці да канца раз пачатае справы, калі гэта нават невялікая справа, і без якое немагчыма сур'ёзная будаўнічая работа... Толькі гэтае злучэньне дае нам закончаны тып работніка-ленінца, стыль ленінізму ў рабоце".

На мяжы, на рубе пераходу ад адбудоўчага пэрыоду да рэконструкцыйнага, партыя рэзка падкрэсьліла ўстаноўку на паскораныя тэмпы, выказаўшы гэта ў формуліроўках XV Усесаюзнай партыйнай конфэрэнцыі, аб неабходнасьці ў найменшы гістарычны тэрмін дагнаць, а затым і перавысіць узровень індустрыяльнага разьвіцьця капіталістычных краін.

Задача „дагнаць і выперадзіць" можа ажыцьцявіцца толькі пры стварэньні тэмпаў, якіх ня было ў гісторыі разьвіцьця капіталізму, але якія мажлівы ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту.

Друк Беларусі пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б рашуча выпраўляе свае асобныя памылкі пры правільнай у асноўным палітычнай лініі. (Трэба падкрэсьліць, што газэта „Савецкая Беларусь", зьмясьціўшы нядаўна артыкул з прызнаньнем сваіх памылак, дапусьціла значную дадатковую колькасьць грубых тэорэтычных памылак і блытаных формуліровак, што справа не абыйдзецца бяз другога самакрытычнага артыкулу, які-б выправіў памылкі папярэдняга артыкулу).

XIII зьезд КП(б)Б, а за ім і XVI Усесаюзны зьезд УсеКП(б), бясспрэчна ўвальле яшчэ большыя сілы настойлівасьці і бальшавіцкай ініцыятывы ў газэты Беларусі.

Увесь наш партыйна-савецкі друк, уся магутная рабселькораўская армія, павінны быць прыкладам, пачынальнікамі, павінны фактам свайго існаваньня, фактам палепшаньня зьместу свае работы дапамагаць таму, каб, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, „дагнаць і выперадзіць" індустрыяльнае разьвіцьцё капіталістычных краін.

*Сымболь буржуазнага друку*, друку капіталістычных краін, гэта тая „медзяная марка", квіток для ўваходу ў дом распусты, пад назвай якое амэрыканскі пісьменьнік Эптон Сінклер напісаў свой выкрывальны твор аб прадажным друку капіталістычных краін.

*Наш сымболь*, сымболь нашага пролетарскага друку—гэта чырвоны штандар Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік, — штандар барацьбы за пераможнае социялістычнае будаўніцтва за перамогу пролетарскай рэволюцыі ва ўсім сьвеце.

---

**Р. Каршакевіч**

# Вынікі калгаснага будаўніцтва БССР у веснавую сельска-гаспадарчую кампанію 1930 году*)

„З уцягненьнем мільённых мас вёскі, калгасны рух набывае вырашальнае значэньне ў ажыцьцяўленьні ленінскага коопэрацыйнага пляну“ (з рэз. Ліст. Плен. ЦК УсеКП(б).

Колектывізацыя БССР у сёлетнюю с.-г. кампанію, у параўнаньні з мінулым годам, увайшла ў зусім новую фазу—фазу надзвычайнага росту, як па ахопу плошчы, так і па памерах колгасных гаспадарак. Калі пад канец гаспадарчага 1929 году мы мелі пад колгасамі 3,9 проц. ад усяе пахатнае плошчы, дык на сучасны момант маем 13 проц.; прычым гэтыя лічбы ўжо выяўляюць тэндэнцыю да стабілізацыі і замацоўваюцца шпарка ідучай цяпер сяўбой. Аб памянёных посьпехах сьведчаць і наступныя лічбы:

| Тэрміны | Колькасьць колгасаў | Ахоплена пахаці | Ахоплена двароў | Абагулена рабочай жывёлы | Абагуленае буйнае рагатае жывёлы |
|---|---|---|---|---|---|
| На 1-X 1929 г. | 1.713 | 94.000 га | — | — | — |
| % % | — | 3,9 | — | — | — |
| На 10-IV 1930 г. | 3.105 | 766.306 „ | 109.819 | 72.790 | 63.492 |
| % % | — | 18.4 | — | 78,7 | 54,6 |
| На 20-IV 1930 г. | 3.080 | 746.068 „ | 101.747 | 71.866 | 63.600 |
| % % | — | 18.0 | — | 79,1 | 53,8 |

Такім чынам, адсюль відаць, „што сьледам за бядняцкімі гаспадаркамі вёскі пайшлі ў колгасы шырачэзныя масы серадняцкіх гаспадарак, якія на практыцы пераканаліся ў перавазе колектыўных форм земляробства“ (з пастановы ЦК КП(б)Б).

Аднак, на фоне агульных дасягненьняў у справе перабудовы вёскі на соцыялістычны лад мы маем цэлы шэраг буйных недахопаў, перагібаў і памылак, якія трэба зараз-жа асазнаць, зьнішчыць і добра вывучыць, каб у далейшай працы не паўтараць. Сёлетняя праца па масавай і суцэльнай колектывізацыі павінна зьявіцца добрым вопытам надалей, як трэба рабіць і як ня трэба.

Галоўнымі недахопамі ў сёлетняй працы па колектывізацыі, бязумоўна, трэба лічыць наступныя моманты: парушэньне партыйнае лініі і дырэктыў ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б аб добрахвотнасьці колектывізацыі;

*) У парадку інформацыі (Рэд.).

тое самае парушэньне дырэктыў партыі аб тыпах і формах колгаснага будаўніцтва—пераскакваньне праз „асноўнае зьвяно колгаснага будаўніцтва“—Сельска-Гаспадарчую Арцель, да сельска-гаспадарчай комуны; скажэньне дырэктыў партыі і ўраду ў працы па раскулачваньні і, нарэшце—організацыйна-гаспадарчыя мерапрыемствы па замацаваньні ўноў організаваных колгасаў ня былі належным чынам скарыстаны. Аб усіх гэтых недахопах неабходна больш падрабязна сказаць.

*Плянаваньне колгаснага* будаўніцтва, ня гледзячы на налічча дадзеных установак і дырэктыў аб тэмпах і аб'ёмах колгаснага будаўніцтва (пастанова ЦК УсеКП(б) 6-І 1930 г., студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б і пастанова СНК БССР ад 12-XII 1929 г.), а таксама меркаваньні ў 5-ці гадовым пляне колектывізацыі, конкрэтна: організацыя гаспадарак, спэцыялізацыя існуючых і г. д. і па сучасны момант належным чынам не вядзецца, дзякуючы чаму абвяшчэньне паасобных раёнаў раёнамі суцэльнае колектывізацыі рабілася без улічэньня організацыйна-гаспадарчых магчымасьцяй, без прадугледжваньня адпаведных гаспадарчых мерапрыемстваў, накіроўваемых на замацоўваньне організаваных колгасаў. Ня было ў значнай ступені і вучоту організацыйна-гаспадарчай падрыхтаванасьці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак да ўваходу іх у колгасы, а наадварот—без належнай агітацыйна-пропагандысцкай працы, без належнай абгрунтаванасьці, цэлы шэраг раёнаў абвяшчалі сябе раёнамі суцэльнае колектывізацыі, выносілі пастановы аб колектывізаваньні вёсак да пачатку сяўбы 1930 году. Акруговыя ўстановы, замест праверкі ходу колектывізацыі і выкананьня плянаў на мясцох, часам самі падвышалі тэмпы колектывізацыі, як, напрыклад, Мазырскі АВК абвясьціў акругу акругаю суцэльнае колектывізацыі, з выкананьнем гэтага да вясеньняга севу; такое падагграваньне зьверху штурхала раённыя організацыі на яшчэ большыя тэмпы. Таму некаторыя раёны пры агульным курсе на 100 проц. колектывізацыю давалі ў нізы дырэктывы, форсыравалі ва ўдарным парадку стопроцантную колектывізацыю ў двухтыднёвыя тэрміны. Як вынік гэтага—была парушана лінія партыі і пастанова ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б аб *добрахвотнасьці* колектывізацыі; было ўтворана дэкрэтыраваньне колгаснага руху, форсыраваньне заданьняў, націск, часам які даходзіў да голага адміністраваньня, запужваньне, няправільнае пазбаўленьне праvoў, раскулачваньне, бюрократычныя пагоні за лічбамі, карацей кажучы—была дапушчана „гульня ў колектывізацыю“, наўпрэкі дырэктывам партыі.

*У пытаньнях формаў і тыпаў колгаснага будаўніцтва* таксама па цэламу шэрагу раёнаў і акруг было дапушчана поўнае парушэньне лініі партыі і пастаноў ураду. Ня гледзячы на тое, што колгасны рух у БССР да гэтага году ішоў у напрамку, галоўным чынам, утварэньня сельска-гаспадарчых арцеляў, што відаць з наступнага:

| Тэрміны | С.-г. камун | С.-г. арц. | Т.С.А.З. | Усяго | На 100 колгасаў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | С.-г. камун | С.-г. арцел. | Т.С.А.З. |
| На 1-IV 1928 г. | 63 | 467 | 81 | 611 | 10,3% | 76,3% | 13,3% |
| На 1-IV 1929 г. | 90 | 832 | 91 | 1.013 | 81,9% | 82,1% | 9,0% |
| Рост за год у %% | 43 | 78,2 | 12,4 | 65,8 | — | — | — |

быў узяты курс на поўнае абагульненьне сродкаў вытворчасьці, а месцамі—і сродкаў спажываньня, што цалкам скажала дырэктывы

партыі і прыводзіла да об'ектыўнага пераскакваньня праз „асноўнае зьвяно колгаснага руху сельска-гаспадарчую арцель“—да сельска-гаспадарчай комуны. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічалі зусім няправільныя дырэктывы цэлага шэрагу цэнтральных кіруючых органаў, як НКЗ—які даваў распараджэньні ў час „месячніку жывёла-гадоўлі“—абагуліць усю жывёлу і птушку; Белколгасцэнтр распрацоўвае палажэньне аб організацыі колгасаў і інструкцыю аб правілах унутранага распарадку і пасылаў у нізы, у якіх сьвядома штурхаў месцы на організацыю колгасаў у выглядзе сельска-гаспадарчых комун. Побач з гэтым, такія віды колгасаў, як таварыствы па супольнай апрацоўцы глебы былі зусім выкінуты і забыты, або вытворчыя сельска-гаспадарчыя коопэрацыйныя аб'яднаньні, на якія ў час рэорганізацыі с.-гасп. коопэрацыі ўскладвалася вялікая роля па організацыі бядняцка-серадняцкіх мас дзеля супольнага на коопэрацыйных падставах, вытвару с.-гасп. прадукцыі, дзеля больш пасьпяховага ўздыму сельскае гаспадаркі, і, нарэшце—дзеля падрыхтоўкі пераходу гэтых прасьцейшых формаў сельска-гаспадарчых коопэрацыйных аб'яднаньняў у больш складаныя колгасныя формы. У выніку такое колектывізацыі—„насаджэньне с.-гасп. комун“, пагнаўшыся за вялікім, было патрачана малое—„комуны“ ў значнай колькасьці распадаліся, а сетка вытворчых коопэрацыйных аб'яднаньняў у значнай ступені была згублена.

*Цесна зьвязанае з колектывізацыяй пытаньне — раскулачваньня*, якое ў значнай колькасьці месц было праведзена з поўным скажэньнем дырэктывы партыі. Апошняе рабілася не на падставе суцэльнае колектывізацыі, а, наадварот, служыла асноўным мэтодам колектывізацыі. Месцамі раскулачваньне распаўсюджвалася на серадняцкія гаспадаркі, якія не жадалі ісьці ў колгасы. У мястэчках і нават паселішчах гарадзкога тыпу было дапушчана забраньне цэлага шэрагу саматужна-прамысловых прадпрыемстваў ад прадпрыемцаў, было ўтворана ўражаньне ператварэньня гэтых паселішчаў у тыпы вясковых паселішчаў (організацыя ў горадзе Гарадок 4-х колгасаў) і г. д.

*Даволі значна разгорнутая агітацыйна-пропагандысцкая праца* ў вёсцы па колектывізацыі ў час вясеньняй сяўбовай кампаніі, а таксама і асеньняй 1929 году, асабліва ў час правядзеньня 2-х кампаній „Дзень колектывізацыі“, і „Дзень ураджаю і колектывізацыі“, у гэты пэрыод—пэрыод „головокружения“, была амаль што забыта. Калі ў першы пэрыод у вёсках рабілася да 8—10 дакладаў аб неабходнасьці організаці колгасу, дык, пачынаючы са сьнежня месяцу гэта, як правіла, не рабілася, а пасьля аднаго дакладу дамагаліся організацыі колгасу. У выніку чаго надзвычайна характэрна заўважаецца, што абсолютная большасьць колгасаў, організаваных на працягу сяўбовых кампаній 1929 году, засталася устойлівай і значна лепш падрыхтаванай да вясеньняга севу гэтага году, і наадварот—распаду і адсеву падпалі колгасы, організаваныя за пэрыод сьнежань—люты месяцы г. г. Асабліва была недастатковая праца з батрацка-бядняцкімі масамі вёскі, апошнія ня былі дастаткова організаваны і актыўна ўцягнуты ў колгаснае будаўніцтва, у выніку чаго батрацка-бядняцкія масы месцамі засталіся па-за колгасамі, або актыўнасьць сваю накіроўвалі не на організацыю і ўмацаваньне вытворчае дзейнасьці колгасаў, а на абагульваньне і разьмеркаваньне сродкаў спажываньня, тым самым прасьледуючы спажывецкія мэты. Такім чынам, належная агітацыйна-пропагандысцкая сыстэматычная праца па колектывізацыі надалей набывае надзвычайна вялікую значнасьць, і асабліва ва ўмовах далейшага разгортваньня працы па колектывізацыі, шалёнага

супрацiўленьня кулацкiх элемэнтаў, неабходна максымальна і безадкладна разгортваць масавую працу. Асабліва па організацыі і ажыўленьні працы сярод беднаты, праз батрацка-бядняцкія групы, сярод серадняцтва, праз сэкцыі сельсаветаў і іншыя грамадзкія организацыі. Партыйныя, савецкія і профэрганізацыі зараз-жа павінны павесьці культурна-палітычную выхаваўчую працу. Шэфскія організацыі, культурныя сілы вёскі—настаўніцтва, хаты-чытальні, аграпэрсональ павінны актыўна дапамагчы партыйным організацыям у растлумачэньні пастаноў партыі і ўраду аб перавазе колектыўных гаспадарак. Саюз сельгаслесрабочых павінен таксама разгарнуць у гэтым напрамку працу, рабочыя колектывы савгасаў павінны свой вопыт шэфстваваньня над колгасамі значна пашырыць і якасна палепшыць у напрамку організацыйнай і гаспадарчай дапамогі ўноў організаваным колгасам. Асаблівую ўвагу ў гэтым напрамку трэба зьвярнуць на працоўную жанчыну вёскі—батрачкі, бяднячкі і большасьць серадняча**к** на бліжэйшы час павінны быць цалкам ахоплены працай па палітычна-культурнаму выхаваньню. Узьнятая актыўнасьць жанчыны павінна быць скарыстана на 100 проц. за колектывізацыю.

Надзвычайна вялікая армія кінутых працаўнікоў у вёску ў сёлетнюю сяўбовую кампанію для колектывізацыі, побач са значнымі дасягненьнямі ў працы гэтае масы—утварэньне шырокай грамадзкай думкі вакол практычнага ажыцьцяўленьня колгаснага будаўніцтва і інш., меўся і шэраг недахопаў, як, напрыклад, недастатковае ўразуменьне задач па колектывізацыі, наліччa фактаў адміністраваньня, слабае інструктаваньне брыгад і маладых спэцыялістых, пасыўнасьць шэфскіх організацый і недастатковая сувязь апошніх з вёскай.

Організацыйна-інструктарскае абслугоўваньне колгаснай сыстэмы, ня гледзячы на даволі значную пасылку працаўнікоў, было далёка недастатковае, з часам і зусім адсутнічала. Організацыйна-юрыдычнае афармленьне колгасаў таксама ў большасьці выпадкаў не рабілася, агалашэньне колгасу адбывалася на сходах, часта „большасьцю рук", а то і падняцьцем аднэй рукі і „супярэчаньняў няма"?, а прыём статуту, яго разбор і абгаварэньне, добрая ўсьвядомленасьць сябрамі колгасаў сваіх абавязкаў і правоў амаль што адсутнічала і пагэтаму такі фактар, як прыём статуту, яго зацьверджаньне, наданьне юрыдычнай моцы колгасу—не зьяўлялася фактарам замацаваньня колгасаў. Усё гэта тлумачыцца, галоўным чынам, няправільным скарыстаньнем работнікаў—неорганізаванасьць іх, безадказнасьць, гастролёрства і г. д., недастатковая падрыхтаванасьць і інструктаваньне маладых спэцыялістых і недастатковая колькасьць наогул інструктароў і агротэхнічнага пэрсоналю ў колгаснай сыстэме, апошняя забясьпечана ўсяго на 30 проц.

*Такое мерапрыемства, як земляўпарадкаваньне,* абсолютна ня было скарыстана для замацаваньня ўноў організаваных колгасаў. Кінуты адпаведнымі органамі лёзунг „Каморнік на лыжы", застаўся на паперы. Дырэктывы ўраду аб сканчэньні землепаказаньня да 15-III таксама не выкананы. Так, напрыклад, па аднэй толькі Мазыршчыне на 20-III з 474 колгасаў земляадвод быў вытвараны толькі ў 276 колгасах, фактычна-ж на мясцох было ўстаноўлена, што і гэтая колькасьць не адпавядае сапраўднасьці, таму што плянаў-проэктаў спрошчанага земляўпарадкаваньня ў большасьці ў колгасах ня было, а былі яны або ў каморнікаў, або ў РВК.

Асноўнымі прычынамі зрыву такое надзвычайна важнае справы, як земляўпарадкаваньне колгасаў, трэба лічыць (гэта ўжо выяўлена): неўразуменьне каморніцкім пэрсоналем сваёй ролі ў працы па колек-

тывізацыі ў гэтую с.-гасп. кампанію. І зусім дрэннае кіраўніцтва апошнімі, дзякуючы чаму каморніцка-тэхнічны пэрсональ займаўся не непасрэднай працай па земляўпарадкаваньні колгасаў, а наадварот—па арганізацыі іх, у значнай частцы каморнікі сядзелі на сходах і агітавалі за „суцэльную“ колектывізацыю, падганяючы людзкі склад пад загадзя вызначаную плошчу колгасу, або хадзілі з камісіямі і займаліся абагульваньнем маемасьці колгасьнікаў. Зусім нядаўна (у мінулым годзе) было ўстаноўлена, што процэс земляўпарадкаваньня вёсак (пасёлкаў, упарадкаваньне на месцы, абрэзка, землянадзяленьне і г. д.) не зьяўляўся фактарам, які стымулюе разгортваньне колгаснага руху, наадварот—каморніцкі склад не пасьпяваў і часам унікаў земляўпарадкаваць тое, што ўжо было арганізавана. Сёлета, нажаль, мы прымушаны канстатаваць другое—каморніцкі склад не ўхапіўся за асноўную задачу—замацаваньне ўноў арганізаваных колгасаў, а пайшоў у значнай частцы арганізоўваць колгасы. Трэба з гэтымі хістаньнямі скончыць, няісьці па цячэньні, а ўпарта выконваць ускладзеныя абавязкі. Кіруючыя зямельныя органы павінны моцна падумаць аб лепшым кіраўніцтве каморніцкай арміяй і не супыняючыся перад цэнтралізацыяй гэтае справы. Такім чынам, перад земляўпарадкоўчай часткай зямельных органаў на бліжэйшы час стаіць задача—заканчэньне земляадводу колгасам, безадкладнае складаньне плянаў земляўпарадкаваньня і ўтварэньне земляўпарадкаваньня колгасаў да пачатку асеньняга севу. Пры чым, земляўпарадкаваньне павінна насіць прапрацованы і закончаны характар—проекты дастаткова павінны быць увязаны з агро-тэхнічнымі і арганізацыйнымі момантамі, дастаткова абгавораны на сходах колгасьнікаў і хутка разгледжаны і зацьверджаны РВК. У выніку чаго к асеньняму севу колгасы павінны будуць мець юрыдычныя дакуманты і стала асьвядомлены аб організацыі свае зямельнае тэрыторыі і напрамку разьвіцьця гаспадаркі.

*Побач з працай па земляўпарадкаваньні* неабходна зараз-жа пераглядзець і распрацаваць практычна пытаньне памераў уноў арганізуемых колгасаў. Практыка працы па колектывізацыі ў апошні час паказала адмоўныя прыклады ў гэтым напрамку, папяровыя „гіганты“ асуджаны і адкінуты, і там, дзе яшчэ засталіся „гігантоманы“, з імі трэба весьці суровую барацьбу. Контрольныя органы БССР далі дырэктыву вызначыць на бліжэйшы час памеры колгасаў у межах зямельнага вобчаства, г. зн. што трэба трымаць курс на буйную колектыўную гаспадарку, але такую, якая была-б гаспадарча-мэтазгоднай і магчымай. Не папяровыя „гіганты“, а організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў неабходна; „калі гэтая праца пакажа адпаведныя посьпехі, дык „гіганты“ зьявяцца самі сабой“ (з адказу колгасьнікам т. Сталіна).

Побач з гэтым было выяўлена, што колгасы, якія організацыйна і гаспадарча ўзмацніліся, асабліва комуны, ва ўноў організаваных „гігантах“ пачалі растварацца, адсюль вынікае неабходнасьць рашучае барацьбы з штучным пашырэньнем старых комун праз масавае далучэньне ўноў організуемых колгасаў і колгасьнікаў. У гэтым пытаньні неабходна пэўная асьцярожнасьць і адпаведны падыход у кожным конкрэтным выпадку.

*У справе замацаваньня ўноў організаваных колгасаў* надзвычайна вялікую ролю павінна адыгрываць складаньне вытворчых і рабочых плянаў. У буйной гаспадарцы, без прапрацоўкі пытаньня організацыі сродкаў вытворчасьці, працоўнай сілы і без прадугледжаньня тых ці іншых мерапрыемстваў, нельга і кроку ступіць. І, нарэшце,—усім вядомы той факт, што селянін, прывыкшы заўсёды думаць і трымаць

у сваёй галаве ўсе мерапрыемствы па сваёй гаспадарцы і калі ён, увайшоўшы ў колгас, усю махіну колгаснае гаспадаркі не пасьпявае пераварыць, ахапіць, дык у яго зусім зразумела зьяўляюцца настойлівыя запытаньні: „Што мы будзем рабіць, як рабіць, калі рабіць і г. д.“ А вось, калі адпаведны работнік складзе вытворчы плян і дасканала прапрацуе на вытворчай нарадзе колгасу, пашыраным пасяджэньні праўленьня і нарэшце—на агульным сходзе колгасьнікаў, настрой у апошніх утвараецца зусім інакшы, бадзёры, накіроўваемы на ўмацаваньне колгасу. Аднак, ня гледзячы на такую важнасьць гэтае справы, пытаньне складаньня вытворчых, рабочых плянаў і правіл унутранага распарадку ў бягучую сельска-гаспадарчую кампанію было амаль што правалена. Напрыклад, па Мазырскай акрузе на 20-III з усіх 474 колгасаў у 113 колгасах былі толькі складзены рабочыя пляны, тое самае амаль што па ўсёй БССР. Апроч гэтага, там, дзе і складаліся пляны, у большасьці выпадкаў не прапрацоўваліся на нарадах і сходах колгасьнікаў. Прычынамі такога зьявішча трэба лічыць надзвычайную непадрыхтаванасьць гэтага пытаньня кіруючымі органамі колгаснай сыстэмы—масавая пасылка розных формаў-блянкаў вытворчых плянаў у нізы, якія часам адна другую адмянялі, складанасьць, грамозднасьць гэтых форм (з 32 старонкамі), адсутнасьць належнага інструктаваньня па складаньні плянаў, адсутнасьць адпаведных падыходаў у гэтым пытаньні да старых колгасаў і да новых. Апроч гэтага, пасланыя працаўнікі і спэцыялістыя, а таксама кіруючыя акруговыя і раённыя органы не зьвярталі на гэта належнай увагі, апошнія займаліся, галоўным чынам, організацыяй колгасаў, а не ўзмацаваньнем іх. І нарэшце—самі аграпрацаўнікі, займаючыся складаньнем вытворчых і рабочых плянаў, бюрократычна ставіліся да гэтае працы—займаліся зьбіраньнем зьвестак для дачы па лініі ўверх, або, склаўшы пляны, трымалі іх у сваіх портфэлях. Такое становішча з вытворчымі плянамі ў колгасах павінна быць рашуча зьнішчана, неабходна па правядзеньні сяўбы зараз-жа ўзяцца за складаньне вытворчых плянаў; адначасова кіруючыя органы колгаснай сыстэмы павінны распрацаваць адзіную спрошчаную форму вытворчых плянаў, зразумела, з улікам відаў колгасаў. І, з другога боку—неабходна больш шпарчэй пасоўваць пытаньне наперад па складаньні організацыйных плянаў у колгасах.

*Апроч памянёных організацыйных хібаў у колектывізацыі*, надзвычайна важна затрымацца і на недахопах у гаспадарчых мерапрыемствах, як у забясьпечаньні колгасаў сродкамі вытворчасьці, так і наогул у падрыхтаванасьці іх да сяўбы.

Пры значна павялічаным завозе ў сёлетнюю пасеўную кампанію асноўных сродкаў вытворчасьці, асабліва с.-гасп. машын і прылад, самое прасоўваньне іх у колгасы, асабліва ва ўноў організаваныя, адбывалася надзвычайна дрэнна. Так, напрыклад, на 10-IV 1930 г. было завезена:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Усяго плугоў . . . | 134% пляну, | усяго барон . . . | 94%, | | |
| „ культыватараў | 93% „ | „ асыпнікаў . | 15%, | | |
| „ сеялак розных | 74% „ | „ сартыровак . | 100%, | | |
| „ трыераў . . . | 109% | | | | |

*а фактычна прасунута ў нізы было прыблізна на той-жа тэрмін—па плугох—34 проц., сеялках—53 проц., культыватарах—34 проц. і г. д.* Абмен насеньня на гатунковае, асабліва аўса і інш, адбываўся надзвычайна нядбайна, тое самае і з працай па падрыхтоўцы да вапнаваньня. Усё гэта тлумачыцца, галоўным чынам, тым, што праца па

забесьпячэньні колгасаў асноўнымі сродкамі в „творчасьці ня была накіравана па організацыйна-гаспадарчаму напрамку, замест разгортваньня працы па папулярызацыі і абгаварэньні плянаў загатовак і завозу сярод колгасьнікаў непасрэдна, замест гаспадарчай пастаноўкі перад колгасьнікамі аб неабходнасьці набыць тую ці іншую машыну, замест узьняцьця зацікаўленасьці ў колгасьнікаў сабраць адпаведныя сродкі і ўнесьці, як задатак, на сельска-гаспадарчыя машыны і прылады,—сельска-гасп. машыны, прылады і ўгнаеньне мэханічна завозіліся ў раёны, кусты і разьмяркоўваліся паміж колгасамі без папярэдняга абгаварэньня і заявак. У выніку гэтага (і іншых прычын) с.-гасп. машыны і прылады былі завезены на раённыя куставыя склады, а потым у колгасы, а адпаведная колькасьць сродкаў ня была сабрана. Апроч гэтага, даволі значны мелі ўплыў на слабое прасоўваньне с.-гасп. машын і прыладаў у колгасы ня зусім спрыяючыя ўмовы крэдытаваньня, няправільныя распараджэньні зьверху аб організацыі МКС пры кустох з завезеных машын і прыладаў. Значным тормазам у гэтым напрамку зьяўлялася налічча паралелізму, блытаніны паміж Белсельгасснабам і Белпаляводсаюзам. Адсутнасьць адзінае праводзячае сеткі цяжка адбіваецца на зьніжэньні накладных выдаткаў па прасоўваньні с.-гасп. машын у нізы. Тым самым тлумачыцца нездавальняючы ход абмену гатунковага аўса—ня было належнае працы ў гэтым напрамку (адсутнасьць папулярызацыі абмену, няведаньне парадку абмену, дарагавізна абмену і г. д.), бязьдзейнасьць Райкалгассаюзаў і адсутнасьць нагляду за гэтым з боку зямельных органаў. Зрыў вапнаваньня ў колгасах тлумачыцца, галоўным чынам, надзвычайна позьняй дастаўкай вапны ў раёны спажываньня—у час разгортваньня севу, і, зразумела, калі колгасьнікі выйшлі ў поле, то не да вапнаваньня было ім.

Побач з памянёнымі мерапрыемствамі неабходна адзначыць значныя хібы па правядзеньні контрактацыі ў колгасах. Галоўнымі недахопамі трэба лічыць надзвычайна нездавальняючае выкананьне плянаў контрактацыі, так, напрыклад, на 20-III было выканана плянавага заданьня:

| | З яравых зернаў | Ільна-валакно | Ільна-насеньне | Канюшына | Бульба | Сэрадэля | Віка | Лубін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Адносна пляну заданьня . . | 42% | 33,8% | 33% | 26% | 74% | 27% | 27% | 24% |
| Адносна сэктароў—у колгасах | 74% | 83% | 84% | 92% | 80% | 96% | 94% | 87% |

Фактычна і гэтая лічба пры праверцы вышла нерэальнай, таму, што контрактацыя праводзілася не як агра-вытворчае мерапрыемства з абавязковым заключэньнем умовы і абгаварэньнем яе, а ў парадку разьвёрсткі па колгасах.

*Асабліва вострa абстаіць справа з жывёлагадоўляй у колгасах.* Ня глядзячы на налічча шэрагу дырэктыў вышэйшых партыйных і ўрадавых органаў па разьвіцьці жывёлагадоўлі, справа да самага апошняга часу амаль што не парушылася наперад. Вызначаная плянамі організацыя спэцыяльных жывёлаводчых гаспадарак надзвычайна туга выконваецца. Дырэктыва ўраду аб павялічэньні пагалоўя жывёлы праз вырашчваньне маладняка выконваецца самым нядбайным чынам,

колгасы надзвычайна неахвотна бяруць цялят на гадаваньне, а ўзятыя дзякуючы адсутнасьці належнага догляду, гінуць. Пабудова цялятнікаў зацягваецца, водпуск крэдытаў на гэтую справу тармозіцца і г. д. Контрактацыя маладняка ў індывідульным сэктары зусім сарвана, месячнік жывёлагадоўлі, як у колгасах, так і іншых сэктарох—правалены. Зоомінімум сярод колгасьнікаў не популярызован, не вядзецца ніякае растлумачальнае работы ў гэтым напрамку, ня выбраны зооўпаўнаважаныя.

Такое становішча патрабуе ад колгаснае сыстэмы, малочна-жывёлагадоўчае сыстэмы і наогул зямельных органаў і адпаведных спэцыялістых самых рашучых мерапрыемстваў па зьнішчэньні памянёных недахопаў, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на правядзеньне далейшае контрактацыі маладняка, на палепшаньне яго гадоўлі. Максымальна скарыстоўваючы цялят апошніх ацёлаў як шляхам замены на горшыя, бракоўныя, так і ўтварэньнем спэцыяльных гаспадарак, адлеглых ад гораду па гадоўлі маладняка. Зразумела, што такія пытаньні, як арганізацыя малочных фэрм, папаўненьне жывёлы ў колгасах, арганізацыя і правядзеньне злучное кампаніі, палепшаньне кармовае базы—максымальным пашырэньнем засеву карняплодаў і сілосных культур, павінны па сканчэньні севу стаць у парадак дню ва ўсіх арганізацыях і колгасах.

*Крэдытная сыстэма* сваёю працаю таксама ў значнай ступені не зьявілася фактарам замацаваньня ўноў організаваных колгасаў. Ня гледзячы на даволі значную колькасьць грашовых сродкаў, прадугледжаных у пляне сяўбовае кампаніі для крэдытаваньня колгасаў (11.262 тыс. руб. або 66 проц. пляну), паступленьне гэтых сродкаў у колгасы праходзіла надзвычайна позна; так, напрыклад, на 1-IV было пераведзена ў раённыя крэдытныя таварыствы ўсяго 5.917.000 руб., або 52 проц. пляну, асабліва зацягваўся перавод крэдытаў у зваротныя сродкі колгасаў, на той-жа тэрмін было пераведзена толькі 18,5 проц. Аднначасова са слабым прасоўваньнем крэдытаў у колгасы мелася значная колькасьць выпадкаў нескарыстаньня атрыманых крэдытаў (як, напрыклад, па Магілеўскай акрузе на 10-III засталося не скарыстанымі 30 проц., па Мозыру—29 проц., па Віцебску—34,5 проц). Асноўныя прычыны гэтаму зьяўляліся—неадначасовае атрыманьне на мясцох крэдытаў і сродкаў вытворчасьці, няўстойлівасьць складу колгасаў, неаформленасьць іх, адсутнасьць вытворчых плянаў і, нарэшце, высокая шкала задаткаў. Апроч гэтага, неналаджанасьць належнае сувязі раённых крэдытных таварыстваў з колгасамі.

*Ідэя куставаньня дробных колгасаў* у час правядзеньня працы па колектывізацыі і сяўбовай кампаніі не знайшла належнага адбітку ў практычным жыцьці, і па сутнасьці ўтвораныя кусты не зьяўляліся організацыйна-вытворчымі і гаспадарча-фінансавымі базамі, якія садзейнічалі ўмацоўваньню дробных колгасаў і іх паступоваму пашырэньню і пераходу да аграіндустрыяльных комбінатаў, а пайшлі па шляху збыта забясьпечвальных опэрацый па тыпу былых глыбінных сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў. Дзякуючы чаму апошнія (кусты) па сутнасьці ўяўляюць сабою ў сучасны момант лішнюю інстанцыю ва ўсёй 5-ці ступеньчатай сыстэме колгасных аб'яднаньняў і займаюцца, галоўным чынам, збытам прадукцыі колгасаў і снабжэньнем апошніх сродкамі вытворчасьці, а часам і бюрократычнай перапіскай цыркуляраў раённых і акруговых кіруючых органаў. І, зразумела, што пасьля гэтага паўстае пытаньне аб неабходнасьці перагляду справы куставаньня і яе мэтазгоднасьці з магчымым увядзеньнем усюды, замест кустоў, Райколгассаюзаў.

*Высунутая ідэя ўтварэньня машынна-конных станцый* у колгаснай сыстэме ў гэтую с.-гасп. кампанію далёка не ажыцьцяўлялася ў тэй меры, як гэта было вызначана ў дырэктывах. Гэтым пытаньнем доўга кідаліся адпаведныя ўстановы (НКЗем, КСЦ, БПС і інш.). Ніхто сур'ёзна не займаўся на працягу доўгага часу гэтай справай, у выніку чаго зацягнулася выпрацоўка палажэньня аб арганізацыі МКС, ня было належных дырэктыў, як і дзе арганізоўваць МКС, адсутнасьць належнага кіраўніцтва і дапамога нізам наогул у гэтай справе. І, нарэшце— неразуменьне сутнасьці МКС, як гаспадарча-вытворчага прадпрыемства, некаторыя працаўнікі ўтожсамлялі МКС з абагуленымі коньмі і машынамі ў колгасах.

Адсюль паўстае пытаньне, апроч выпраўленьня ў гэтай справе памылак, тэрміновага ўтварэньня адпаведнай кіруючай адзінкі пры тэй ці іншай коопэрацыйнай сыстэме і рашучае разгортваньне працы па афармленьні МКС, як самастойнае гаспадарча-вытворчай адзінкі па рацыянальным скарыстоўваньні сельска-гаспадарчага інвэнтару ў колгасах.

*Удзел савецкіх гаспадарак у справе колгаснага будаўніцтва* ў сучасны момант значна павялічыўся ў параўнаньні з мінулым годам, так, напрыклад, некаторыя савгасы бралі самы актыўны ўдзел у арганізацыі колгасаў, да прыкладу, савгас Ліпава, Мазырскай акругі, за час падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы разгарнуў даволі значную працу па колектывізацыі навакольных вёсак, асабліва даволі значную пропагандысцка-арганізацыйную працу правяла грамадзкасьць савгасу—партячэйка, рабачком і добраахвотнікі-рабочыя. У выніку гэтага было організована 6 колгасаў. Такіх савгасаў налічваецца даволі значная колькасьць, але, ня гледзячы на гэта, вядучая роля савецкіх гаспадарак у справе перабудовы дробнай індывідуальнай сялянскай гаспадаркі на соцыялістычны лад не адчуваецца. Выкананьне дырэктывы лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) аб устанаўленьні непасрэднае гаспадарчае сувязі паміж савгасамі і колгасамі, з аднага боку, і прамысловасьцю—з другога боку, практычна не пастаўлена ў парадак дню. Таму праца па організацыі сумесна з колгасамі МКС і МТС, на дагаворных падставах, не вядзецца, уцягненьне колгасаў у контрактацыю сыравіны для савгаскіх тэхнічных прадпрыемстваў патрабуе большай увагі і г. д. Таму першыя крокі ў працы па колектывізацыі ня ўсюды маюць посьпех, значная колькасьць колгасаў, утвораных савгасамі, разваліілася. Ад савгасаў патрабуецца надалей больш глыбокая і сыстэматычная праца па колектывізацыі.

*Падагульваючы вынікі колгаснага буд..ўніцтва* ў бягучую с.-гасп. кампанію, трэба з усёю рашучасьцю адзначыць, што побач з бясспрэчна вялікімі дасягненьнямі ў колгасным будаўніцтве—як у напрамку колькаснага ахопу зямельнае плошчы колгасамі, так і далейшаму замацаваньню ўноў організаваных гаспадарак, аб чым сьведчыць паступовае *павялічэньне проценту абагульваньня асноўных сродкаў вытворчасьці,* значнае выкананьне пляну засыўкі насеньня—на 1-І: па зернавых культурах было ссыпана 143 проц. пляну, тэхнічным—78 проц., бульбе—90 проц. і інш., значнай падрыхтаванасьцю с.-гасп. інвэнтару ў колгасах—рамонт, значным выкананьнем плянаў насеньняачысткі (на 1-IV—92,9 проц.),—былі буйныя недахопы, як палітычнага, так і организацыйна-гаспадарчага зьместу. У выніку памянёных скажэньняў лініі партыі і пастаноў ураду і, галоўнае—недастатковага ўразуменьня ленінскае тактыкі ў працы з сялянствам—„Дзейнічаць тут (у колектывізацыі) прымусова—значыць загубіць усю справу", няпрыняцьці рашучых мер па выпраўленьні гэтых памылак, ня гледзячы на

шэраг дырэктыў партыі аб гэтым, у цэлым шэрагу раёнаў адбыўся масавы адліў сялянства з колгасаў і распад паасобных гаспадарак.

Пагэтаму, уяўляючы ўсе такія памылкі, неабходна ўсім зямельным, каапэрацыйным органам і адпаведным работнікам рашуча выправіць дапушчаныя памылкі і замацаваць існуючыя колгасы, а таксама разгарнуць працу па далейшаму колгаснаму будаўніцтву, у адпаведнасьці з данымі дырэктывамі, маючы на ўвазе выкананьне пляну колектывізацыі БССР на працягу 5-ці годкі, а таксама і па далейшаму зьнішчэньню кулацтва, як клясы.

Толькі сталае вывучэньне памылак, іх пэўнае ўсьвядомленьне павінна зьявіцца ўмовай далейшага ўнікненьня іх, а пагэтаму, папулярызуючы і ўкараняючы пастановы партыі і ўраду аб колектывізацыі, асабліва аб палёгках, сярод бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі,—колектывізацыя пойдзе шпаркім тэмпам у напрамку перабудовы вёскі на соцыялістычны лад.

18-V 1930 г.

---

Л. Якаўлеў

# Апартуністыя ў барацьбе супроць партыі

Апартуністыя ўсіх колераў, як правыя, так і „левыя“ працягваюць сваю антыпартыйную дзейнасьць. Час ад часу, то ў адным, то ў другім месцы яны падымаюць галаву з тым, каб працягнуць свае „ідэі“ і „ідэйкі“. Улюблёным мэтадам барацьбы апартуністых супроць партыі зьяўляецца мэтад дыскрэдытацыі партыйнага кіраўніцтва. У карыстаньні гэтым мэтадам яны, правыя і „левыя“, аб'ядноўваючыся ў адзіны фронт, перайшлі за межы партыйнасьці.

XIII зьезд КП(б)Б, які толькі што скончыўся, падагульваючы апошні этап соцыялістычнага будаўніцтва, канстатаваў наяўнасьць вялізарных посьпехаў у галіне рэканструкцыі прамысловасьці і соцыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі. Зьезд падвёў вынікі вялізарнай працы, якая была выканана рабочаю клясаю, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры апоры на беднату і батрацтва ў саюзе з вялікімі масамі сярэдняга сялянства, рабоце, наяўным вынікам якой зьяўляецца рашучы соцыяльны зрух, які адбываецца ў масах сераднякоў. Гэты зрух прыводзіць да таго, што серадняк, які ўвайшоў у калгас, становіцца ужо ня проста саюзьнікам, не „спадарожнікам“ рэволюцыі, ён становіцца „сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады“ (тэзісы тав. Якаўлева).

Зьезд адзначыў таксама памылкі, якія былі дапушчаны пры праводзеньні калектывізацыі ў шэрагу месц. Гэтыя памылкі, якія зьяўляюцца вынікам таго, што былі забыты ленінскія прынцыпы аб характары ўзаемаадносін з сярэднім сялянствам, былі своячасова і чотка ўскрыты ленінскай ЦК у вядомых пастановах ЦК і артыкулах т. Сталіна. У гэтых пастановах і артыкулах быў ускрыты характар памылак, іх антыленінская сутнасьць і прычыны, якія іх выклікалі. У сваім артыкуле „Адказы таварышам колгасьнікам“ тав. Сталін пісаў:

> „Галоўная справа заключаецца тут у тым, каб праявіць мужнасьць, прызнаць свае памылкі і знайсьці ў сябе сілы ліквідаваць іх у самы кароткі тэрмін. Баязьнь прызнаць свае памылкі пасьля захапленьня нядаўнімі посьпехамі, баязьнь самакрытыкі, нежаданьне выправіць памылкі хутка і рашуча—у гэтым галоўная цяжкасьць“.

КП(б)Б пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту рашуча ўзялася за выпраўленьне памылак і скрыўленьняў партыйнай лініі, якія былі дапушчаны ў справе калектывізацыі. Партыя рашучым чынам ударыла па тых, хто супраціўляўся выпраўленьню памылак, ігнараваў важнейшыя партыйныя дырэктывы і імкнуўся паказаць справу такім чынам, што перагібы і скажэньні былі законнымі, таксама як законна зараз барацьба з перагібамі. Партыя рашуча асудзіла, як антыпартыйныя і

антыленінскія, усякія разважаньні аб тым, што барацьба са скрыўленьнямі і перагібамі ёсьць „адступленьне“, „новы курс“ і г. д.

Апартуністыя ўсіх колераў, вядучы барацьбу супроць ленінскай лініі партыі, зараз ідуць прабітым шляхам. Яны выкарыстоўваюць трамплін, з якога скакалі і, скачучы, ламалі сабе галовы трацкістыя, дэцісты і інш. дробна-буржуазныя апазыцыйныя плыні ў нашай партыі. Гэтым трамплінам зьяўляецца пытаньне аб партыйным кіраўніцтве.

Для чаго гэта патрэбна апартуністу? Для таго, каб зваліць віну за памылкі і перагібы на ЦК і, дыскрэдытуючы такім чынам ЦК і яго лінію, атрымаць магчымасьць узмацніць сваe атакі на партыю.

Там-сям да XIII зьезду ўзьнімалі галаву асобныя працаўнікі з нападкамі на ЦК, з заявамі аб тым, што ЦК вінен у памылках і перагібах. XIII зьезд партыі чотка і яскрава сказаў у адказ на гэтыя ганебныя заявы:

> „XIII зьезд лічыць правільным і цалкам ухваляе рашэньні ЦК УсеКП(б) і артыкулы т. Сталіна, якія сваячасова папярэдзілі партыйныя організацыі ад рознага роду скажэньняў у практыцы колгаснага будаўніцтва—і правільна паказалі недапушчальнасьць адміністраваньня і бюрократычных захадаў у справе калектывізацыі“.
>
> (Пастанова зьезду па дакладу ЦК УсеКП(б).

І да гэтага часу працягваюцца аднак гэтыя ганебныя выступленьні. Яны не знаходзяць ніякага падтрыманьня ні ў партыі і ў шырокіх рабочых масах, ні ў бядняцка-серадняцкіх пластох сялянства. Але яны характарны тым, што, праяўляючыся на прадпрыемствах, яны сыгналізуюць аб наяўнасьці кулацкіх, права-апартуністычных настрояў сярод асобных камуністаў на нашых прадпрыемствах.

У Бабруйску на мэблёвай фабрыцы некалькі партыйцаў, пры абгаварэньні тэзісаў тав. Якаўлева, выступілі з абвінавачаньнем ЦК у няправільным кіраўніцтве справай калектывізацыі. Так, выступаўшы член ячэйкі Рычкоў заявіў:

> „ЦК партыі недастаткова кіраваў калектывізацыяй, і дзякуючы гэтаму, на мясцох дапусьцілі і адміністраваньне і скрыўленьне лініі партыі ў колгасным будаўніцтве“.

Другі з выступаўшых—Палей, падпяваючы Рычкову, гаварыў:

> „Дзякуючы недастатковай (?) установцы ЦК партыі і мясцовых органаў, як напрыклад, 100-процантная калякктывізацыя, прывяло к перагібам па колгаснаму будаўніцтву“.

Трэці, Глекель заявіў:

> „Ліст Сталіна быў позна выпушчаны, і калі здымаюць раённых працаўнікоў за перагібы—гэта няправільна. Віна цэнтральнага кіраўніцтва“. (Цытую па пратаколу агульнага сходу ячэйкі—Л. Я.).

Як рэагавала на гэтыя выступленьні парт'ячэйка, відна з пастановы агульнага сходу ячэйкі ад 11-га чэрвеня. У гэтай пастанове гаворыцца:

> „Сход ячэйкі адзначае, што, ня гледзячы на тое, што з боку ГК КП(б)Б было сваячасова і рашуча сыгналізавана аб гэтых выступленьнях, усё-ж ячэйка цалкам недастаткова і несваечасова дала рашучы адпор вылазкам правых апартуністах, ня глядзячы на тое, што асобныя таварышы, выступаючыя ў спрэчках, асудзілі іх і ячэйка аднеслася прымірэнцкі да права-апартуністычных выступленьняў (не асуджаючы прынятай рэзалюцыі), ня даўшы належнага бальшавіцкага адпору.
>
> Сход ячэйкі з усей рашучасьцю прызнае сваю памылку, якая выявілася ў прымірэнцкім дачыненьні да права-апартуністычных

выступленьняў, накіраваных на дыскрэдытацыю Ленінскага ЦК, якія садзейнічаюць наступленьню правых апартуністых, контррэвалюцыйных трацкістых і „левых“ загібшчыкаў на генэральную лінію партыі ў справе соцбудаўніцтва, якія льюць воду на млын клясавых ворагаў“. (Там-жа. Л. Я.).

Такім чынам пасьля таго, як на гэта рэагаваў партыйны камітэт пасьля таго, як асобныя партыйцы выступілі з адпорам гэтым зарваўшымся апартуністым,—пасьля ўсяго гэтага ячэйка надаўмелася прааналізаваць палітычную позіцыю Рычкова, Палея, Глекеля і іх асудзіць. Гэта сьведчыць аб недастатковай рупнасьці, аб тым, што ўвага партыйнай масы ня была асяродкавана на важнейшых пытаньнях, якія стаяць перад партыяй, што ячэйка ня ўздумала біцца да канца, супроць наскокаў на партыю. Аналёгічнае выступленьне мела месца і ў ячэйцы бабруйскага Жылсаюза. Партыйная організацыя, падтрыманая аднадушна рабочымі масамі, дала адпор вылазкам апартуністых.

Побач з гэтымі характэрнейшымі выступленьнямі мы можам канстатаваць трацкісцкія атакі на партыю і па пытаньню аб задачах прафсаюзаў у рэканструкцыйны пэрыяд. На сходзе ячэйкі абутковай фабрыкі (Менск) член ячэйкі Шуляк выступіў з прамовай, у якой імкнуўся давесьці, што прафсаюзы больш не патрэбны, што яны сябе зжываюць і г. д. Такога-ж роду думкі Шуляк разьвіваў і ў гутарках з асобнымі партыйцамі.

Гэтае выступленьне ў сваю чаргу характэрна тым, што ў ім, як у кроплі вады, адлюстроўваецца трацкісцкая ўстаноўка па пытаньню аб прафсаюзах. Меншавіцкія сьпевы аб „сращивании“, „огосударствлении“ прафсаюзаў ператвараюцца зараз у сваю супроцьлегласьць—у гутаркі аб непатрэбнасьці прафсаюзаў, аб тым, што яны зьяўляюцца лішнімі.

Надзвычайна характарным выпадкам простага права-апартуністычнага выступленьня, разьюшанай атакі на партыю і імкненьня закаваць ініцыятыву рабочае клясы ў справе стварэньня новых камуністычных форм працы, зьяўляецца справа групы партыйцаў мэханічнага цэху заводу „Пралетары“ (Гомель). Рабочыя мэханічнага цэху гэтага заводу ў ліку 33 чалавек падалі заяву аб жаданьні ўступіць у партыю. На беспартыйнай рабочай конфэрэнцыі было, па ініцыятыве мас, паднята і адзінадушна вырашана пытаньне аб стварэньні камуністычнага цэху. Хваля энтузіязма рабочых забясьпечыла вялікія посьпехі на фронце барацьбы за промфінплян.

Аднак, гэты моцны рух рабочых спаткаў зусім нечаканы адпор з боку групы партыйцаў цэхячэйкі мэханічнага цэха. Пад кіраўніцтвам сябра партыі Касавога выступілі супроць арганізацыі камуністычнага цэха.

„Няма чаго спыняцца“, „мала што рабочыя пастанавілі“. „Ня важна, калі „Пролетары“ ня сядзе на паравоз, які імчыцца да XVI зьезду“. З такімі аргумэнтамі апартуністыя выступілі супроць арганізацыі камуністычнага цэха. Дзяляцкі падход, самы адʼяўлены хвасьцізм і сабатаж пралетарскай ініцыятывы—вось чым адзначаюцца апартуністыя з заводу „Пролетары“. І, калі партыя ўдарыла па такіх махрова-апартуністычных настроях, у апартуністаў знайшлася зброя, якая ўзята напракат з арсэналу Троцкага і яго прысьпешнікаў“.

„У партыі ня існуе ўнутрыпартыйнай дэмократыі“.

„Зажымаюць вольную думку“.

Такім чынам, барацьба з апартунізмам, барацьба з правым ухілам кваліфікуецца, як „зажым“, як „парушэньне ўнутрыпартыйнай дэмократыі“.

Рабочыя па вартасьці аценілі дзеяньні апартуністаў. Не магу ня прывесьці поўнасьцю ліст рабочых, які зьяўляецца адказам на вылазку правых апартуністаў на заводзе „Пралетары“. Вось што яны пішуць:

„Мы, рабочыя Гомельскага заводу „Пралетары“, якія знаходзяцца ў Менску на вучобе, даведаліся аб актыўным выступленьні кучкі правых апартуністаў з ячэйкі мэханічнага цэху нашага заводу. Выступленьне апартуністаў было накіравана супроць зусім правільнага і важнага мерапрыемства—супроць арганізацыі камуністычнага цэху.

Рабочая кляса, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, бальшавіцкімі тэмпамі будуючы соцыялізм, высоўвае ўсё новыя і новыя формы арганізацыі рабочае клясы, новыя формы камуністычнае працы, якія дап магаюць яшчэ больш хуткаму прасоўваньню нашай краіны да сацыялізму. Групка правых апартуністаў спрабавала затармазіць уздым, які ахапіў рабочыя масы заводу. Гэтая групка ня раз ужо атрымлівала па руках за сваю права-апартуністычную працу, якая цягнула парткалектыў да разлажэньня, якая заглушала ініцыятыву лепшых рабочых.

Мы лічым недапушчальным і антыпартыйным выступленьне т.т. Іофэ, Гурар'е, Гарэліка і інш. Правыя апартуністы накшталт Касовага займаюцца тармажэньнем рабочае ініцыятывы.

Рабочая кляса, пад кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі, зьмяце са шляху будаўніцтва сацыялізму ўсіх, якія імкнуцца сарваць бальшавіцкія тэмпы, творчы ўздым пралетараў.

Разам з усім партыйным калектывам заводу мы асуджаем гэтую вылазку правых апартуністаў. Мы ўпэўнены ў тым, што рабочыя мэханічнага цэху, які мае ў сваім складзе старых кваліфікаваных, адданых партыі працаўнікоў вытворчасьці—да XVI партзьезду прыдуць у складзе камуністычнага цэху.

Мы патрабуем праверкі кіраўніцтва камсамольскай арганізацыяй заводу для таго, каб паказаць правым апартуністым іх сапраўднае месца.

Няхай жыве камуністычны мэханічны цэх заводу „Пралетары“, цэх імя XVI партзьезду!

Аргаў М., Аргаў Х., Дрыц Б., Зубароў Ф., Стасенка, Кавалёў, Ліскові́ч, Віньніцкі.

Менск, 12 чэрвеня 30 г.“.

Такім чынам, спроба правых апартуністых аказалася бітай.

Усе гэтыя факты сьведчаць аб тым, што нізавыя партыйныя арганізацыі павінны ўзмацніць работу на аснове растлумачэньня рашэньняў партыі і тэзісаў ЦК УсеКП(б), мабілізаваць увагу партыі і рабочых мас на барацьбу з права-апартуністычнымі вылазкамі і рэцыдывамі трацкізму. Пераплятаючыся сваімі карэньнямі ў дробна-буржуазнай стыхіі, правы апартунізм, „левыя“ і рэшткі трацкісцкай агентуры сьціслa працягваюць адзін другому рукі для атак супроць партыі. Гэтыя атакі павінны атрымаць рашучы і сваячасовы адпор з боку партарганізацый і шырокіх рабочых мас.

Ц. Пракопчык

# Аб тэмпах калгаснага будаўніцтва на Беларусі ў сувязі са скажэньнямі партыйнай лініі ў гэтым пытаньні*)

„Паащраючы таварыствы ўсялякага роду, а раўно сельска-гаспадарчыя комуны серадняцкіх сялян, прадстаўнікі савецкае ўлады не павінны дапушчаць ні малейшага гвалтаваньня пры стварэньні такіх. Толькі тыя аб'яднаньні каштоўныя, якія праведзены самімі сялянамі, па іх свабоднаму пачыну, і выгады якіх праверaны імі на практыцы.

Надмерная пасьпяховасьць у гэтай справе шкодная. Яна можа ўзмацніць прадупэўненасьць серадняцкага сялянства супроць новаўводзін.

Тыя прадстаўнікі савецкае ўлады, якія дазваляюць сабе ўжыць ня толькі простае, але хаця-б і частковае гвалтаваньне ў сэнсе прыяднаньня сялян да камун, павінны падлягаць суровай адказнасьці і ўхіленьню ад працы ў вёсцы“.

(Ленін, т. XVI, стар. 159).

Прыблізна ў канцы 1929 і пачатку 1930 г. абагуленая плошча зямлі ўзрасла больш як у 8 разоў. Калі на I-XI—29 г. было абагулена 8 проц. усёй плошчы, то на 1-VI—30 г. маецца абагуленай плошчы 16,1 проц., г. зн., што партыя своечасова мабілізавала ўвагу да соцыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі ўсёй партыі, рабочае клясы, бядняцка-серадняцкіх мас сялянства—усёй савецкай грамадзкасьці.

Тысячы лепшых рабочых з беларускіх фабрык і заводаў, а таксама і іншых прадпрыемств СССР накіраваліся ў вёску, каб занесьці туды вопыт калектыўнае працы, каб дапамагчы асноўным масам сялянства разабрацца ў эканамічнай мэтазгоднасьці і палітычнай неабходнасьці перабудовы адсталай, нерэнтабельнай, малатаварнай дробнай сельскай гаспадаркі ў буйную колектыўную форму, якая-б дала магчымасьць скарыстаць складаныя машыны, узьняць ураджайнасьць палёў, узьняць таварнасьць сельскае гаспадаркі, гэтым самым палепшыць дабрабыт бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, на базе разьвіцьця соцыялістычнай індустрыі і соцыялістычных форм земляробства правесьці ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнае колектывізацыі, зьнішчаючы супярэчнасьці паміж горадам і вёскай і вядзе яе да соцыялізму.

---

*) Гэты артыкул зьяўляецца часткай больш абшырнай працы, падрыхтоўваемай да друку БАН.

Акрамя старых форм змычкі рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, ажыцьцяўляюцца новыя формы змычкі—задавальненьне прамысловасьцю вытворчых патрэб сельскае гаспадаркі. Пра гэтыя новыя формы змычкі т. Сталін казаў: „Што такое новыя формы змычкі, што гэта значыць з пункту гледжаньня нашае гаспадарчае політыкі? Гэта значыць раней за ўсё, што, акрамя старых форм змычкі паміж горадам і вёскай, калі прамысловасьць задавальняла галоўным чынам асабістыя патрэбы сялянства (паркаль, абутак, наогул мануфактура і г. д.). Нам трэба яшчэ новыя формы змычкі, калі прамысловасьць будзе задавальняць вытворчыя патрэбы сельскае гаспадаркі (сел.-гасп. машыны, трактары, палепшаньне насеньня, угнаеньне і г. д.)“, і далей: „пакуль ішла справа аб аднаўленьні сельскае гаспадаркі і асваеньні сялянствам былых абшарніцкіх, кулацкіх зямель, мы маглі задавальняцца старымі формамі змычкі. Але цяпер, калі справа ідзе аб рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, гэтага ўжо недастаткова. Цяпер неабходна ісьці далей, дапамагаючы сялянству перабудаваць сельска-гаспадарчую вытворчасьць на базе новай тэхнікі і колектыўнае працы“. (І. Сталін, аб правым ухіле ва ЎсеКП(б), стар. 18).

Гэтая ўстаноўка ў асноўным была зразумета рабочай клясай і бядняцка-серадняцкай часткай сялянства. Новыя формы змычкі на даным этапе разьвіцьця нашай экономікі зусім магчымы і ў вялізарнейшай колькасьці ажыцьцяўляюцца на справе.

У БССР на I-VI—30 году мелася каля 500 трактараў і чакаецца атрымаць у наступны час яшчэ каля 200 трактараў. Акрамя гэтага, у Беларусь завезена значная колькасьць складаных сельска-гаспадарчых машын, шмат завезена штучнага ўгнаеньня, прасартыравана насеньня і г. д. Той факт, што наша прамысловасьць можа (хоць і не цалком) задаволіць вытворчыя патрэбы сельскае гаспадаркі, што працоўнымі масамі ўсьвядомлена неабходнасьць тэмпу разьвіцьця сельска-гаспадарчай вытворчасьці, падштурхоўвае яе да тэмпу разьвіцьця фабрычна-заводзкай індустрыі, што зусім адпавядае політыкі партыі,—усё гэта гаворыць за тое, што ў хуткім часе па выпраўленьні наробленых у колгасным будаўніцтве памылак, сельская гаспадарка будзе перабудоўвацца на соцыялістычны лад; вёска наблізіцца да гораду, сатрэцца мяжа, якая дагэтуль іх разьяднала. Пры ўтварэньні аграпрамысловых камбінатаў учарашні бядняк-серадняк селянін становіцца рабочым.

Тав. Сталін гаварыў: „Разам з пераўзбройваньнем нашай прамысловасьці мы павінны пачаць сур'ёзна пераўзбройваць і сельскую гаспадарку.

... Растуць гарады, павялічваюцца новыя прамысловыя пункты, пашыраюцца старыя. На гэтай базе расьце патрабаваньне на харчавыя продукты, на сыравіну для прамысловасьці. А сельская гаспадарка застаецца пры старых арудзіях, пры старых дзедаўскіх мэтадах апрацоўкі зямлі, пры старой, прымітыўнай, цяпер ужо няпрыгоднай, ці прыблізна няпрыгоднай тэхніцы, пры старых дробна-сялянскіх абасобленых формах гаспадаркі і працы.

„Чаго каштуе, напрыклад,—працягвае т. Сталін—той факт, што да рэволюцыі ў нас было каля 16 мільёнаў двароў, а цяпер іх ёсьць ня менш 25 мільёнаў? Аб чым гаворыць усё гэта, як не аб тым, што сельская гаспадарка прымае ўсё больш распылены, раздроблены характар. А характэрная рыса распыленых дробных гаспадарак заключаецца ў тым, што яны ня здольны належным чынам скарыстаць тэхніку, машыны, трактары, дасягненьні агранавукі, што яны зьяўляюцца гаспадаркамі малатаварнымі. Адгэтуль недахоп выхаду таварнасьці сельска-

гаспадарчай продукцыі. Адгэтуль небясьпека разрыву паміж горадам і вёскай, паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай. Адгэтуль неабходнасьць падцягнуць, падагнаць сельскую гаспадарку да тэмпу разьвіцьця нашай індустрыі" (Сталін, „Аб правым ухіле ў УсеКП(б)", стар. 18).

Бязумоўна, ня можа нармальна разьвівацца прамысловасьць, калі адстае ад яго тэмпу сельская гаспадарка і, наадварот, ня можа разьвівацца сельская гаспадарка данай краіны, калі не разьвіваецца фабрычна-заводзкая прамысловасьць. Тэмпы разьвіцьця абедзьвюх прамысловасьцяй павінны адпавядаць адзін другому, каб не атрымалася дыспрапорцыі, каб ня здарыўся разрыў, што бязумоўна прыводзіць да экономічных крызісаў. Але ў нашых умовах, калі гаспадарка будуецца ў плянавым парадку, існуе магчымасьць прадугледзець, папярэдзіць і рэгуляваць тэмпы пры сьвядомых адносінах да гэтага працоўных і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, а гэта дае нам магчымасьць тэмпы разьвіцьця фабрычна-заводзкай прамысловасьці зьвязваць і яны павінны весьці за сабой тэмпы разьвіцьця сельска-гаспадарчай прамысловасьці, што ў сваю чаргу дае магчымасьць пазбавіцца ад крызісаў, якіх, бязумоўна, ніколі ня можа ўнікнуць капіталізм пры існуючай уласнасьці на сродкі вытворчасьці.

Політыка компартыі Беларусі правільна накіраваная на разьвіцьцё максымальна-магчымай індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі. Гэтая політыка ахапіла мільённыя масы бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, якія ў большасьці пайшлі ў колгас дабраахвотна, пайшлі ў вялікай колькасьці ня толькі беднякі, але і серадняки, што яскрава падкрэсьлена студзеньскім і сакавіковым пленумамі ЦК КП(б)Б.

Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б так характарызаваў становішча колгаснага руху ў БССР на той пэрыод:

„Шпаркі тэмп колектывізацыі, які перавышае проэктаваньні, сьведчыць аб тым, што сьледам за беднякамі ў колгасы пайшлі шырачэзныя масы серадняцкіх гаспадарак, якія на практыцы пераканаліся ў пераважнасьці колектыўных форм земляробства".

„Дасягнуты пералом ў адносінах бядняцка-серадняцкіх мас да колгасаў зьяўляецца непасрэдным вынікам правільнай політыкі партыі на вёсцы, вынікам узмацненьня кіруючае ролі рабочае клясы ў адносінах да бядняцка-серадняцкага сялянства, вынікам магутнага росту соцыялістычнай індустрыі і ўзмацненьня вытворчых форм сувязі (змычка) рабочае клясы з асноўнай масай сялянства. Усё гэта азначае новы гістарычны этап у справе будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне".

Так характарызаваў Пленум калгасны рух на Беларусі, які быў у канцы мінулага і ў пачатку бягучага году.

Гэты Пленум даў дырэктывы і адносна далейшага будаўніцтва колгасаў, асабліва Пленумам зьвярталася ўвага партыйных організацый на работу з бядняцка-батрацкімі групамі ў колгасах, але гэта галоўнейшая партыйная дырэктыва партработнікамі, кіраўнікамі колгаснага будаўніцтва на мясцох ня была належным чынам зразумета і ня ўсюды ажыцьцяўлялася. Колгасы будаваліся на перагонкі, таварышы пагналіся за лічбай—процантам, а ўнутраная работа ў колгасах, работа з батрацка-бядняцкімі групамі, работа з жанчынамі, работа організацыйна-гаспадарчая,—усё гэта было застаўлена ў баку ад увагі практычных будаўнікоў колгасаў. Але трэба адзначыць ня толькі практычных працаўнікоў на мясцох, але і ў цэнтры некаторыя таварышы ня-

правільна разумелі колектывізацыю, аб чым сьведчаць розныя абежнікі цэнтральных устаноў, як, напрыклад, Наркамгандлю, Колгасцэнтру і г. д. наконт абагульненьня птушкі.

Трэба адзначыць, што колгасны рух, хоць і з вялікімі памылкамі, з вялікімі скажэньнямі політыкі партыі ў колгасным будаўніцтве, з вялікім парушэньнем партыйных дырэктыў, з недапушчальным адступленьнем ад ленінскіх прынцыпаў у адносінах да бедняка і серадняка, аб іх пераходзе ў соцыялістычную сыстэму з сваёй абасобленай гаспадаркай, усё-ж колектывізацыя ў большасьці мела значны посьпех, яна была падтрымана бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства. Гэтыя масы пайшлі ў колгасы, давяраючыся партыі з аднаго боку, і бачачы экономічную і політычную мэтазгоднасьць колектывізацыі, з другога. Колектывізацыя ахапіла бядняцка-серадняцкія масы, кожнага заставіла думаць аб новых формах, аб тых формах, аб якіх яны раней і ня чулі, і, бязумоўна, нават тыя, што выйшлі з колгасаў, убачыўшы скажэньне ў колгасным будаўніцтве, цяпер будуць сачыць самі за жыцьцём тых колгасаў, якія засталіся, будуць прыглядацца да іх і, убачыўшы карысьць ад іх, убачыўшы, што ўжываньне складаных машын у сельскай гаспадарцы на абагуленай плошчы зямлі дае лепшы ўраджай, палягчае працу, паляпшае культурна-бытавое становішча колгасьнікаў, убачыўшы ўсё гэта, бядняцка-серадняцкія масы, бязумоўна, у бліжэйшы час, як толькі яны ўбачаць выпраўленьне памылак, зараз-жа вернуцца ў колгас, што ўжо ў вялікай колькасьці і робіцца па нашых беларускіх раёнах.

Ня толькі зварочваюцца ў колгас ў вялікай колькасьці вышаўшыя з яго пры дапушчэньні памылак і пад'агітацыі кулацтва сераднякі, якія раней былі ў колгасах, у вялікай колькасьці ў колгасы ідуць цяпер і новыя пласты асноўных мас сялянства.

Ёсьць шмат выпадкаў у розных вёсках, дзе калі раней організатары колгаса падыходзілі да сялянства з прыгрозай, падыходзілі да сялянства з мэтадамі абагульненьня птушкі, абагульненьня дробнай хатняй жывёлы, то там сялянства ў колгасы не пайшло. А цяпер, пасьля выпраўленьня памылак, пасьля таго, калі бядняцка-серадняцкія масы пераканаліся, што партыя, бязумоўна, пераводзячы дробныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ў буйную соцыялістычную гаспадарку, выключна на дабраахвотных падставах, што абагульваюцца выключна толькі сродкі вытворчасьці і продукцыйная жывёла, што колгасьнік, член арцелі мае права весьці ў неабагуленым парадку агарод, садок, гадаваць адну карову, авечкі, сьвіньні, птушкі, што калгасьнік у колгасе не зьяўляецца парабкам, сам у сваёй гаспадарцы не атрымоўвае толькі грашовую зарплату, а зьяўляецца гаспадаром у колгасе і атрымоўвае долю сваю, прапарцыянальна працы ў колгасе атрымоўвае натурай і грашыма, што колгасьнік мае магчымасьць пайсьці, бязумоўна, калі ў калгасе ня будзе хапаць працы, на працу за межы колгасу, і што ад гэтага ўвесь заработак застаецца яму, у колгас плоціць ён з заробка за мяжой толькі 3%., але за гэтыя 3% яго непрацаздольныя члены сям'і так, як іншыя непрацаздольныя атрымліваюць утрыманьне ад колгасу, калі былі даведзены да асноўнай масы сялянства гэтыя ільготы, якія пролетарская дзяржава дае калгасьнікам, як напрыклад аслабаненьне на два гады ад сел.-гасп. падатку жывёлы, якая ў колгасе і ня ў колгасе, аслабаненьня ад падатку агароду, садоў колгасьнікаў, пчалярства і г. д.—усё гэта робіць належны ўплыў, каб бядняцка-серадняцкія масы працягвалі будаваць колгасы на Беларусі новым тэмпам.

## Дынаміка колгаснага будаўніцтва ў БССР.

| | На які тэрмін | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1/XII 29 г. | 1/I 30 г. | 1/II | 1/III | 10/III | 1/IV | 1/V | 10/V | 20/V | 1/VI |
| Лік колгасаў. . . | 1989 | 2414 | 3665 | 3665 | 3633 | 3189 | 3071 | 3029 | 3041 | 3035 |
| %% колектывізаваных гаспадарак . | 9,8 | 21.0 | 38.0 | 58.0 | 55.8 | 18,1 | 12,5 | 12,0 | 11,9 | 11,8 |
| %% абагуленай плошчы . . . . | 10.8 | 26.6 | 46,9 | 66.0 | 65,4 | 24,1 | 16,7 | 16,5 | 16,2 | 16,1 |
| %% абагуленай, улічанай жывёлы: а) рабочая . . | — | — | — | 36,6 | 38,7 | — | 81,3 | 82,7 | 86,3 | 88,6 |
| б) прадукцыйн. | — | — | — | 38,8 | 34,1 | — | 53,0 | 55,3 | 61,6 | 62,4 |

Да моманту XII Зьезду КП(б)Б было калектывізавана плошчы і гаспадарак прыблізна 1%, яшчэ ў восені 1929 г. было толькі абагулена прыблізна 3,6%. Да моманту XIII партзьезду КП(б)Б маецца прыблізна 12% па гаспадарцы, 16% па плошчы і гэтыя лічбы, бязумоўна, ужо грунтоўныя, у далейшым яны павінны толькі ўзрастаць.

Гэтая табліца паказвае дынаміку калгаснага руху, але, бязумоўна, да лічбаў да 1/V-30 г. трэба адносіцца вельмі крытычна, толькі лічбы за апошнія месяц-паўтара трэба лічыць грунтоўнымі таму, што яны праверапы шляхам перапісу, а дагэтуль—яны былі ў большасьці папяровымі.

Частка гэтае табліцы паказвае хваравітае зьявішча колгаснага руху, якое праяўлялася ў пагоні за лічбамі ў абагуленьні плошчы і двароў, а другія элементы гаспадаркі, як, напр., рабочая і прадукцыйная жывёла, таксама і сродкі вытворчасьці не абагульваліся.

Ня гледзячы на вельмі ясныя партыйныя дырэктывы аб тым, што разам з арганізацыяй колгасаў трэба зьвяртаць увагу і на абагуленьне рабочае жывёлы, на арганізацыю машынна-конных і конных станцый, якія ў бліжэйшы час у нас павінны быць асноўнай крыніцай цяглавай сілы да замены іх мэханічнай сілай: трактарамі і электрычнасьцю. Але практычнымі працаўнікамі на мясцох мала ўдзялялася ўвагі гэтаму пытаньню. Напрыклад, плошча абагулена на 1/III на 66%, а рабочая жывёла толькі на 36,6%. Пагоня за лічбамі, галавакружэньне ад лічбаў росту плошчы і гаспадарак займалі ўсю ўвагу, арганізацыйныя пытаньні, пытаньні па арганізацыі і аплаце працы, культурна-масавая праца, праца з групамі беднаты, арганізацыйна-гаспадарчая праца, арганізацыя сродкаў вытворчасьці, арганізацыя рабочай жывёлы,—усё гэта было застаўлена ў баку ад узору практычных працаўнікоў, дабавіўшы да гэтага скажэньне партыйна-ленінскіх дырэктыў і дабраахвотнасьці па ўцягненьню серадняка ў калгасы.

У Мазыры абагулена жывёлы на 10/III-30 г. 74,5%, абагулена плошчы на гэты тэрмін 88,6%, але, на жаль, у пачатку красавіка высьвятлілася, што, дзякуючы памылкам, якія рабіліся на мясцох у Мазыры ў галіне калектывізацыі, больш чым у др. акрузе, гэтыя лічбы аказаліся папяровымі. Калектывізацыя там арганізоўвалася і праводзілася не па ініцыятыве бядняцка-серадняцкіх мас, ня з нізоў, а з верху, дырэктыўным парадкам, як аб гэтым гаварыў сакратар ЦК КП(б)Б т. Васілевіч на Сакавіковым пленуме ЦК, ён казаў: „хаця ў Мазыры калек-

тывізацыя і дасягае вялікага проціанту—92, але яна там праводзілася дырэктыўным парадкам—зьверху".

Вельмі дрэнна абстаяла справа з абагуленьнем рабочай жывёлы ў Полацкай акрузе, у той час, калі рабочая жывёла абагулена толькі на 28%, плошча зямлі абагулена на 10/III-30 г. да 83%. Гэта трэба аднесьці за лік галоўнейшых памылак колгаснага будаўніцтва і ня толькі ў Полацкай акрузе, але і ў другіх, гэта падкрэсьлівае няправільны падыход да колектывізацыі. Абагульваючы плошчу зямлі, трэба разам з тым зьвяртаць самую сур'ёзную ўвагу на абагуленьне сродкаў вытворчасьці, на абагуленьне рабочай і прадукцыйнай жывёлы. Узяць у колгас зямлю, а ня ўзяць каня і плуга, чакаць пакуль прышлюць трактар—гэта будзе вялікай памылкай, ад гэтага не пашырыцца пасеўная плошча, не палепшыцца ўраджай, калі ня будзе магчымасьці належным чынам апрацаваць глебу. Ідучы такім шляхам, наша калгаснае будаўніцтва ўхілілася ў бок ад партыйных дырэктыў. Цяпер яно ў значнай меры зьвярнулася на правільны ленінскі шлях, але трэба ўзмацніць працу, замацаваць дасягненьні і прасоўвацца далей.

Калі паглядзець на другую частку табліцы, то заўважаецца вялікае зьніжэньне проціанту абагуленьня плошчы і гаспадарак, як вынік дапушчаных памылак. Аналізуючы табліцу, зьвяртаюць на сябе ўвагу лічбы саміх калгасаў, якія ў параўнаньні з гаспадаркамі і плошчай зямлі паменшыліся вельмі мала. У той час, калі абагуленьне плошчы паменшылася ў 4 разы, гаспадаркі ў 4½ разы, лік колгасаў зьменшыўся з 1/III па 1/VI толькі на 16,4% за той-жа самы час.

Асноўныя ячэйкі колгасаў захаваліся, яны хаця з хістаньнем, але маюць тэндэнцыю росту, як відаць з лічбаў за апошнюю палову мая. Гэтыя ячэйкі ў бліжэйшы час па канчатковаму выпраўленьню памылак пачнуць хуткім тэмпам расьці больш, чым яны расьлі дагэтуль у бок пашырэньня сваёй плошчы, ліку двароў, абагуленьне рабочай-жывёлы, па абагуленьню сродкаў вытворчасьці і г. д. Пытаньне з абагуленьнем жывёлы знаходзіцца ня ў дрэнным становішчы. Паступова ўзрастае абагуленьне рабочай жывёлы. Калі на 1/III было абагулена ўлічанай рабочай жывёлы 36,6%, то на 1/V маецца ўжо 81,3%, а на 1/VI—88,6%. З прадукцыйнай жывёлы на 1/III было 38,9%, на 1/V—53%, на 1/VI—62,4%.

Гэта паказвае, што колгасны рух у сучасны момант знаходзіцца ў здаровым становішчы. Разам з гэтым мы назіраем посьпех колгасаў у правядзеньні пасеўнай кампаніі, калі ня лічыць іх адсталасьць у сяеньні тэхнічных культур.

Да канца пацігодкі мелася на ўвазе калектывізацыю ў БССР давесьці прыблізна да 16 проц., а у нас ёсьць ужо, і, бязумоўна, грунтоўна на 1/VI па плошчы 16,1 проц. і гаспадарка 11,8 проц. і трэба адзначыць, што гэтыя лічбы пратрымаліся стабільна ўвесь май мес., яны, бязумоўна, далей павінны ўзрастаць.

Той, хто правёў у колгасе веснавую сяўбу, хто абагуліў сродкі вытворчасьці і сваю жывёлу—з колгасу ня выйдзе. Правідловая арганізацыя і аплата працы ў колгасах, правідловая арганізацыя гаспадарчай працы ў колгасах, рашучае і канчатковае выпраўленьне памылак, дадатковы крэдыт колгасам, тыя ільготы, якія колгасы і колгасьнікі атрымалі ад дзяржавы, пераход на новы статут сельска-гаспадарчай арцелі, правільнае скарыстаньне крэдыту, дасканальнае растлумачэньне становішча з пабочнымі заработкамі, добрае і сваячасовае правядзеньне сяўбы і ўборкі ўраджаю,—усё гэта ў значнай меры робіць і будзе рабіць на далей пералом у калгасным руху ў бок звароту ў колгас бядняцка-серадняцкіх мас сялянства.

Належнае правядзеньне працы з групамі беднаты, належнае правядзеньне працы па ліквідацыі кулачаства як клясы ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, усё гэта наблізіць бядняцка-серадняцкія масы да колгасаў, прыцягне іх у колгасы. Мы бачым, што ўжо новыя пласты бядняцка-серадняцкіх мас ідуць у колгасы, сьвядома ідуць, дабраахвотна ідуць і яны іх больш ужо не пакінуць.

* * *

Дзьве дзесяцідзёнкі з 20/II па 10/III 1930 году заслугоўваюць увагі таму, што яны зьяўляюцца пераломным момантам у колгасным руху Беларусі. У гэты пэрыод найбольш праявіліся тыя памылкі, якія былі дапушчаны ў колгасным руху.

У гэты пэрыод, калі шпаркім тэмпам ішла падрыхтоўка да вясеньняй сяўбы, калі ўжо канчаткова практычна павінны быць аформлены колгасы, калі мала было быць упісанаму ці запісацца ў колгас, мала было падняць руку за колгас, ці не супярэчыць, калі запісвалі, а трэба было даць насеньне, аддаць у колгас каня, сродкі вытворчасьці. У гэты час там, дзе былі парушаны Ленінскія прынцыпы добраахвотнасьці, там, дзе адсутнічала ці нездавальняюча была пастаўлена праца з батрацка-бядняцкімі масамі і жанчынамі, там, дзе таварышы гналіся за павялічэньнем проценту колгасаў, не зварачаючы ўвагу на іх унутрыколгасную організацыйна-гаспадарчую працу, там, дзе скажалася работнікамі партыйная лінія, там, дзе не саблюдаліся дасканальна партыйныя дырэктывы,—там колгасны рух пайшоў на ўбыль. У гэту двухдзесяцідзёнку запісаныя ці залічаныя без дасканальнай падрыхтоўкі павыходзілі. Перш за ўсё колгасы паменшыліся, за лік папяровых лічбаў.

Выходзілі з колгасаў малаасьведамлёныя, не атрымаўшыя належнага растлумачэньня аб сутнасьці колгасаў, аб неабходнасьці організацыі колгасаў, аб эканомічнай мэтазгоднасьці колгасаў, ня маючыя ні малейшага ўяўленьня (бо ім аб гэтым ніхто толкам не растлумачыў), што сельская гаспадарка ня можа быць законсэрвіраванай, ня можа аставацца пры дзедаўскіх мэтадах апрацоўкі, пры апрацоўцы зямлі дзеравянай бараной і дзеравяным плугам, калі фабрычна-заводзкая соцыялістычная прамысловасьць расьце, сельская гаспадарка таксама павінна расьці, павінна пераходзіць на соцыялістычны лад ўсьлед за гарадзкой прамысловасьцю і на базе яе разьвіцьця. Вёска павінна бліжэй падыходзіць да гораду, павінна праводзіцца організацыя буйных гаспадарак у вёсцы з гэтых дробных, малатаварных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на базе суцэльнай колектывізацыі павінна праводзіцца ліквідацыя кулака як клясы, павінен праводзіцца пераход дробных абасобленых сельскіх гаспадарак у соцыялістычную буйную гаспадарку. Ня ведалі гэтага бядняцка-серадняцкія масы, і пад агітацыю кулацтва і другіх цёмных элемэнтаў выходзілі з колгасаў.

Але ня толькі па гэтаму серадняк вышаў з колгасу, ён вышаў яшчэ і таму, што ў шмат якіх выпадках, уцягнуўшы серадняка ў колгас, мы пакінулі яго аднаго, працы належнай з ім не вялі, не вялі таксама працы і з батрацка-бядняцкімі групамі, з жанчынамі, па растлумачэньню сутнасьці колгасу ў той час, як кулак на яго што-дня ўплываў, кулак выкарыстоўваў нашыя памылкі для таго, каб вывесьці серадняка з колгасу, а памылак было шмат, парушэньняў партыйных дырэктыў было шмат, іх трэба цяпер неадкладна выпраўляць.

уплывала на выход серадняка з колгасу і няўмелая організацыя працы ў колгасах. Серадняк у некаторых выпадках ня верыў у правідловую організацыю і рацыянальнае скарыстаньне працоўнай сілы ў колгасах. Гэтаму пытаньню мала ўдзялялася ўвагі, пагоня за лічбамі адцягала ўсю ўвагу.

Толькі пасьля шэрагу рашучых партыйных дырэктыў у веснавую пасеўную кампанію, гэтай справе пачалі ўдзяляць на мясцох сур'ёзную ўвагу.

Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б у сваёй рэзолюцыі падкрэсьліваў неабходнасьць колгаснага будаўніцтва на дабраахвотнай ініцыятыве батрацка-бядняцка-серадняцкіх мас сялянства. У рэзолюцыі пісалася:

„Пленум ЦК з усёй сур'ёзнасьцю перасьцерагае ўсе партыйныя організацыі супроць якога бы та ні было дэкрэтыраваньня зьверху колгаснага руху, які можа стварыць небясьпеку падмены сапраўднага соцыялістычнага спаборніцтва па організацыі колгасаў, гульнёй у калектывізацыю“.

У другім месцы той-жа рэзолюцыі Пленуму ЦК гаворыцца накот працы з батрацка-бядняцкімі масамі:

„Ва ўмовах абвостранай барацьбы з кулацтвам, што непасрэдна зьвязана з магутным масавым ростам калектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, асабліва неабходна ўзмацненьне політычнае ролі бядняцка-батрацкага ядра, стварэньне і ўзмацненьне батрацка-бядняцкіх груп, Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя організацыі прыняць захады да ўзмацненьня ўплыву бядняцка-батрацкіх груп на работу па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі“.

Калі мы паглядзімо, як гэтыя галоўнейшыя дырэктывы партыі выконваліся, то мы прымушаны будзем прызнаць, што ў некаторых выпадках работнікі забылі гэтыя дырэктывы, дабавіўшы да гэтага галавацяпства, што выявілася ў пагрозах і г. д. Гэтым парушалася добраахвотнасьць. Гэта ёсьць скрыўленьне Ленінскае лініі партыі. Вельмі дрэнна адбілася ў некаторых выпадках неразуменьне сутнасьці соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Каб галоўным абагульваць асноўныя фонды, сродкі вытворчасьці, рабочую і продукцыйную жывёлу, некаторыя таварышы браліся за абагульваньне птушак, за абагульваньне дробнае хатняе жывёлы і г. д.

Пасьля скажэньня політыкі партыі ў колгасным будаўніцтве, пасьля дапушчэньня шэрагу галавацяпстваў, прыблізна з 20/II 1930 г. тэмп колгаснага будаўніцтва ў Беларусі ня толькі застанавіўся, а нават пачаў зьмяншацца.

Перш за ўсё, як мы казалі раней, тэмп колгаснага будаўніцтва ў нас паменшыўся за лік папяровых колгасаў, за лік тых лічбаў, якія даваліся і нягрунтоўна. Вельмі часта даваліся, як фактычныя тыя лічбы, якія меліся на ўвазе ўперадзе. Раскідаліся тыя колгасы, якія ствараліся галавакружыцельным тэмпам, якія ствараліся тым мэтадам і тэмпам, пра які на сакавіковым Пленуме ЦК КП(б)Б гаварыў старшыня ЦКК КП(б)Б тав. Калнін. Ён казаў:

„Некаторыя практычныя работнікі хваліліся, што: „я сёньня чатыры колгасы стварыў, а дамоў едучы ствару яшчэ і пяты“,—як гэтыя колгасы даўгавечны, як яны моцны, як і што яны надалей будуць рабіць, гэтыя таварышы тады аб гэтым ня думалі, яны толькі гналіся за лічбаю. Вось гэта і было памылкай, адной з памылак, у колгасным будаўніцтве, якія адмоўна адбіваліся на яго тэмпе і выклікалі яго паніжэньне.

Знаходзяцца такія, як гаварыў Сакратар ЦК КП(б)Б т. Гей на сходзе Менскага гарадзкога партактыву, што спрабуюць гэтую справу

прадставіць так, што прыпыненьне разьвіцьця колгаснага руху зьяўляецца вынікам зьяўленьня артыкулу т. Сталіна аб галавакружэньні ад посьпехаў. Але калі мы паглядзім на лічбы, характарызуючыя колгасны рух у БССР і лічбы пачатку спыненьня тэмпу і некаторага яго зьніжэньня і супроцьпаставіць гэтыя лічбы з датаю выхаду артыкулу т. Сталіна (2/III—30 году), то мы ўбачым, што гэта далёка не супадае, што колгасны рух прыпыніўся і пачаў зьмяншацца шмат раней, чым зьявіўся артыкул т. Сталіна. Артыкул тав. Сталіна і належныя дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б былі ўжо адказам на тыя скажэньні ў колгасным руху, якія былі дапушчаны раней для больш поўнага доказу неправаты опортуністычных выкрыкаў і складаньня віны на артыкул т. Сталіна. Мы паглядзім на лічбы колгаснага руху і на яго тэмп, калі ён пачаў зьмяншацца.

Аб гэтым мы бачым, уважліва разабраўшы, з ніжэйзьмешчанай табліцы:

| На які тэрмін / Што абагулена | На 1/XI 1929 г. | На 1/XII 1929 г. | На 15/XII 1929 г. | На 1/I 1930 г. | На 20/I 1930 г. | На 1/II 1930 г. | На 10/II 1930 г. | На 20/II 1930 г. | На 1/III 1930 г. | На 10/III 1930 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік росту колгасаў . . . | 1943 | 1989 | 2096 | 2414 | 2813 | — | 3763 | — | 3665 | 3633 |
| % абагуленай плошчы зямлі | 8% | 10,8 | 17,3 | 23,1 | 35,1 | 46,9 | 59,6 | 65,0 | 66,0 | 65,4 |
| % абагуленай жывёлы . . | — | — | — | — | 20,0 | — | 29,3 | Кароў | 38.9 | 34,1 |
| | | | | | | | | Коняй | 36,6 | 38,7 |
| % абагуленьня двароў . . | 6,1 | — | — | 21,0 | — | — | — | — | 58% | 55,8 |

А лічбы гэтае табліцы паказваюць, што лік колгасаў з 10/II па 1/III зьменшыўся на 102 колгасы. Хаця тут могуць быць супярэчаньні, што лік колгасаў зьменшыўся за кошт іх узбуйненьня. Таму паглядзім дынаміку росту абагуленьня плошчы, як больш грунтоўнай часткі і сталай.

Пачынаючы з 1/XII—29 г. па 1/I—30 г. плошча зямлі ўзрастала за адзін месяц на 6,5 проц., з 1/I—па 20/I—узрасла на 12 проц., з 20/I па 1/II маем узрост за 10 дзён на 11,8 проц. абагуленай плошчы. З 1/II па 10/II—12,7 проц. З гэтага моманту абагуленая плошча і рост колгасаў па тэмпу зьмяншаецца, і мы маем рост колгасаў з 10/II па 20/II і рост абагуленьня зямельнай плошчы за гэты час толькі на 5,9 проц., а з 20/II па 1/III толькі на 0,5 проц., а за наступную дзесяцідзёнку з 1/III па 10/III—30 году ў наяўнасьці *зьмяншэньне* абагуленай плошчы зямлі на 0,6 проц.

За гэтую самую дзесяцідзёнку маецца зьмяншэньне абагуленай жывёлы на 4,8 проц., зьмяншэньне абагуленых двароў на 2,2 проц. і г. д. Гэта паказвае, што прыпыненьне тэмпу колгаснага руху, яго зьмяншэньне, пачалося да зьяўленьня артыкулу тав. Сталіна.

Гэта яскрава паказвае, што ў час самага вялізарнейшага росту колгаснага будаўніцтва выявіліся зробленыя памылкі, як гэта адзначаў т. Галадзед на сакавіковым Пленуме ЦК КПБ. Памылкі нарабленыя ня толькі ў нізах, але і цэнтральнымі работнікамі, цэнтральнымі ўстановамі.

Беларускі Наркамгандаль даў дырэктывы колгассыстэме аб абагуленьні птушак. Колгасцэнтр і малочны саюз Беларусі далі дырэктывы аб абагульненьні птушак як у тых колгасах, якія арганізаваны, так і ў тых, што будуць арганізоўвацца. Наркамздароўя таксама „дапамог“ калектывізацыі—прапанаваў забараніць продаж з вазоў сала і мяса у „мэтах санітарнага нагляду“. Тут артыкул т. Сталіна не вінаваты, а справа ў тым, што артыкул т. Сталіна, дырэктывы ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б, якраз білі па такіх недапушчальных скажэньнях, якія былі зроблены ў колгасным будаўніцтве. Артыкул прышоўся не да смаку тым, хто хацеў на нашых памылках у колгасным будаўніцтве пагрэць рукі, усе цёмныя элемэнты, якія прытуліліся ў межах СССР, а значыцца і ў БССР, выхоўвалі надзею, што вялікі тэмп колгаснага будаўніцтва, ідучы такім мэтадам як ён ішоў, выкліча нездавальненьне сялянства, што будзе ім на руку. І сапраўды, зробленыя памылкі былі на руку ворагам працоўных, былі на руку кулакам, гэтым вясковым капіталістым, былі на руку рознага роду ўхілістым, яны лілі ваду на іх млын, і г. д.

Бязумоўна, трэба прызнаць вялікаю хлусьнёй размовы опортуністых, што дырэктывы партыі аб выпраўленьні памылак ў колгасным будаўніцтве, што артыкул т. Сталіна і належныя дырэктывы партыі,— усё гэта ёсьць адступленьне ад генэральнае лініі партыі.

Ніякага адступленьня ад генэральнай лініі партыі няма, калі партыя выпраўляе памылкі сваіх паасобных членаў, калі партыя заварочвае на хаду, заблуканых паасобных членаў на генэральную лінію партыі, паказвае ім цьвёрды шлях. Папраўка памылак—гэта не адступленьне, а партыя папраўіла памылкі, зробленыя некаторымі таварышамі ў колгасным будаўніцтве, партыя своечасова, на падставе ленінскіх заветаў, на падставе ленінізму-марксізму, давала дырэктывы як праводзіць калектывізацыю і цяпер яна ад гэтых дырэктыў не адступае. А вось чаму было ў нас скажэньне партыйных дырэктыў, чаму патрабавалі некаторыя апартуністы дыскусіі па артыкулу т. Сталіна, дык па мойму т. Васілевіч, Сакратар ЦК КП(б)Б, на сакавіковым Пленуме правільна на гэтае пытаньне адказвае, ён гаварыў:

> „Дырэктывы партыі па гэтаму пытаньню (колгаснаму будаўніцтву—*Ц. П.*) былі своечасовы, зусім выразныя і правільныя. Аднак чым жа вытлумачыць патрабаваньні опортуністычнымі элемэнтамі дыскусіі па артыкулу т. Сталіна? Каб адказаць на гэтае запытаньне, трэба мець на ўвазе невялікую праслойку пролетарыяту ў БССР і моцны націск на партыю дробна-буржуазнай стыхіі“ і далей:
>
> „Мы маем выпадкі недацэнкі серадняка, абароны кулака, спакойныя адносіны да дырэктыў партыі па рабоце з батрацтвам і беднатой. Было-б няправільна ўсё гэта тлумачыць віною выключна раёнаў“. („Зьвязда“ ад 31-III—30 г.)

Вось іменна моцны націск дробна-буржуазнай стыхіі ўплываў на пашырэньне памылак. Калі некаторыя таварышы раней удараліся ў правы опортунізм, то пасьля таго, калі яны былі прызваны да парадку і пастаўлены на месца, яны кінуліся ў другі бок, у „левы“ заскок, ня прытрымліваліся партыйных дырэктыў, ленінскіх указаньняў наконт колгаснага будаўніцтва і праз арцелі як асноўную форму пачалі арганізаваць камуны.

Больш за ўсё скажэньне партыйнай лініі ў колгасным будаўніцтве было па дабраахвотнасьці ўступу ў колгасы. Формы парушэньня добраахвотнасьці ўжываліся розныя: пагражалі арыштам, высылкай у Салаўкі, у Сібір і г. д.

У некаторых мясцох праводзілася абагульненьне насеньня сялян, якія ня ўступілі ў колгас, у Лельчыцах, Мазырскае акругі, дадумаліся выдаць загад аб абагульненьні будынкаў сялян, якія ў колгас не пайшлі. У Гомельскай акрузе, вёска Васільеўка, Цэраўскага раёну, на сходзе, на якім прысутнічала каля 300 сялян, выступаючыя партыйцы гаварылі:

„Мірным шляхам нашых сялян усё роўна ў колектыў не зацягнеш. Трэба пазбавіць ня ўступіўшых у колгасы паявых кніжак, не даваць насеньня, і наогул прыняць шэраг іншых мер адміністрацыйнага парадку, а іначай нашы дзядзькі ня пойдуць у колгас“.

Былі выпадкі, калі выступаўшыя супроць колгасаў бедdespite і серадняякі арыштоўваліся і трымаліся пад стражаю.

Вялікая памылка была таксама ў парушэньні прынцыпа добраахвотнасьці ў абагульваньні птушак замест недастатковага абагульненьня коняй і сродкаў вытворчасьці. Парушаліся партыйныя дырэктывы, парушаліся асноўныя прынцыпы ленінізму ў падыходзе да серадняка, які бачыць экономічны ўзрост соцыялістычнага будаўніцтва, давяраючыся партыі пад яе кіраўніцтвам пры дапамозе рабочае клясы, вядзе барацьбу з кулаком. Серадняк у асноўнай сваёй масе пашоў у колгасы, прызнаў гэтую форму адзінай магчымай для соцыялістычнай перабудовы дробнай гаспадаркі ў буйную соцыялістычную гаспадарку, але, дзякуючы дапушчаным ухіленьням ад ленінізму, ухіленьням ад генэральнай ленінскай лініі партыі, наробленыя паасобнымі работнікамі памылкі, пачалі хістаць серадняка, выклікалі ў яго некаторыя непаразуменьні ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Ня малую ролю ў гэтым, бязумоўна, адыграла кулацкая агітацыя там, дзе з колгасьнікамі не вялося работы.

У 1919 годзе на VIII зьезьдзе РКП тав. Ленін казаў:

„Больш усяго мы павінны грунтавацца на тым, што тут мэтадамі гвалтаваньня па самай сутнасьці справы нічога ня можна дасягнуць. Тут экономічная задача стаіць зусім інакш, тут няма той верхавіны, якую можна зрэзаць, заставіўшы ўвесь падмурак, той вярхушкі, якой у горадзе былі капіталістыя, няма. Рабіць тут гвалтам,—значыць згубіць усю справу.

Задача тут зводзіцца не да экспропрыяцыі серадняцкага сялянства, а да таго, каб улічыць асабістыя ўмовы жыцьця селяніна, для таго, каб вучыцца ў селяніна спосабам пераходу да лепшага строю і ня думаць камандаваць. Вось правілы, якія мы сабе паставілі“. (Ленін, т. XVI, стар. 150-151).

А як у нас на справе? Як выконваліся гэтыя ленінскія задачы, задачы партыі? Ці памяталі гэта таварышы, рабіўшыя памылкі тады, калі яны не растлумачаньнем, а пагрозай, уцягвалі серадняка ў колгас, ды яшчэ ў які колгас, у вышэйшую яго форму—у комуну.

Па Леніну, серадняка ўцягваць у колектыўную форму землякарыстаньня, у колектыўную форму працы, у колектыўнае карыстаньне сродкамі вытворчасьці можна прыцягваць толькі добраахвотна і ён добраахвотна пойдзе, калі яму будзе растлумачана экономічная і палітычная метазгоднасьць колгасу, калі ён на практыцы ўбачыць карысьць і мэтазгоднасьць справы.

І там, дзе аб гэтым памяталі, там, дзе быў спачатку здаровы правільны падыход да серадняка, там з пабудованага колгасу серадняк ня вышаў і ня выйдзе. Там колгас пакінут серадняком, дзе яго пад пагрозай зацягнулі ў колгас.

Тав. Сталін у адказе колгасьнікам, „Правда“ ад 3-IV—30 г. кажа, што асноўных памылак у колгасным будаўніцтве было тры. Першая—пару-

шэньне ленінскага прынцыпу добраахвотнасьці, пры пабудове колгасу, другая—парушэньне ленінскага прынцыпу ў ліку разнаколернасьці ўмоў розных раёнаў СССР, прыстасоўча да колектывізацыі, і трэцяя памылка—парушэньне ленінскага прынцыпу ў пераскакваньні праз ніжэйшую форму колгасу—арцель, проста да комуны. Хоць у БССР разнаколернасьць раёнаў невялікая, але ўсё-ж. такі ёсьць і гэтую разнаколернасьць пры калектывізацыі трэба мець на ўвазе. І гэта мелася на ўвазе, калі належнымі дырэктывамі ўстанаўлівалася living рознатэрміновасьць суцэльнай колектывізацыі раёнаў і акруг БССР.

Паганяемыя павялічэньнем проценту калектывізацыі, некаторыя таварышы пашлі далей узросту мас, мінулі ўзровень росту мас, зрабілі трэцюю памылку па Сталіну сваімі заскокамі праз сельскагаспадарчую арцель у комуну. Супроць абгону росту мас, нас ня раз папераджаў т. Ленін. Ён казаў:

„Калі Петраградзкі пролетарыят і салдаты Петраградзкага гарнізону бралі ўладу, яны добра ведалі, што для будаўніцтва ў вёсцы сустрэнуцца вялікія цяжкасьці, што тут трэба ісьці больш паступова, што тут спрабаваць уводзіць дэкрэтамі, узаконеньнямі абагуленую апрацоўку зямлі было-б вялізарнейшаю бязглуздасьцю, што на гэта можа пайсьці малая колькасьць сьвядомых, а вялікая колькасьць сялян гэтае задачы ня ставіла. Таму мы абмяжоўваліся тым, што абсолютна *не абганяючы разьвіцьця мас,* а чакаючы, пакуль на ўласным вопыце гэтыя масы з іх уласнай барацьбы вырасьце рух наперад“. (Ленін, т. XV, ст. 538-539).

Не апярэджаньне ўзросту мас, гэта, бязумоўна, ня значыць, што паміж імі партыя не павінна весьці належнае работы, работы ў належным напрамку. У даным выпадку мы павінны вясьці сярод бядняцка-серадняцкага насельніцтва працу па падрыхтоўцы іх да соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, мы павінны на практыцы паказаць бядняцка-серадняцкім масам мэтазгоднасьць колгасаў, мэтазгоднасьць буйнай гаспадаркі. Мы павінны ім усё гэта растлумачыць, але не адміністраваць у гэтым напрамку. Мы павінны бядняцка-серадняцкім масам даказваць неабходнасьць збліжэньня вёскі з горадам, неабходнасьць падгону тэмпу разьвіцьця сельскае гаспадаркі да тэмпу разьвіцьця прамысловасьці, да тэмпу разьвіцьця соцыялістычнай рэконструкцыі нашай прамысловасьці. За гэтым тэмпам павінна праходзіць соцыялістычная рэконструкцыя і сельскае гаспадаркі.

Як казаў тав. Галадзед на сакавіковым пленуме ЦК КП(б)Б у сваім дакладзе, „у нас шмат якія таварышы самі ня ведалі, што яны організоўваюць: ці таварыства па агульнай апрацоўцы зямлі, ці арцелі, ці комуны“. І, бязумоўна, на практыцы гэта так было. Гэтым і тлумачыцца пераскок без належных умоў да комуны, не падрыхтаваўшы да гэтага належным чынам асноўных мас сялянства, што складала ў іх непаразуменьне: „як гэта так, ні з таго, ні з сяго ды раптам, агульны стол“. А тут яшчэ кулак нашэптываў, што зараз будзе і агульная коўдра. Як гэта так, што ў серадняка бяруць усё, нават і курэй, не чакаючы на гэта яго згоды, не правёўшы належнае працы з ім, яму не растлумачылі сутнасьць колгасу, без яго жаданьня запісалі яго ў колгас, таму ў такіх выпадках у першы магчымы момант серадняк пакінуў колгас. Тым больш, што з боку батрацка-бядняцкіх мас, пры адсутнасьці належнай працы з імі, належнага ўплыву на серадняка ня было для таго, каб ён застаўся ў колгасе, а кулакі, бачачы нямінучую пагібель для сябе ў суцэльнай колектывізацыі, усяляк стараліся вывесьці серадняка з колгасу, паменшыць тэмп колектывізацыі, ці зусім яго зруйнаваць.

Наконт кулакоў, гэтых вясковых капіталістых, што пілі кроў з сэрца селяніна і мазгі з яго галавы (Маркс), былі вельмі ясныя і своечасныя дырэктывы як іх не дапушчаць у колгасы, а нашы галавацяпы ў адным месцы раскулачвалі серадняка, аб чым нямала маецца прыкладаў, а ў другіх пускалі ў колгас кулака і ня толькі пушчалі ў колгас, але нават дапушчалі кулака да кіраўніцтва. Напрыклад, у Віцебскай акрузе ў Бельніцкім раёне, у Бельніцкай сельска-гаспадарчай арцелі старшынёй гэтае арцелі быў кулак Грыгор'еў, які меў свае камяніцы, свой уласны алейны завод, 3 малатарні і нават лакамабіль, і гэтымі сродкамі вытворчасьці эксплёатаваў батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы, якія проста так і гаварылі, што мы ў колгасе ня будзем да таго часу, пакуль кіраваць ім будзе кулак Грыгор'еў, бо нас як і раней будзе эксплёатаваць сям'я гэтага кулака.

Бядняцка-серадняцкія масы так і кажуць: прымеце кулака з колгасу, тады мы пойдзем у колгас і г. д. і бязумоўна, калі мы прымем кулака з колгасу, дык бедната пойдзе туды.

Кулачʻё бачыць сваю немінучую гібель у суцэльнай колектывізацыі, і рознымі спробамі імкнулася гэтаму пашкодзіць, і яно ішло на ўсё, каб затармазіць колгасны рух і яны вельмі шмат пашкодзілі колгаснаму будаўніцтву.

Надалей неабходна на базе суцэльнай колектывізацыі праводзіць рашуча ліквідацыю кулацтва як клясы.

Кулак—вораг Савецкай улады, кулак—вораг працоўных, кулак—вораг соцыялізму, апошні ня можа разьвівацца пры наяўнасьці эксплёатацыі клясы клясай, кулак—вораг соцыялістычнай рэконструкцыі, кулак—вораг колгасу, а цярпець гэтых паразытаў, што нажываліся на голадзе і беднасьці працоўных, падпальваючых колгасы, забіваючых колгасных дзеячоў (Сталін), надалей мы ня можам.

Калі іх і цярпелі, як кажа т. Сталін, праводзячы політыку абмежаваньня іх эксплёататарскіх тэндэнцый да гэтага часу, калі нельга было замяніць іх кулацкую гаспадарку, то цярпець гэтых павукоў, крывапійцаў, забойцаў і падпальшчыкаў колгасаў ня можна тым больш таму, што на даным этапе экономічнага разьвіцьця вёскі мы кулацкую гаспадарку з вялікай ліхвой можам замяніць соцыялістычнай буйнай гаспадаркай колгасаў і саўгасаў (Сталін).

Наш недагляд у некаторых выпадках дапусьціў у колгас кулакоў, якія так і вялі працу, каб колгас распаўся. Кулакі сьвядома скрыўлялі лінію партыі ў колгасным будаўніцтве, а некаторыя партыйцы гэтага не разумелі і былі сьляпым узброеньнем у руках кулакоў супроць колгасаў.

Наглядаліся яшчэ памылкі і такога сэнсу, калі колектывізацыю зьвязвалі з зачыненьнем маліцьвенных дамоў, прычым рабілася гэта наскокам без належнае падрыхтоўкі.

Некаторыя так захапіліся колгаснымі лічбамі, так захапіліся процантам, што ня толькі не маглі ўбачыць сваіх памылак, але калі былі дадзены належныя дырэктывы аб пераходзе на новы статут с.-г. арцелі, калі былі выкрыты іх памылкі, то яны так расьцяраліся, што ня ведалі, што ім рабіць. Знайшліся і такія, якія жадалі дыскусаваць па артыкулу т. Сталіна, якія ня здольны былі зразумець правіловае політыкі партыі, гэта яўны ўплыў кулацкае ідэолёгіі, усе гэтыя заскокі таксама як і парушэньне дабраахвотнасьці лілі ваду на млын опортуністых і кулакоў, якія дарма зларадьнічалі над нашымі памылкамі. Паасобнымі організацыямі была праяўлена нячутнае, абураючае, нягоднае, шкоднае, злачыннае паводжаньне да партыйных дырэктыў, як, напрыклад, у Шклоўскім раёне, забаронена распаўсю-

джаньне „Праўды“ з артыкулам т. Сталіна, сяляне плацілі за яе па 3-5 рублёў (з дакладу т. Гея,—Сакратара ЦК КП(б)Б на сходзе Менскага Гарадзкога партактыву). Такія памылкі вельмі шкодныя. Таварыш Сталін гэтыя памылкі ацэньвае так: „Небясьпека ляжыць у тым, што яны, гэтыя памылкі, вядуць нас простым шляхам да разьвенчываньня колгаснага руху, да разладу з серадняком, да дэзарганізацыі беднаты, да замяшацельства нашых шэрагаў, да паслабленьня нашага соцыялістычнага будаўніцтва, да аднаўленьня кулацтва. Кажучы коратка, гэтыя памылкі маюць тэндэнцыю штурхнуць нас са шляху ўзмацненьня сувязі з асноўнымі масамі сялянства, з шляху ўзмацненьня пролетарскай дыктатуры на шлях разрыву з гэтымі масамі, на шлях падрыву гэтае дыктатуры“.

„Галоўная справа тут у тым, каб выявіць мужнасьць, прызнаць свае памылкі і знайсьці ў сабе сілы зьліквідаваць іх у найкарацейшы тэрмін“. (Правда, от 3-IV—30 г.).

Бязумоўна, гэтыя памылкі павінны быць безадкладна выпраўлены. Трэба палепшыць працу з беднатой, батрацтвам і жанчынамі, неабходна безадкладна ўсе „маладыя“ калгасы перавесьці на новы статут сельска-гаспадарчай арцелі, бязумоўна, не забараняецца, там, дзе гэта ўжо магчыма, і калі будзе праяўлена добраахвотнасьць з боку членаў колгасу, пераходу і да вышэйшай формы колгасу—комун.

Трэба даказаць наша ўменьне на хаду перабудоўвацца, на хаду выпраўляць свае памылкі, гнаць панікёрства, гнаць левае фразёрства, жорстка вядучы барацьбу з правым опортунізмам.

Цяжкасьці ў асноўным прароблены. Цяпер добрая падрыхтоўка да сяўбы, добрая падрыхтоўка да ўборкі і яе сваечасовасьць па цэламу шэрагу раёнаў і вёсак, правядзеньне належнай працы з батрацтвам, беднатой і жанчынамі, пераход на новы статут с.-г. арцелі, растлумачэньне ільгот, якія даюцца колгасьнікам, умелы падыход да выпраўленьня памылак ужо даў добрыя вынікі, а ў далейшым, бязумоўна, вынікі будуць яшчэ лепшыя. На гэтай падставе беларускія калгасы ўжо маюць новыя колёны колгасьнікаў, шмат выпадкаў, калі сяляне не згаджаліся пайсьці ў колгас раней, калі ў іх прапанавалі забраць каня, усе каровы, сьвіньні, авечкі, куры, усю зямлю, сад, агарод,—дык цяпер, калі бядняцка-серадняцкая частка сялянства ўбачыла пераход на новы статут, што цяпер зусім другія ўмовы, што па новаму статуту ён можа мець карову, авечкі, сьвіньні, курэй, зямлю, кусок агароду, сад, што па новаму статуту абагульваецца толькі зямля (акрамя ўсадзьбы, агароду і некалькі поля, якое застаецца ва ўласным карыстаньні колгасьнікаў), сродкі вытворчасьці, коні. Што на ўнесены пай у колгас, які ўносіцца ў пропорцыянальнасьці да экономічнай ёмкасьці гаспадаркі ў належнай пропорцыянальнасьці будзе разьмяркоўвацца па паях 5 проц. з агульнага звароту колгасу, г. зн. што хто больш унёс паёў, той больш у канцы опэрацыйнага гаспадарчага году атрымае на гэтыя паі, акрамя аплаты працы яшчэ і налічэньня з гэтых 5 проц. Пры чым, у вольны час, колгасьнік можа браць колгаснага каня і паехаць у заработкі, за што атрымоўвае сам ад 40 да 60 проц., бязумоўна, каня павінен глядзець добра, як раней глядзеў свайго. Пры ўмове, калі конь у колгасе будзе бяз працы, колгасьнік будзе мець магчымасьць паехаць куды яму трэба, а ў іншых выпадках, як, напрыклад, паездка за доктарам, то прыдзецца распрэгчы і з плугу. Калі ўсё гэта дакладна серадняку будзе растлумачана, што многія ўжо і робяць, селянін-серадняк у колгас вернецца. І ўжо ў колгасы ня толькі зварочваюцца тыя што вышлі з колгасаў, але цэлыя пласты новых беднякоў і сераднякоў уступаюць у колгасы.

У Дубровенскім раёне, у выніку ўзмацненьня растлумачальнай працы, галоўным чынам сярод беднаты і жанчын, і пераводу колгасу на новы статут, зараз прылiваюць у колгасы і тыя, што раней і ня думалі быць у колгасах, і тыя, што падалі заявы аб выхадзе. Такія факты наглядаюцца ў вёсках „Новая жухань", „Анцыленка", „Добрава" „Мордахі" і інш.

Такія зьявішчы наглядаюцца ў Аршанскай акрузе і іншых мясцох.

Аздароўленыя колгасы, калі з іх выбудзе ўсё выпадковае, чужое, якое хістаецца, хоць апошняе павінна быць падхоплена і апрацована ў бок колгасу, калі будуць усьвядомлены цалком памылкі і будуць яны выпраўляцца, калі будзе наладжана праца з групамі беднаты, калі будзе наладжана праца ўнутры калгасу, як сьлед, калі будзе наладжана ў колгасах гаспадарча-вытворчая праца, калі асноўныя масы сялянства будуць знаць сутнасьць колгасаў, калі будзе ліквідавана думка, што колгас гэта нешта чужое, а не свая такая-ж гаспадарка, дык колгаснае будаўніцтва ў БССР пойдзе па новаму здароваму шляху да суцэльнае колектывізацыі, якая, бязумоўна, будзе праведзена да канца пяцігодкі.

У чым сутнасьць далейшай практычнай працы колгасаў? Адказваючы на гэта пытаньне, т. Сталін гаворыць:

„Наступныя практычныя задачы колгасаў складаюцца ў барацьбе за сеў, у барацьбе за найбольшае пашырэньне пасеўнай плошчы, у барацьбе за правільную організацыю сева. Да задач севу павінны быць прыстасаваны цяпер усе другія задачы колгасаў. Гэта значыцца, што ўстойлівасьць колгасаў, іх беспартыйнага актыву, іх бальшавіцкае асяродзьдзе будзе правярацца не на траскучых рэзолюцыях, не на шырокавяшчальных прывітаньнях,—а на жывой справе—правідловай організацыі сева". (Сталін).

У колгасным будаўніцтве вялікую ролю адыгрывае прыцягненьне для працы ў колгасе па розным галінам беспартыйнага актыву. Трэба скарыстаць яго гаспадарчы вопыт. Тав. Сталін па гэтаму пытаньню гаворыць, што некаторыя комуністыя думаюць, што яны самі ўсё могуць, што беспартыйныя масы беднякоў і серараднякоў недастаткова прыцягваюцца да працы ў колгасах, гэта памылка, яе трэба на справе зьліквідаваць.

„Гісторыя нашай партыі даказала, што прайшоўшы пэрыод колгаснага будаўніцтва лішні раз паказаў, што такая ўстаноўка зьяўляецца ў корані няправільнай. Калі комуністыя запіраліся-б у сваёй шкарлупе, адгараджвалі сябе сьцяной ад беспартыйных, яны-б загубілі-б усю справу.

Калі комуністым удавалася пакрыць сябе славай у баёх за соцыялізм, а ворагі комунізму разьбіты, то гэта, між іншым, таму, што комуністыя маглі прыцягваць да справы лепшых людзей з беспартыйных, яны ўмелі чэрпаць сілы сярод шырокіх пластоў беспартыйных, яны ўмелі абкружаць сваю партыю шырокім беспартыйным актывам.

Цяпер гэты недахоп нашае работы з беспартыйнымі павінен быць зьліквідаваны рашуча і беспаваротна". (Артыкул тав. Сталіна—„Адказ колгасьнікам", „Правда", 3-IV—30 г.).

Выправіць недахопы, выправіць памылкі, зьліквідаваць іх у корані, паставіць на правільныя рэйкі працу колгасаў, ажыцьцявіць партыйныя дырэктывы ў гэтым напрамку,—гэта будзе добры адказ правым опортуністым, якія радаваліся нашым памылкам у нашым колгасным будаўніцтве, у соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Бядняцка-серадняцкія масы сялянства, пры дапамозе рабочае клясы, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, бязумоўна, выйдуць з гэтых

цяжкасьцяй і дружна будуць працягваць будаваць соцыялізм у нашай краіне, будуць праводзіць рэконструкцыю сельскае гаспадаркі, будуць праводзіць суцэльную калектывізацыю, зьнішчаючы кулака як клясу, выканаюць дырэктывы па правядзеньню суцэльнай калектывізацыі ў тэрміны, вызначаныя ЦК КП(б)Б.

Сакавіковы Пленум ЦК КП(б)Б 1930 году так пастанавіў: „Безадкладная самая энэргічная і па-бальшавіцку настойлівае выпраўленьне дапушчаных скажэньняў і перагібаў у калектывізацыі, на падставе паказаньняў, даных у пастановах ЦК УсеКП(б) і артыкулу т. Сталіна („Правда“ ад 2-III—30 г.)—зьяўляецца аднэй з каранных і асноўных задач кожнага члена партыі, члена ЛКСМ рабочых брыгад, членаў с.-с. і ўсіх грамадзкіх працаўнікоў. Неабходна павесьці самае бязьлітаснае змаганьне з тымі членамі партыі і ЛКСМ, якія не разумеюць вялікай важнасьці і не жадаюць праводзіць паказаных пастаноў ЦК УсеКП(б) і артыкулу тав. Сталіна. Трэба даць рашучы адпор усім тым разважаньням, якія імкнуцца трактаваць правільныя дырэктывы нашае партыі аб неабходнасьці безадкладнага выпраўленьня дапушчаных у радзе месц скажэньняў і перагібаў, як адступленьне назад, як быццам-бы перагляд лініі партыі на калектывізацыю. Такія разважаньні ёсьць праяўленьне правага опортунізму ў тых людзей, якія не разумеюць лініі партыі, саслізнуліся на мэтады адміністраваньня і неразуменьня шкоднасьці гэтых мэтадаў у справе колектывізацыі. Не адступленьне назад, а выпраўленьне ў працы раду месц перагібаў, скажэньняў, замацаваньне дасягнутых посьпехаў з тым, каб на гэтых падставах няўхільна ісьці наперад па шляху суцэльнае калектывізацыі. Ні кроку не адступаючы, а крок за крокам замацоўваючы дасягнутае, разьвіваючы самую ўпартую і энэргічную масавую політычна-выхаваўчую работу па падрыхтоўцы да далейшай колектывізацыі, так і ня інакш павінны быць зразумелы дырэктывы ЦК УсеКП(б).

---

# МАТАР'ЯЛЫ і ДАКУМАНТЫ

## XIII зьезд КП(б)Б

### Рэзалюцыя зьезду па дакладу тав. Мануільскага аб рабоце ЦК УсеКП(б)

XIII зьезд Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі, заслухаўшы даклад тав. Мануільскага, цалкам ухваляе палітычную лінію і арганізацыйную дзейнасьць Цэнтральнага Камітэту Усесаюзнай Камуністычнай Партыі (бальшавікоў).

XIII зьезд канстатуе, што за 2 з пал. гады, якія прайшлі з XV зьезду УсеКП(б), партыя, ня гледзячы на цэлы рад труднасьцяй зьнешняга і ўнутранага характару, дабілася пад правільным кіраўніцтвам Ленінскага Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б) буйнейшых дасягненьняў ва ўсіх абсягах сацыялістычнага будаўніцтва і міжнароднай палітыкі.

Аналіз капіталістычнай сыстэмы і міжнароднага становішча, даны партыяй і Камінтэрнам, цалкам апраўдаўся.

За апошні пэрыяд мы маем факт быстрага разьвіцьця сусьветнага крызісу капіталістычнай гаспадаркі і абвастрэньне, як зьнешніх, так і ўнутраных супярэчнасьцяй капіталістычнай сыстэмы ў цэлым.

У выніку гэтага мы маем абвастрэньне клясавага змаганьня, шырокі пад'ём масавага рэвалюцыйнага руху рабочае клясы капіталістычных краёў і магутную хвалю рэволюцыйных паўстаньняў у каленіях (Кітай, Індыя), якія ўсё больш становяцца пад сьцягі Камінтэрну.

У выніку гэтага крызісу і ўзмацненьня гаспадарчага становішча і пад'ёму сацыялістычнай прамысловасьці СССР яшчэ больш абвастрыліся супярэчнасьці між капіталістычным сьветам і Савецкім Саюзам.

Магутны рост сацыялістычных элементаў у Савецкім Саюзе выклікае шалёны націск і нянавісьць буржуазіі і сацыял-фашызму да краю будуючагася сацыялізму. З боку сусьветнага капіталізму ідзе энэргічная падрыхтоўка да ўзброенага нападу на СССР.

Аднак, правільная палітыка Цэнтральнага Камітэту, ня гледзячы на цяжкія ўмовы, забясьпечыла ўзмацненьне міжнароднай моцы СССР і яго ролі, як краю пралетарскай дыктатуры і вогнішча сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

Мірная палітыка Савецкае ўлады, якая цьвёрда праводзілася за мінулы пэрыяд, узмацненьне баяздольнасьці Чырвонай арміі і гатоўнасьць рабочае клясы СССР і міжнароднага пралетарыяту абараняць край будуючагася сацыялізму, забясьпечылі правал цэлага раду правакацыйных выступленьняў імпэрыялізму і яго агентаў (Кітайска-ўсходняя чугунка, рад правакацый на Захадзе, спроба ўзарваць наша прадстаўніцтва ў Варшаве, крыжовы паход папы і г. д). Адпор усім гэтым спробам паказаў агромністую згуртаванасьць вакол партыі шырокіх працоўных мас нашага Саюзу і моц Чырвонай арміі.

XIII зьезд КП(б)Б адзначае ўзмацненьне ўплыву і ролі нашых брацкіх партый у капіталістычных краёх, далейшыя посьпехі ў справе бальша-

візацыі на аснове рашучага змаганьня з правымі, якія зьяўляюцца галоўнай небясьпекай на сучасным этапе, а таксама і з „левымі“ апартуністычнымі элемэнтамі і прымірэнцтвам да іх у тэорыі і практыцы.

XIII зьезд ухваляе правільную дзейнасьць дэлегацыі УсеКП(б) у Камінтэрне і яе змаганьне за бальшавізацыю брацкіх кампартый.

Рашаючыя посьпехі ў выкананьні пляну вялікіх работ сацыялістычнага будаўніцтва, ва ўмовах абвостранага клясавага змаганьня і шалёнага супраціўленьня клясавага ворага, сьведчаць аб правільнасьці генэральнай лініі нашай партыі. Выкананьне і перавыкананьне пляну паказала, што пад правільным кіраўніцтвам ЦК партыі асноўная устаноўка на індустрыялізацыю нашага краю і сацыялістычную рэконструкцыю народнай гаспадаркі ў цэлым, асабліва тэмпы разьвіцьця цяжкай індустрыі і вытворства сродкаў вытворства,—зьяўляецца адзінаправільнай і дае поўную гарантыю таго, што задачы—дагнаць і перагнаць перадавыя ў тэхнічна-эканамічных адносінах капіталістычныя краі—будуць выкананы ў самыя кароткія гістарычныя тэрміны.

Устаноўкі правых апартуністых, якія прапанавалі ўзяць арыентоўку на „вузкія месцы“ і даказвалі немагчымасьць высокіх тэмпаў індустрыялізацыі і сацыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, а таксама і прадраканьні трацкістых аб тым, што немагчыма пабудаваць сацыялізм у адным краі, аказаліся абвержанымі самім жыцьцём. Наперакор усякім прадраканьням, партыя дабілася за першыя два гады пяцігодкі ўзросту валавой прадукцыі плянуемай прамысловасьці на 65 проц. замест намечаных плянам 47 проц.; уся буйная прамысловасьць, якая плянуецца і не плянуецца, дала рост на 59 проц. замест 43 проц.; прадукцыя машынабудаўніцтва ўзрастае за два гады ў два з лішнім разы; электратэхнічная прамысловасьць узрастае ў 2,7 разы, прадукцыя с.-г. машын узрастае ў 3,5 разы; капітальныя ўкладаньні ўзрастаюць з 1.800 млн. да 4.000 млн. руб.

Адзначаючы вялікія дасягненьні ў абсягу сацыялістычнага будаўніцтва, XIII зьезд ня можа прайсьці міма тых паасобных прарываў у абсягу выкананьня прамфінпляну, асабліва па лініі выкананьня якасных паказальнікаў, якія пагражаюць ажыцьцяўленьню намечаных тэмпаў сацыялістычнай рэканструкцыі. Выходзячы з гэтага, зьезд падкрэсьлівае важнасьць задачы мабілізацыі ўсёй партыі і рабочай клясы, прафсаюзных і гаспадарчых органаў на ліквідацыю меўшых месца прарываў, вядучы рашучае змаганьне за павышэньне якасьці прадукцыі, за зьніжэньне сабекошту, павышэньне прадукцыйнасьці працы, што можа быць з посьпехам вырашана пры ўцягненьні новых пластоў рабочых у сацспаборніцтва, ударныя брыгады, давядзеньне плянавых заданьняў да паасобных цэхаў і варштатаў і пасьлядоўнае правядзеньне прынцыпу адзінаначальля.

Магутны рост сацыялістычнай індустрыі, павялічэньне яе ўдзельнай вагі і вядучай ролі ва ўсёй народнай гаспадарцы, забясьпечылі магчымасьць вырашэньня задачы, якое яшчэ ня бачыла ніколі гісторыя,—задачы сацыялістычнай рэканструкцыі ўсёй сельскай гаспадаркі. Рост буйных савецкіх гаспадарак, а таксама масавы добраахвотны ўваход у калектывы асноўнага пласта сялянства,—як беднякоў, так і сераднякоў,—даў партыі магчымасьць паставіць і ў асноўным вырашыць задачу карэннага павароту сельскай гаспадаркі на рэйкі калектывізацыі і разам з гэтым перайсьці ад лёзунгу абмежаваньня і выцясьненьня кулацтва да лёзунгу ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі. Шырокі размах калгаснага руху, будаўніцтва буйных сельска-гаспадарчых фабрык—саўгасаў, ужываньне ў шырокіх разьмерах новай тэхнікі (трактары, камбайны) яшчэ раз абверглі і нанесьлі

канчатковае паражэньне правым і „левым“ апартуністым і далі магчымасьць пад правільным кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) зрабіць рашаючы паварот вёскі да сацыялізму.

Ня гледзячы на антысераднякція перагібы і скажэньні лініі партыі, дапушчаныя радам партыйных арганізацый, таксама і ў КП(б)Б, у справе калгаснага будаўніцтва намечаны плян калектывізацыі на сёньня аказаўся значна перавыпаўненым, асабліва ў найважнейшых збожжавых раёнах (40-50 проц.).

XIII зьезд лічыць правільнымі і цалкам ухваляе пастановы ЦК УсеКП(б) і артыкулы т. Сталіна, якія своечасова папярэдзілі партыйныя арганізацыі ад рознага роду выкрыўленьняў у практыцы калгаснага будаўніцтва і правільна ўказалі недапушчальнасьць адміністраваньня і бюракратычных прыёмаў у справе калектывізацыі.

Праводзячы і надалей неаслабную работу па ўзмацненьні і пашырэньні сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, зьезд разам з гэтым лічыць неабходным не аслабляць работы па ўзмацненьні кіруючай ролі пралетарыяту ў адносінах індывідуальнага сэктару сельскай гаспадаркі шляхам энэргічнага правядзеньня вытворчага каапэраваньня бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, упартай і сыстэматычнай работы сярод беднаты, узмацненьня саюзу з серадняком і ўстанаўленьня правільных узаемаадносін паміж калгасамі і індывідуальнікамі, усялякая дапамога калгасаў і саўгасаў бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, што павінна забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне лініі суцэльнай калектывізацыі і на яе аснове—ліквідацыя кулацтва, як клясы.

Асаблівую ўвагу зьезд адводзіць вырашэньню праблемы жывёлагадоўлі, якая павінна і можа быць поўнасьцю вырашана толькі ідучы па шляху буйнай аграмаджанай гаспадаркі.

Ленінская нацпалітыка ЦК УсеКП(б) забясьпечыла значнае падняцьце і ўзмацненьне эканамічнага і культурнага ўзроўню адсталых рэспублік і народаў СССР. За апошні пэрыяд у сувязі з бурным тэмпам рэканструкцыі гаспадаркі і ростам культурнага будаўніцтва яна дала асабліва выразныя вынікі.

Яшчэ больш высокія тэмпы будаўніцтва, рост гаспадаркі нацыянальных рэспублік, у тым ліку і БССР, рост пралетарскай праслойкі ў гэтых рэспубліках зьяўляюцца лепшымі доказамі правільнасьці гэтай палітыкі. Бурныя тэмпы будаўніцтва ў нацрэспубліках былі-б немагчымы без аказаньня дапамогі ім сіламі ўсяго СССР.

Усё гэта рашуча абвяргае ўстаноўкі нацыянал-апартуністых, адмаўляючыя тыя вялікія дасягненьні, якія мы маем у правядзеньні нацыянальнай палітыкі. Гэтыя дасягненьні таксама б'юць па нацыянал-дэмакратызьме, які зьяўляецца ідэалёгічным сьцягам буржуазіі, у першую чаргу адчайна супраціўляючагася кулацтва, робячага спробу павярнуць край са шляху сацыялізму на шлях буржуазнай рэстаўрацыі.

Гіганцкі рост індустрыі, вялікія посьпехі па ўсім фронце народнай гаспадаркі і пралетарскае культуры, выкананьне прамфінпляну пад правільным кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) далі магчымасьць партыі па-новаму паставіць пытаньне аб мэтадах работы і падняць да актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве новыя мільёны працоўных.

Вялікую ролю і значэньне на шляху да сацыялізму адыграла і мае ў далейшым адыграць разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі. Толькі на аснове вялікіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, пры дапамозе самакрытыкі, пад правільным кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) можна было ўцягнуць ў сацбудаўніцтва новыя мільёны працоўных, разгарнуць іх актыўнасьць, высунуць задачу перабудовы па-новаму работы прафсаюзаў і грамадзкіх арганізацый, стварыць новыя сац. мэтады працы

пралетарыяту, выклікаць да жыцьця сотні тысяч ударных брыгад і разгарнуць сацспаборніцтва, прыступіць і разгарнуць работу рашучага высоўваньня і энэргічнай падрыхтоўкі новых кіруючых кадраў з асяродзішча рабочай клясы, а таксама кадраў пралетарскіх спэцыялістых для ўсіх галін сацыялістычнага будаўніцтва, і на гэтай падставе адкрыць новыя рэзэрвы для тых паскораных тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, аб якіх „мы раней і марыць не адважваліся". (Ленін).

Дасягненьні партыі ў абсягу сацыялістычнай рэканструкцыі яшчэ раз бліскуча пацьвярджаюць правільнасьць палітыкі партыі і канчатковы крах праваапартуністычнай тэорыі аб дэградацыі сельскай гаспадаркі, аб размычцы з серадняком.

Наперакор права-апартуністычным цьверджаньням і контр-рэвалюцыйным атакам трацкізму, партыя здолела зрабіць прамысловасьць магутнай зброяй уздыму сельскай гаспадаркі, здолела замацаваць змычку рабочай клясы і беднаты з серадняком і расшырыць сацыяльную апору партыі ў вёсцы.

Масавы дабравольны ўваход працоўнага сялянства ў калгасы ўтварыў новы тып аграмаджанай гаспадаркі, які дае гарантыю быстрай сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі, які значна зьмяняе суадносіны эканамічных укладаў і клясавых адносін у нашым краі і расшырае апорную базу пралетарыяту ў вёсцы.

XIII зьезд лічыць правільным палажэньне, сфармуляванае ў тэзісах тав. Якаўлева аб тым, што „па-новаму ставіцца цяпер пытаньне аб апоры савецкай улады ў вёсцы. З гэтага часу ў найважнейшых збожжавых раёнах СССР вёска дзеліцца на дзьве асноўныя часьці: на калгасьнікаў, якія зьяўляюцца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады, і на некалгасьнікаў з беднаты і сераднякоў, пакуль што яшчэ не жадаючых увайсьці ў калгасы, але якіх нясумненна пераканае масавы вопыт калгасаў у адносна самыя кароткія тэрміны ў неабходнасьці пайсьці па шляху калектывізацыі".

Шляхам падвядзеньня пад калгасы базы буйнога мэханізаванага гаспадараньня, з дапамогай беднаты і батрацтва, будуць перарабляцца дробна-ўласьніцкія перажыткі і інстынкты ў серадняка-калгасьніка. Шляхам упартай работы, уцягваючы ў калгасы яшчэ не ўвайшоўшую ў іх беднату і сераднякоў, узмацняючы саюз з серадняком, ЦК правільна паставіў задачу—ажыцьцявіць у самы кароткі гістарычны тэрмін зьніштажэньне векавой супрацьлежнасьці між горадам і вёскай.

Гэтыя задачы можна выканаць толькі на ленінскім шляху, у бязьлітасным змаганьні за генэральную лінію партыі, у рашучым змаганьні з усімі элемэнтамі перараджэньня ў асобных праслойках партыі. Генэральная чыстка ад чужых, прымазаўшыхся і перарадзіўшыхся элемэнтаў, якая была праведзена, дала вялікае ўзмацненьне клясавай баяздольнасьці нашай ленінскай УсеКП(б).

XIII зьезд КП(б)Б заяўляе, што найважнейшай задачай нашай партыі і надалей застаецца змаганьне на два фронты — супроць правага ўхілу, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „левых" загібаў, якія дапамагаюць правым у іх наскоках на лінію партыі і супроць прымірэнцтва да правых і „левых" ухілаў.

Зьезд рашуча асуджае і заяўляе, што КП(б)Б дасьць рашучы адпор спробам усіх апартуністых, якія імкнуцца апарочыць ленінскае кіраўніцтва ЦК і якія абвінавачваюць ЦК УсеКП(б), што ён нібыта несваячасова зьвярнуў увагу на выпраўленьне зробленых мясцовымі арганізацыямі памылак і скажэньняў лініі партыі ў калектывізацыі. Зьезд лічыць, што гэтыя спробы па істоце маюць сваёй мэтай падарваць

давер'е да генэральнай лініі партыі і да яе кіраўніцтва, а таксама рэвізаваць ленінскую палітыку партыі, сарваць плян сацыялістычнага будаўніцтва.

XIII зьезд КП(б)Б патрабуе ад былых лідэраў правых апартуністых разгорнутай бальшавіцкай крытыкі сваіх апартуністычных памылак, рашучага і актыўнага змаганьня супроць ўсякіх спроб правых ухілістых рэвізаваць ленінскую генэральную лінію партыі, супроць усялякіх наскокаў і дыскрэдытацыі ленінскага кіраўніцтва партыі — Цэнтральнага Камітэту ЎсеКП(б) і яго палітыкі.

Толькі цьвёрдае і пасьлядоўнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі яшчэ больш узмоцніць гаспадарчае і міжнароднае становішча Савецкага Саюзу, вызваліць канчаткова Савецкі Саюз ад тэхнічнай і эканамічнай залежнасьці ад капіталістычных краёў і ўзмоцніць абароназдольнасьць пралетарскай дзяржавы, зробіць СССР яшчэ больш моцным фактарам паскоранага разгортваньня пралетарскай рэвалюцыі ва ўсім сьвеце. Толькі ў непрымірымым змаганьні на два фронты — супроць правых, як галоўнай небясьпекі на сучасным этапе, і „левых", а таксама і прымірэнцаў, партыя застанецца яшчэ больш згуртаванай, адзінай і моцнай для таго, каб давесьці СССР да канчатковай перамогі сацыялізму.

---

# Рэзалюцыя XIII зьезду КП(б)Б

## па дакладу тав. Трылісэра аб рабоце ЦКК УсеКП(б)

1. Заслухаўшы даклад тав. Трылісэра аб рабоце ЦКК УсеКП(б), XIII зьезд КП(б)Б прызнае лінію ЦКК правільнай і ўхваляе ўсю работу ЦКК УсеКП(б) за пэрыяд ад XV зьезду УсеКП(б).

ЦКК УсеКП(б) цьвёрда стаяла на варце ленінскага адзінства партыі, на аснове яе генэральнай лініі, завяршаючы барацьбу з рэшткамі контр-рэвалюцыйнага трацкізму і праводзячы рашучую барацьбу з правым ухілам, як галоўнейшай небясьпекай на даным этапе, „левымі“ загібамі і прымірэнцтвам да апартунізму ўсіх колераў.

2. За справаздачны пэрыяд ЦКК прарабіла вялікую працу па генэральнай праверцы і чыстцы шэрагаў УсеКП(б) ад сацыяльна - чужых, прымазаўшыхся, абюракратыўшыхся і разлажыўшыхся элемэнтаў, ад элемэнтаў буржуазна-мяшчанскага перараджэньня, зросшыхся з кулацтвам і г. д. Генэральная чыстка зьявілася магутным аружжам партыі ў барацьбе супроць права-апартуністычнай ідэалёгіі і практыкі, супроць рэцыдываў контр-рэвалюцыйнага трацкізму, прымірэнчых адносін да ўхілаў, супроць скажэньняў клясавай лініі і хваравітых зьявішч, у выніку чаго яшчэ больш узмацніліся шэрагі партыі, падвысіўся аўтарытэт яе і ўзмацнілася давер'е шырокіх рабочых мас да партыі, што асабліва яскрава вызначылася ў вялікім прытоку ў партыю лепшых перадавых рабочых.

3. За час паміж XV і XVI зьездамі, ЦКК УсеКП(б) правяла вялізарную працу па праверцы выкананьня дырэктыў партыі, асабліва ў галіне капітальнага будаўніцтва і машынабудаўніцтва, як базы індустрыялізацыі, правяла працу па палепшаньні і спрашчэньні дзяржаўнага апарату, па скарачэньні выдаткаў і захаваньні рэжыму эканоміі, па барацьбе з множнасьцю кантролю, забясьпечваючы ўсёй гэтай працай ажыцьцяўленьне галоўнага лёзунгу партыі „пяцігодка ў чатыры гады“.

4. XIII зьезд КП(б)Б канстатуе, што арганізаваная і праведзеная пад кіраўніцтвам ЦКК УсеКП(б) чыстка савецкага апарату пры ўдзеле шырокіх рабочых і працоўных мас значна садзейнічала справе палепшаньня апарату і набліжэньню яго да мас; чыстка апарату зрабіла зрух у складаньні сапраўднага рабочага кантролю над савецкім апаратам, у разгортваньні самакрытыкі ўнутры яго і арабачэньні апарату за лік вычышчаных клясава-варожых бюракратычных элемэнтаў.

5. XIII зьезд канстатуе, што ЦКК УсеКП(б) сваёй працай і правільным кіраўніцтвам дабілася значных вынікаў у справе ажыцьцяўленьня лёзунгу партыі аб самакрытыцы, у прыватнасьці XIII зьезд са задаваленьнем адзначае, што ва ўмовах КП(б)Б дырэктывы і паказаньні ЦКК УсеКП(б) садзейнічалі далейшаму разгортваньню самакрытыкі. Выявілі рад фактаў скажэньня лёзунгу самакрытыкі і садзейнічалі ўзмацненьню

барацьбы з правым ухілам і завастрэньню барацьбы са ўсякага роду шавінізмам і ў першую чаргу з беларускім нацыянал-дэмакратызмам.

6. XIII зьезд з асаблівым задаваленьнем канстатуе посьпехі, дасягнутыя органамі ЦКК-РСІ ў справе ажыцьцяўленьня дырэктывы XV зьезду партыі ў галіне ўцягненьня шырокіх рабочых і наогул працоўных мас у справу палепшаньня савецкага апарату і барацьбы з бюракратызмам.

Зьезд адзначае ўзмацніўшыйся ўдзел рабочых мас у справе ажыцьцяўленьню кантролю над працай дзяржапарату ў форме шэфства рабочых над савецкімі ўстановамі, рабочых брыгад, часовых кантрольных камісій, сэкцый саветаў, росту добраахвотніцтва па лініі ўдзелу ў працы Рабкрына і г. д., дзякуючы чаму партыя дабілася значных посьпехаў у барацьбе з бюракратызмам і ў працы па палепшаньні дзяржаўнага апарату.

7. XIII зьезд КП(б)Б упэўнен, што дзейнасьць ЦКК УсеКП(б) і наперад будзе накіравана на захаваньне ленінскага адзінства партыі на падставе яе генэральнай лініі і барацьбу як з правым—галоўнай небясьпекай на даным этапе—так і „левым“ апартунізмам і прымірэнцтвам да іх; на замацаваньне вынікаў генэральнай праверкі і чысткі партыі і барацьбу з хваравітымі зьявішчамі сярод партыйцаў, узмацніўшы адначасова ў дзейнасьці партыйных і кантрольных органаў выхаваўчую працу для папярэджаньня гэтых зьявішч.

ЦКК УсеКП(б) у сваёй далейшай дзейнасьці павінна яшчэ больш разгарнуць барацьбу са скажэньнямі дырэктыў партыі па самакрытыцы, дабіваючыся таго, каб самакрытыка ў сапраўднасьці стала асноўным мэтадам усёй працы па сацыялістычным будаўніцтве, па ажыцьцяўленьні баявога лёзунгу партыі—„пяцігодка ў чатыры гады“.

XIII зьезд лічыць, што ў далейшай працы органаў КК-РСІ па чыстцы савецкага апарату ад нягодных элемэнтаў, па палепшаньні, патаненьні і арабочаньні яго—неабходна яшчэ больш мабілізаваць увагу партыйных, прафэсыянальных арганізацый, дабіваючыся рашучага зруху ў працы па перабудове савецкага, гаспадарчага, каапэрацыйнага і прафсаюзнага апарату, у суадпаведнасьці з задачамі і тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва, забясьпечыўшы сапраўдны масавы пралетарскі кантроль над працай апарату і ажыцьцяўленьне ідэі Ільліча аб „бясплатным выкананьні дзяржаўных абавязкаў кожным працоўным“.

---

Рэдкалегія: С. Будзінскі. А. Саевіч. А. Сянькевіч.

## ЗЬМЕСТ № 5

